ЛІТАРАТУРА
І МАСТАЦТВА

# ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

18 ліпеня 1997 г. № 29/3905 Кошт 3 000 руб.





***Вобразы беларускага замежжа***

# На дарогах Новага Свету

Беларусы ЗША і Канады вандруюць між Полацкам, Слуцкам і Менскам — паселішчамі, заснаванымі тут эмігрантамі з нашай краіны. За сотні міль яны імкнуцца ў свае святыні, назовы якіх з самага сэрца Беларусі — Кірылы Тураўскага, Ефрасінні Полацкай альбо Жыровіцкай Божай Маці. Амерыканскія дарогі злучаюць нашых землякоў. Аўтамабілі беларусаў можна лёгка пазнаць па нумарах, на якіх напісана "Пагоня", "Васілёк" ці вось як на гэтым — "Беларусь".

**Анатоль КЛЯШЧУК**
*Фота аўтара*






## ЛМ КОЛА ДЗЁН

***Цяжка зразумець, чаму на Беларусі надаецца такая выключная ўвага таму, як праходзяць уступныя экзамены ў ВНУ. У адзін момант усе выкладчыкі — дацэнты і прафесары — залічаны ў спіс нядобранадзейных і падазраваемых. Кожны з іх — патэнцыйны хабарнік ды злачынца, кожны спіць і бачыць, як гэта "зарэзаць" чэснага абітурыента... І дзеля таго, каб захаваць сацыяльную справядлівасць, зноў створана спецыяльная кантрольная камісія. Прэзідэнт Беларусі, як памятаем, пачаў некалі сваю дзейнасць з зачытвання тэм сачыненняў да ўступных экзаменаў і стварэння гэтакай камісіі. Шмат крытыкавалі яго тады, называлі гэта "не царскай справай". Час прайшоў, а сітуацыя не змяняецца. Сёлета зноў "ход экзаменаў" будзе знаходзіцца пад пільным кантролем кіраўніка дзяржавы. Больш таго, кожны, хто палічыць, што да яго паставіліся прадузята, можа паскардзіцца ў дзяржкамісію па кантролі. Гэта толькі знешне, людзям, далёкім ад навукі і адукацыі, такія намеры могуць здавацца добрымі, але ж мы ведаем, што менавіта "добрымі намерамі выбрукавана дарога ў пекла"...***

### ПЕРАМОВЫ ТЫДНЯ

15 ліпеня ў Мінску аднавіліся трохбаковыя перамовы паміж прадстаўнікамі Вярхоўнага Савета 13-га склікання і Адміністрацыяй прэзідэнта Беларусі пры пасрэдніцтве дэлегацыі Еўрасаюза. І другі раўнд перамоў адбываецца за зачыненымі дзвярыма. Канфідэнцыйнасць зместу іх строга захоўваецца ўсімі бакамі. "Ноу коментс", — як сказаў журналістам міністр замежных спраў Беларусі І. Антановіч... Даходзяць, праўда, чуткі, што "высокія беларускія бакі" ніяк не могуць дамовіцца, якую ж Канстытуцыю яны будуць удасканальваць: 1994 года ці 1996. Кожны бок стаіць на сваім і саступаць не збіраецца.

### ПРЫЗНАЧЭННЕ ТЫДНЯ

Прэзідэнт Беларусі падпісаў указы аб перастаноўках у вышэйшым кіраўніцтве краіны: Уладзімір Русакевіч вызвалены ад пасады намесніка прэм'ер-міністра РБ і прызначаны першым намеснікам кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта РБ; Уладзімір Замяталін вызвалены ад пасады старшыні Дзяржкамдруку РБ і прызначаны намеснікам прэм'ер-міністра РБ. Аглядальнікі, каментуючы гэтыя прызначэнні, сцвярджаюць, што ў прэзідэнцкай камандзе назіраецца крызісная сітуацыя: няма прытоку свежых сіл і розуму, а гэтакая перастасоўка "кадраў" дае падставы прыгадваць мараль вядомай байкі Крылова: "А вы, друзья..."

### КАНФІСКАЦЫЯ ТЫДНЯ

На мінулым тыдні яшчэ адна чутка стала яваю: прэзідэнцкая адміністрацыя аб'явіла пра "нацыяналізацыю" 22 адметных будынкаў у Мінску, што належаць розным арганізацыям (у тым ліку Саюзу беларускіх пісьменнікаў, Беларускаму гуманітарнаму ліцэю ды інш.). Пісьменнікі, дзеячы культуры, выкладчыкі, навучэнцы пратэстуюць, выстаўляюць пікеты, даказваюць сваё права валодаць сваімі будынкамі. Аднак, складваецца ўражанне, што ніхто іх не чуе, бо чуць не хоча...

### НОВАЎТВАРЭННЕ ТЫДНЯ

Дэпутат расійскай Думы Мікалай Ганчар аб'явіў аб стварэнні расійска-беларускага руху "Народнае адзінства". Рух будзе займацца зборам подпісаў у Расіі і Беларусі за правядзенне ўсенароднага рэферэндуму аб аб'яднанні нашых краін у адзіную саюзную дзяржаву. Беларусь і беларусаў у ганчароўскім руху прадстаўляюць у асноўным славянасаборацы, у тым ліку і "вядомы беларускі акцёр і рэжысёр" з Урала У. Гасцюхін... У тым, што ў Расіі неабходная колькасць подпісаў будзе сабрана, "рухаўцы" ўпэўнены, а вось наконт Беларусі нібыта ёсць сумненні: невядома пакуль, як на іх ініцыятыву адрэагуе А. Лукашэнка...

### ВЫГНАННЕ ТЫДНЯ

На чарговым пленуме ЦК Партыі камуністаў беларускай прынята адно неардынарнае рашэнне: з партыі "за маладушша і трусасць... за прамую здраду..." былі выключаны яшчэ 22 камуністы, былыя дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі, якія падчас кастрычніцка-лістападаўскага супрацьстаяння перайшлі на бок прэзідэнта. (Нагадаем, што яшчэ двое "здраднікаў" — А. Малафееў і С. Касцян — былі выключаны з ПКБ раней). Пасля 1991 года можна па-рознаму ставіцца да партыі, што ў сваёй назве мае слова "камуніст", а прынцыповасць ПКБ у адстойванні дзяржаўнасці і законнасці — заўважная.

### ПАДЗЕЛ ТЫДНЯ

Кіраўнік расійскіх памежных войскаў генерал А. Нікалаеў сустрэўся на мінулым тыдні з прэзідэнтам Беларусі А. Лукашэнкам, сакратаром Дзяржбяспекі В. Шэйманам і кіраўніком памежных войск Беларусі А. Паўлоўскім. Абмяркоўваліся праблемы аховы межаў Саюза Беларусі і Расіі (зразумела — межаў Беларусі з Летувой, Латвіяй ды Украінай). Раней Расія абяцала цалкам аплаціць абсталяванне гэтых межаў, але зараз сітуацыя змянілася. Паводле паведамленняў СМІ, Расія бярэ на сябе не больш за палову расходаў. Астатнія грошы давядзецца здабываць самім беларусам...

### НАЗІРАННЕ ТЫДНЯ

Беларускія ўлады прыкладаюць неймаверныя высілкі і вынаходлівасць дзеля таго, каб назапасіць крыху валюты ў дзяржаве. Аднак усялякія абмежаванні на куплю-продаж, барацьба з валютчыкамі, а заадно і з "чаўнакамі" далі мізэрныя вынікі. Наўрад ці дасць плён і новая прыдумка: з 1 жніўня змяншаецца максімальная сума, дазволеная да вывазу за мяжу, з 500 мінімальных заробкаў да 100. Акрамя таго, перасылаць з Беларусі і ў Беларусь будзе дазволена не больш за 200 долараў. (Дарэчы, увозіць валюту ў Беларусь можна без абмежаванняў...) Як паказаве самы свежы вопыт, усе навааўвядзенні ўрада найчасцей не павялічвалі прыток валюты ў дзяржбанкі, а наадварот — змяншалі.

### ЗДАРЭННЕ ТЫДНЯ

13 ліпеня на чыгуначнай станцыі Баранавічы адбылося надзвычайнае здарэнне: у гэты дзень адсюль у Івацэвічы адпраўлялі 66 зняволеных. Пяцёра з іх, узброеныя нажамі і заточкамі, накінуліся на каравул. У выніку няўдалай схваткі пяцёра салдат былі паранены, забіты тры злачынцы і трое паранены.

З НАГОДЫ

# "Я — сіла!.."

Прэзідыум рады Саюза пісьменнікаў на гэты раз сабрала падзея неардынарная: забіраюць Дом літаратара. Хто забірае? Галоўнае ўпраўленне адміністратыўных будынкаў. На якой падставе? На той, што ў будаўніцтва ДЛ дваццаць год таму, акрамя сродкаў саюзнага Літфонду, былі ўкладзены і бюджэтныя сродкі. Значыць, будынак дзяржаўны і павінен належаць... прэзідэнцкаму падраздзяленню. На гэты конт маецца спецыяльнае распараджэнне А. Лукашэнкі ад 1.07.г.г. "Падаруначак" не толькі нам; у спісе значыцца 22 будынкі, і ўсе яны праходзяць выключна пад адрасамі. Хто будзе ведаць, напрыклад, што Кірава, 21 — гэта Беларускі гуманітарны ліцэй, а Ульянаўская, 8 — Дом настаўніка?

Прэамбула распараджэння выглядае так: "В целях эффективного использования государственной собственности и обеспечения органов государственного управления необходимыми помещениями..." Якім такім "органам" спатрэбілася калектыўная ўласнасць Саюза пісьменнікаў — адказу мы не пачулі. Вядучы спецыяліст названага ўпраўлення А. Паўлаў запэўніў прысутных, што дом як належаў, так і будзе належаць пісьменнікам, адно — рамантаваць і ўтрымліваць яго будзе другая ўстанова. У такі альтруізм не надта верыцца, таму атмасфера ў канферэнц-зале была напружанай.

Першае канкрэтнае пытанне, якое прабілася праз эмоцыі, задаў Г. Бураўкін: ці праведзена з нашага боку юрыдычна-прававая экспертыза? Бо рашэнні, якія прымаюцца лёгка і проста, не заўсёды законныя. Аказалася, што вядучы спецыяліст спасылаецца на паперыну, падпісаную Мінюстам. Не вытрымала нават прэса (а прысутнічалі і прадстаўнікі замежных агенцтваў): "Вы вольна трактуеце закон. У вас у руках даведка, а не прававы дакумент".

Гаворка пайшла аб праве ўласнасці. З аднаго боку, нам кажуць, што "перадаць на баланс" — не азначае "перадаць ва ўласнасць", з другога — у кіраўніцтва саюза маюцца ўсе неабходныя дакументы, якія пацвярджаюць права валодання. Яснасць у пытанне ўнёс А. Вярцінскі, якому дэпутацкая практыка яўна пайшла на карысць: ён узброіўся Канстытуцыяй і свежым Грамадзянскім кодэксам. 160-ы артыкул апошняга не пакінуў ніякіх сумненняў у тым, што за вялікім клопатам пра дзяржмаёмасць хаваецца прававы цынізм і меркантыльныя інтарэсы. "Ты вінават уж тем, что хочется мне кушать..."

Выступленне А. Дударава стала тлустай кропкай у гэтай дыскусіі. А Н. Гілевіч звярнуў увагу на маральна-палітычны аспект справы: у аснове распараджэння — жаданне прынізіць пісьменніцкую суполку, паралізаваць як грамадскі, культурны, духоўны цэнтр. Ён прапанаваў склікаць нечарговы з'езд.

І тут, як неаднойчы здаралася раней, на стадыі прыняцця рашэння адбыўся збой — звыклае "загаворванне" праблемы замест дзелавых высноў. Дык як лепш — з'езд праводзіць ці, можа, проста сабраць паўнамоцны орган — раду? Але перш трэба знайсці юрыстаў, якія згодзяцца правесці незалежную экспертызу. І што калі гэты працэс зацягнецца? Старшыня саюза, які вёў пасяджэнне, як бы не рашаўся сфармуляваць пастанову — тое, дзеля чаго, уласна кажучы, і гарадзілі агарод. Спыніліся пакуль што на неабходнасці склікання рады. Ці не таму, што нечарговы з'езд можа выліцца ў нечарговыя перавыбары кіраўнікоў нашай творчай арганізацыі? (Аб'ектыўная патрэба ў тым калі не выспела, то на падыходзе.)

Падсумоўваючы, можна сказаць, што мы "адбіліся" толькі на словах. У любы момант могуць прыйсці людзі, для якіх закон не пісаны, і наша агульная нерухомасць — прыгожы жэст Машэрава — перастане быць нашай. Застаецца хіба што шум падняць міжнародны. Але не пакідае адчуванне, што ўсе нашы бездапаможныя енкі заглушыць "трубны глас": "Я — Сіла! Я — Права!"

**НАШ КАР.**

# Ліцэй пратэстуе

1 ліпеня сп. Лукашэнка выдаў распараджэнне аб перадачы ў аператыўнае кіраванне Упраўленню справамі прэзідэнта РБ шэрагу будынкаў у Мінску. У прыватнасці, дом 21 па вуліцы Кірава, дзе месціцца Ліцэй Беларускага гуманітарнага адукацыйна-культурнага цэнтра. Ліцэісты і іхнія бацькі зрэагавалі на гэтую навіну акцыяй пратэсту. Выйшлі на вуліцу перад ліцэем з плакатамі, у якіх выказалі сваё стаўленне да намеру сп. Ціцянкова пашырыць сваё ўладанні. А ў аўторак у ліцэі адбылася сустрэча з прэсай. Вёў прэс-канферэнцыю прадстаўнік бацькоўскага камітэта Уладзімір Арлоў, ён жа разам з дырэктарам ліцэя Уладзімірам Коласам адказваў на пытанні журналістаў. У прыватнасці, было адзначана, што ліцэй — адзіная цалкам беларускамоўная сярэдняя навучальная ўстанова. Шэраг асаблівасцяў робяць ліцэй установай унікальнай, увогуле адзінай у свеце. Закрыццё ліцэя (а высяленне з будынка фактычна азначае закрыццё) адкіне справу адраджэння беларускай мовы на некалькі дзесяцігоддзяў, а мо і на неакрэслены тэрмін. Ліцэй знаходзіцца ў месцы не толькі прэстыжным, што ўжо само сабою падкрэслівае ягоны статус, але і вельмі зручным: цэнтр горада, блізка вакзал. Зручна вучням з усіх раёнаў горада, а таксама з мінскіх вакол іц. Гэты будынак заўжды, ад пабудовы, быў навучальнай установай. Ён добра прыстасаваны для навучальнага працэсу. У такіх выпадках кажуць, што вучыцца дапамагаюць самі сцены.

Прэзідэнцкае распараджэнне не было для ліцэістаў, іхніх настаўнікаў і бацькоў нечаканасцю. Ужо даўно ў ліцэй наведваліся нейкія людзі, якія па-гаспадарску аглядалі будынак, але адмаўляліся прадстаўіцца. На лісты, якія кіраўніцтва ліцэя дасылала з гэтай нагоды ў Адміністрацыю прэзідэнта РБ (бо было падазрэнне, што гэтыя наведвальнікі — адтуль), ніякіх адказаў не было. І вось з'явілася памянёнае распараджэнне ад 1 ліпеня, якое, дарэчы, трапіла ў ліцэй не па афіцыйных каналах...

Сёння ініцыятарам пратэсту спрабуюць пераканаць, што нічога страшнага не адбываецца. Ну, маўляў, пераедзе навучальная ўстанова ў іншы будынак — і ўся справа! Нават новы адрас называюць — Славінскага, 12. Але, як стала вядома, кіраўніцтва ўстановы, што на Славінскага, 12, атрымала ад Адміністрацыі прэзідэнта гарантыі (праўда, на словах...), што іх нікуды перасяляць не будуць. Такім чынам, проста ідзе не надта сумленная гульня, каб збіць хвалю пратэсту, пазбегнуць грамадскага рэзанансу і рэакцыі міжнародных арганізацый, накшталт Хельсінкскага камітэта. Кіраўніцтва ліцэя разам з бацькоўскім камітэтам правялі аператыўную юрыдычную экспертызу распараджэння прэзідэнта РБ і прыйшлі да высновы, што яно парушае Закон Беларусі аб адукацыі, які забараняе скарачэнне навучальнай базы і пагаршэнне ўмоў адукацыі, і Закон Беларусі аб уласнасці: будынак — уласнасць ліцэя, а ліцэй, у сваю чаргу, уваходзіць у структуру Беларускага гуманітарнага адукацыйна-культурнага цэнтра.

На момант правядзення прэс-канферэнцыі спроба настаўнікаў і бацькоў ліцэістаў сустрэцца са сп. Ціцянковым і абмеркаваць з ім сітуацыю поспеху не мела. Супрацоўнік апарату прэзідэнта РБ, які назваўся "работником приемной", сказаў, што наўрад ці хтосьці з уплывовых асоб Адміністрацыі зможа сустрэцца з імі ў гэтым месяцы. Можа, недзе ў жніўні...

На прэс-канферэнцыі было паведамлена, што можа скласціся сітуацыя, калі ліцэй перастане быць дзяржаўнай установай. Бо, здаецца, усё ідзе да гэтага. Дакладней, у гэты бок вядзе ўлада.

З заявамі супраць рэалізацыі згаданага распараджэння выступілі шэраг партый — БНФ, АГП, Грамада, а таксама Беларускі Хельсінкскі камітэт. Чакаецца рэакцыя з-за мяжы, інфармацыя туды пайшла.

Журналістаў азнаёмілі з Адкрытым лістом агульнага бацькоўскага сходу да прэзідэнта РБ; з тэкстам распараджэння прэзідэнта РБ, з якога ўсё пачалося; са Зваротам да беларускай інтэлігенцыі.

Пакуль ішла прэс-канферэнцыя, дзеці, настаўнікі і бацькі стаялі на вуліцы з плакатамі. Спачатку тры міліцыянеры з маёрскімі і падпалкоўніцкімі зоркамі на пагонах спрабавалі пераканаць пратэстантаў разысціся. Затым з'явіліся "малодшыя чыны" з пагрозамі прымяніць сілу. А потым — быў дождж. Людзі пайшлі ў будынак, каб захаваць ад дажджу свае папяровыя плакаты. Яны яшчэ спатрэбяцца.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

ВЫСТАВЫ

# Сугучна часу і вечнасці

У выставачнай зале (карцінная галерэі "Мастацтва") Мастацкага салона на праспекце Скарыны — чарговая выстава. Экспануюцца творы полацкага жывапісца Сяргея Цімохава. Мастаку 37 год. Ён выхаванец Беларускай акадэміі мастацтваў, якую скончыў у 1984 годзе. Творы С. Цімохава — гэта памежжа рэчаіснасці і легенды; гэта мінуўшчына, якая нікуды не знікла, а жыве ў нашай падсвядомасці.

С. Цімохаў пачынаў "ад школы", ад рэалізму, якому яго навучылі ў акадэміі. Але знайшоў ён сябе ў жывапісе, дзе пануе не сюжэт і рэалістычная прадметнасць, а фарба і лінія. Ды ўсё ж назваць яго абстракцыяністам нельга. Ён творца дастаткова канкрэтны. Толькі гэта канкрэтыка не прадметная, а пачуццёвая.

На выставе прадстаўлены шэраг твораў, якія крытыка адносіць да "паганскага" перыяду творчасці С. Цімохава. Мастак лічыць дахрысціянскую цывілізацыю ў Беларусі нічым не горшую за тую, што прыйшла ў свой гістарычны час ёй на змену. Больш таго, хрысціянства можна лічыць штучнай прышчэпкай на магутным дрэве язычніцтва.

Паганскія матывы С. Цімохава вельмі сугучныя нашым сённяшнім экалагічным клопатам.

Работы апошняга часу сведчаць, што мастак не спыняецца ў пошуках, не стаіць на месцы. Ягоныя палотны па-ранейшаму прасякнуты таямнічасцю, але цяпер у іх больш звыклых для вока нашага сучасніка рэчаў.

І апошняе. На ІІ Міжнародным Шагалаўскім пленэры, што скончыўся нядаўна, Сяргей Цімохаў адзначаны як лаўрэат.

**П. В.**

**P. S.** Усе творы, што экспануюцца ў галерэі "Мастацтва", прызначаны для продажу.

ФЕСТЫВАЛІ

# Віцебск "адбазарыў"...



...І цяпер трэба счакаць колькі часу, каб акрэдытаваны на "Славянском базаре" наш карэспандэнт аформіў свае ўражанні, думкі, высновы ў рукапіс, прыдатны для публікацыі. Зрэшты, цікаўны чытач ужо і сёння багата ведае пра падзеі, што адбываліся падчас ці не самага масавага, самага стракатага, самага шумнага, самага камерцыялізаванага і амаль палітызаванага міжнароднага фестывалю мастацтваў на нашай зямлі. Тэлебачанне пастаралася! Дзякуючы "жывым" трансляцыям тысячы, мільёны гледачоў маглі, напрыклад, пабываць на юбілейнай імпрэзе Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам маэстра Міхала Фінберга, пабаляваць на імянінах Філіпа Кіркорава, пачуць заключны акорд "Славянского базара", аздоблены непаўторнымі тэмбрамі самой Алы Барысаўны ды легендарнай Марылі Радовіч. Самыя цікаўныя ўжо ў сераду маглі даведацца, што Гран-пры сёлета заваявала Святлана Слаўкавіч з Югаславіі, першую прэмію — расіянка Вольга Сяргеева, а наша 16-гадовая надзея з Оршы Марына Жолудзева атрымала 2-ю прэмію... Цікаўныя ды цярплівыя з часам могуць падмацаваць свае тэлевізійныя (або самыя непасрэдныя) назіранні дасціпнай лімаўскай чытанкай. Чакайце!

*На здымку: фестывальнае імгненне...*

**Фота БЕЛТА**

СВЯТЫ

# Вершам — гучаць!

Напрыканцы мінулага тыдня адбыліся чарговыя паэтычныя чытанні з шэрагу тых, якія ўжо дастаткова доўгі час ладзяць сумеснымі намаганнямі Таварыства беларускай мовы і Сацыял-дэмакратычная партыя "Народныя грамада".

Дагэтуль у нашай краіне праводзілася зусім не багата падобных пастаянных акцый. Іх арганізацыя ператварылася ў справу вельмі турботную (праз дзеянне вядомага прэзідэнцкага дэкрэта N 5, праз працяглую бюракратычную працэдуру, каб атрымаць дазвол і г.д.). Незадаволенасць уладаў зразумець няцяжка: здавалася, усё сцішылася пасля гарачай вясны, а тут раз-пораз нагадвае пра сябе адна з апазіцыйных партый, вярэдзіць народ, хай і культурніцкімі акцыямі! Але за вершы арыштоўваць — няёмка, гэтаксама як і адмаўляць у правядзенні чыста літаратурных мерапрыемстваў. Вось Мінскі гарвыканкам і даў афіцыйны дазвол. Хаця, магчыма, гэта ёсць праява праніклівага і ўтрапёнага стаўлення ўладных структур да айчыннай паэзіі. Як бы там ні было, але раз у два тыдні, па чацвяргах, а 18-й гадзіне ў скверы імя Янкі Купалы каля помніка паэту ладзяцца паэтычныя чытанні (бліжэйшыя адбудуцца 24 ліпеня, 7 і 21 жніўня).

Менавіта з паведамлення, што згаданыя літаратурныя акцыі будуць доўжыцца і надалей, распачаліся чытанні на мінулым тыдні, пра якія варта распавесці больш падрабязна — яны сталіся досыць цікавымі. Слухачоў сабралася мала, аднак гэтую няшчыльнасць у шэрагах слухацкай аўдыторыі, якую можна вытлумачыць перыядам адпачынкаў і вакацый, кампенсавалі ўтульнасць пляцоўкі ў скверы, бронзавая постаць паэта-песняра і, вядома ж, паэтычны, натхнёны настрой. Антаніна Хатэнка, вядучая, выказала спадзеў, што ў хуткім часе сюды будуць прыходзіць людзі "не жменькай, а грамадой".

Цікавым стаўся зварот арганізатараў да прысутных з прапановай "самім фармаваць паэзію", самім браць удзел у чытаннях.

Першая ж спроба ажыццявіць прадэклараванае адбылася. Напачатку свае творы чыталі Мікола Аўрамчык і Антаніна Хатэнка. Паступова традыцыйная паэзія саступала месца авангарду — вершы чытаў Сяргей Вераціла... І, нарэшце, выступленні членаў літаратурнага аб'яднання "Бум-бам-літ", якія ўчынілі сапраўднае шоу, чытаючы свае, паводле іхніх слоў, тэксты. Мудрагелістыя жанры і назовы твораў, вольнае абыходжанне з класікамі, відавочны авангард, а зрэдчас і шчырае графаманства наўрад ці здабылі "бум-бам-літаўцам" прыхільнасці аўдыторыі, а вось эпатаваць публіку ўдалося.

Завяршаючы чытанні, арганізатары яшчэ раз заўважылі, што слова будзе давацца кожнаму творцу, хто гэтага захоча, папрасілі прысутных выказаць свае пажаданні, назваць імёны аўтараў, чые творы яны хацелі б пачуць на чытаннях, паведамілі, што наступную вечарыну (24 ліпеня) будзе весці Генадзь Бураўкін.

У наш час, калі пісьменнікі непасрэдна стасункуюцца з чытачамі выключна з нейкіх нагод, згаданыя паэтычныя чытанні могуць стаць значным з'явішчам у айчынным літаратурным працэсе.

**Кірыла ПАЗНЯК**

ЭКСЛІБРЫС

# Незалежна і заможна...

*Валеры Шаблюк. Сельскія паселішчы верхняга Панямоння 14—18 ст. Мінск, "Беларуская навука", 1996.*

**Вясною гэтага года п'яная кампанія на машыне збіла гісторыка і археолага В. Шаблюка, і яго не стала. Лёс быў несправядлівы да яго, поўнага творчых сіл, сціплага працаўніка на беларускай ніве. Але вось гэтая кніжка — вынік шматгадовых археалагічных і гістарычных даследаванняў В. Шаблюка — яшчэ раз з'явілася пры ягоным жыцці.**

Я люблю чытаць кніжкі па беларускім сярэднявеччы. Можа быць, таму, што было яно ўдалым для беларусаў, якія мелі сваю дзяржаву, былі незалежнымі, і, як вынік, жылі арганізавана і заможна. Вось і В. Шаблюк, у прыклад звычайнай гаспадаркі баярына — чалавека служылага стану, які ў іерархічнай грамадскай сістэме позняга сярэднявечча знаходзіўся паміж сялянствам і шляхтай, пералічвае ягоную нерухомую маёмасць: хата, клець, стайня, два хлявы, лазня, павець, пякарня, гумно, клуня і асець. У сярэдняй гаспадарцы селяніна ў 16 стагоддзі было: 2-4 валы, 2 каровы, 1-2 кані, 10 свіней, 12 авечак, цяляты, куры, гусі, качкі. Адным словам, можна было жыць.

Апісваючы быт сельскіх паселішчаў у сярэднявеччы, В. Шаблюк прыводзіць нямала цікавых звестак. Так, "у паселішчах Дзярэчынскага маёнтка ў сярэдзіне 18 стагоддзя кожны селянін павінен быў пасадзіць вакол сваёй сядзібы вербы" ў эстэтычных і супрацьпажарных мэтах. А хаты на Валожыншчыне ў сярэднявеччы называлі пякарнямі. Аказваецца, што найбольш распаўсюджаным у 17 стагоддзі было круглае вaконнае шкло, там, дзе яно было. Дыяметр яго быў 10-12 сантыметраў і мацавалася яно ў алавяных рамах. Ужо здавён нашыя продкі разводзілі рыбу ў сажалках, і найбольш папулярным быў усё той самы карп.

У ранейшых беларусаў быў развіты гонар за сваю дзяржаву, адным з найбольш распаўсюджаных матываў выяваў на кафлях быў герб Вялікага княства Літоўскага — Пагоня.

З археалагічных знаходак па сярэднявеччы амаль заўсёды найбольш цікавыя — гэта кафля, якая з'яўляецца сапраўдным мастацкім дасягненнем беларусаў. Бясконцая колькасць раслінных узораў, геральдычных, рэлігійных сюжэтаў складаюць сапраўдную галіну беларускага старажытнага мастацтва. Але сярод знаходак В. Шаблюка прыцягваюць увагу і гаршчочкі ўмяшчальнасцю на 150-200 міліграмаў, цікава, для чаго яны выкарыстоўваліся; і гаршкі пад кветкі з адтулінамі пасярэдзіне, ужо тады беларусы упрыгожвалі сядзібы хатнімі кветкамі; і гліняныя скарбонкі. А вось пілі нашыя продкі з кілішкаў з цёмна-сіняга і зялёна-буравага шкла. Адпаведным, дзіўным для нас колерам выглядалі і наліткі ў іх трункі.

Любілі ранейшыя беларусы ласавацца і дзічынай. Як высветліў В. Шаблюк, найчасцей на іхні стол траплялі дзік, а найрадзей — зубр.

Ацэньваючы гандаль беларусаў са светам, В. Шаблюк пагаджаецца з У. Пічэтам, які яшчэ ў 1928 годзе напісаў, што "да канца 15 стагоддзя заходні напрамак замежнага гандлю ўсяго Вялікага княства Літоўскага становіцца пануючым".

Мабыць, таму тады так добра і жылі, з праекцыяй на сённяшнія раблю выснову ўжо я.

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

# Мастакі з Мінска — пра Гальшаны

10 ліпеня ў Гальшанах у былым манастырскім будынку, дзе зараз філіял Нацыянальнага мастацкага музея, адкрылася выстава жывапісу Пятра і Алены Шарыпаў. Пётр Пятровіч добра вядомы мастак-пейзажыст, а ягоная дачка Алена толькі сёлета скончыла Беларускую акадэмію мастацтваў. Гэты праект рыхтаваўся некалькі гадоў. Ідэю правесці ў Гальшанах мастацкую выставу, Гальшанам жа і прысвечаную, у свой час падтрымаў дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Юрый Аляксандравіч Карачун. На жаль, яму не давялося пабачыць ідэю рэалізаванай...

На выставе — краявіды Гальшанаў і ваколіц, славутыя архітэктурныя помнікі, прырода. Адзін з твораў Алены Шарыпы, прадстаўлены ў гэтай экспазіцыі, стаў асновай яе дыпломнай работы. Алене блізкі мастацкі метад імпрэсіяністаў, для якіх святло і колер значылі куды болей, чым сюжэт і тэма. Маляўнічасць каліс славутага, а цяпер занядбанага мястэчка падаравала мастачцы натхненне — у выніку з'явіліся таленавітыя творы, дзе рамантызм і жывапіснасць дамінуюць над будзённасцю.

Пётр Пятровіч прытрымліваецца больш традыцыйнай для нашага пейзажнага жывапісу манеры. У ягоных творах болей канкрэтыкі. Для ягонага жывапісу падыходзіць такое вызначэнне, як "беларускі каларыт".

Мастакі спадзяюцца, што шэраг іхніх твораў стане часткай пастаяннай экспазіцыі будучага музея гісторыі Гальшан. Можа, так яно і будзе.

На адкрыцці выставы прысутнічалі прадстаўнікі мясцовай улады, супрацоўнікі Нацыянальнага мастацкага музея, сябры і калегі мастакоў, мясцовыя каталіцкі і праваслаўны святары. Гэтая выстава — крок да адраджэння былой славы Гальшан.

**П. В.**

ІМПРЭЗЫ

# Сапраўднае аблічча мастака

11 ліпеня а 15 гадзіне ў будынку гарадскога ўпраўлення народнай адукацыі па вул. Кірава, 5 адбылася, без перабольшвання, падзея культурна-мастацкага жыцця краіны: адкрыццё бюста беларускага мастака Аркадзя Астаповіча (1896—1941). Падзеяй гэта можна назваць і таму, што чалавек, памяць якога ўшаноўвалася, сапраўды варты ўвагі — яго творы ўвайшлі ў залаты фонд беларускага мастацтва, а падругое, не так шмат на Беларусі помнікаў айчынным мастакам — літаральна на пальцах адной рукі можна пералічыць. Таму, безумоўна, імпрэза прыцягнула ўвагу грамадскасці. Адкрыццё бюста — чарговы крок ва ўшанаванні памяці мастака: у мінулым годзе святкаваўся яго стогадовы юбілей, быў выпушчаны каталог яго твораў і твораў яго сястры, мастачкі Зінаіды Астаповіч-Бачаровай, у Нацыянальным мастацкім музеі адбылася выстава, на будынку Навасёлкаўскай сельскай школы (у Пухавіцкім раёне), дзе мастак працаваў выкладчыкам малявання ў 20-х гадах, быў устаноўлены памятны барэльеф. А бюст было вырашана ўстанавіць ў будынку на Кірава, 5, дзе некалі была гарадская сярэдняя школа N 9, дзе ў 20-30-х гадах мастак выкладаў.

Аркадзь Астаповіч быў прадстаўніком пакалення старой беларускай інтэлігенцыі, чалавекам высокаадукаваным, сумленным і адданым сваёй працы. Менавіта з-за гэтых якасцяў, мабыць, і не стаў ён у шэрагі мастакоў-спевакоў плённай працы сацыялістычнага грамадства, пра якіх актыўна пісалі, якіх улады адорвалі дабротамі і якія аддзячвалі манументальнымі партрэтамі камуністычных правадыроў.

Аркадзь Астаповіч скончыў Маляўнічую школу Імператарскага таварыства Заахвочвання мастацтваў у Санкт-Пецярбурзе, дырэктарам якой працаваў Мікалай Рэрых, а графічнае аддзяленне ўзначальваў І. Білібін. У мастака быў свой шлях у мастацтве і сваё бачанне свету, непадкарханаванае пануючай ідэалогіяй. Таму і цікавыя нам сёння яго творы, таму і цікавая нам яго асоба.

Бюст Аркадзя Астаповіча ўстаноўлены ў нішы. Мастак з пэндзлем у руцэ адвярнуўся ад свету, ад выпадковых гледачоў у пошуку свайго свету, але твар яго глядзіць на нас з люстэрка — твар аскетычны, прасветлены, крыху іранічны... Аўтар незвычайнага помніка — малады таленавіты скульптар Павел Вайніцкі, студэнт пятага курса Беларускай акадэміі мастацтваў. Менавіта ён быў аўтарам і барэльефа на Навасёлкаўскай школе. Абедзве працы выкананыя ім на добраахвотных пачатках. У свой час (тры гады таму) Павел адгукнуўся на прапанову галоўнага захавальніка мастацкага музея Мікалая Пагранoўскага, які прапанаваў студэнтам-скульптарам паспрабаваць сябе ў працы над вобразам мастака. Павел захапіўся асобай Аркадзя Астаповіча, шмат даведаўся пра яго. У выніку атрымалася нешараговая праца, таленавітая і натхнёная. Менавіта гэты варыянт скульптуры (а іх усяго было чатыры) упадабаў нядаўна памерлы дырэктар мастацкага музея Юрый Карачун. Сам малады скульптар тлумачыць сваю задуму так: у жыцці Аркадзя Астаповіча была трагічная раздвоенасць: з аднаго боку, ён быў мастак, які жыў у сваім свеце, з другога боку — быў шрубчыкам грамадскай сістэмы, працаваў дзеля грошай па дванаццаць гадзін у суткі, быў прыкладным педагогам... Менавіта твар мастака, схаваны ад навакольнага свету, глядзіць на нас з люстэрка, са свету непрадметнага.

Слова на імпрэзе бралі намеснік дырэктара мастацкага музея Пётр Ходзька — ён здзяйсняў фінансавае кіраванне матэрыяльным бокам справы; галоўны спецыяліст па выставах і музеях Міністэрства культуры (яно выдзеліла сродкі на ўвекавечанне памяці мастака) Ірына Мятліцкая; Дзмітрый Аляксандравіч Зубко, намеснік старшыні беларускага педагагічнага таварыства, былы вучань Аркадзя Астаповіча ў гэтай, дзевятай, школе; унучатая пляменніца мастака Алена Смірнова; галоўны захавальнік Нацыянальнага мастацкага музея Мікалай Пагранoўскі; выкладчык Беларускай акадэміі мастацтваў, у якога займаецца аўтар бюста Павел Вайніцкі, скульптар Павел Арціновіч. Было сказана шмат цікавага пра Аркадзя Астаповіча,




пра незвычайныя душэўныя якасці гэтага чалавека. Спадар Дзмітрый Зубко сцвярджае, што мастак быў выключна добрым педагогам, і тыя, хто вучыўся ў яго, на ўсё жыццё захавалі памяць пра настаўніка. Павел Арціновіч адзначыў, што для захалення светам не існуе цяжкіх часоў — і гэтым прынцыпам кіраваўся Аркадзь Астаповіч. І цяпер з працы над вобразам гэтай асобы пачынаецца творчая кар'ера Паўла Вайніцкага, што вельмі сімвалічна.

Напярэдадні імпрэзы Мінск урачыста святкаваў 930-годдзе. Думаецца, што адкрыццё помніка мастаку ў старажытным гарадскім будынку з'яўляецца натуральным эпізодам святкавання і каштоўным падарункам гораду-юбіляру.

**Л. Ш.**

## Эстафету прыняла "Тэхналогія"

**Аматарам нацыянальнай даўніны, бадай, запомніліся кнігі серыі "Нашы славутыя землякі", што выходзіла ў колішнім выдавецтве "Навука і тэхніка". Невялікія нарысы ў вокладках сталёвага колеру пазнаёмілі чытача з многімі знакамітымі сынамі Бацькаўшчыны. Гісторыкі, краязнаўцы, пісьменнікі расказалі пра Усяслава Чарадзея і Ефрасінню Полацкую, Льва Сапегу і Якуба Наркевіча-Ёдку (кніжкай пра яго, дарэчы, серыя і адкрылася), Яна Чэрскага і Вацлава Ластоўскага, Яўстафія Тышкевіча і Алеся Гаруна — усіх і не пералічыш.**

**Цяпер, калі не стала выдавецтва "Навука і тэхніка", новае "Беларуская навука" чамусьці ад выпуску гэтых, вельмі патрэбных на сённяшні дзень, выданняў адмовілася. На шчасце, знайшліся тыя, хто разумее значнасць такіх нарысаў дзеля абуджэння нацыі. Эстафету ад "Навукі і тэхнікі" прыняло недзяржаўнае выдавецтва "Тэхналогія". Першай жа кніжкай, выпушчанай ім у згаданай серыі (захавана ранейшае афармленне), стаў нарыс Таццяны Процькі "Пакутнік за веру і Бацькаўшчыну".**

**Т. Процька належыць да тых гісторыкаў, якія плённа і мэтанакіравана перачытваюць беларускую гісторыю, даючы аб'ектыўную ацэнку як асобным падзеям, так і дзеячам. Між іншым, яна была адным з самых актыўных аўтараў гэтай серыі, выдала тады некалькі кніг.**

**Цяпер жа Т. Процька знаёміць чытачоў з мітрапалітам Мінскім і Беларускім Мельхісэдэкам (у свецкім жыцці — Міхаіл Плеўскі), які ў 1922 годзе, калі ваяўнічы атэізм быў уведзены ў ранг дзяржаўнай палітыкі і стаў адным з галоўных сродкаў камуністычнай ідэалогіі ў барацьбе з іншадумствам, узначаліў на Беларусі праваслаўную царкву.**

**Беларус па паходжанні, Мельхісэдэк рабіў усё магчымае (і нават немагчымае), каб у беларускім доме панавалі спакой і згода. Інакш меркавалі ўлады. У жніўні 1925 года на судовым працэсе Мельхісэдэк і чацвёра яго аднадумцаў былі абвінавачаны ва ўтойванні, прытым у масавых памерах, царкоўных каштоўнасцяў (яны падлягалі рэквізіцыі), а таксама ў контррэвалюцыйнай прапагандзе. Праўда, заступніцтва вернікаў зрабіла добрую справу. Тады Мітрапаліт быў толькі ўмоўна пазбаўлены волі.**

**Аднак у лістападзе таго ж года ён быў усё ж зняволены ў Бутырскую турму, а пасля накіраваны ў Сібір на спецпасяленне, дзе знаходзіўся да вясны 1927-га. Прычынай падобных суровых мер стала тое, што Мельхісэдэк выступіў за стварэнне незалежнай ад Масквы царквы і супраць тых святароў, якія выкрашылі супрацьіўнічаць з бальшавіцкім рэжымам.**

**Вярнуцца на Беларусь ён так і не змог, бо не атрымаў на гэта дазволу. А ў хуткім часе зноў быў арыштаваны, апынуўся ў Сібіры. Як сведчыць Т. Процька, пра апошнія дні гэтага слаўнага сына Бацькаўшчыны, пакутніка за веру і будучыню Беларусі мала вядома. Адно можна сказаць пэўна: ён раптоўна памёр у Маскве 17 мая 1931 года. Па некаторых звестках — быў атручаны.**

**І ўсё ж 10 жніўня 1927 года паплечнікі Мельхісэдэка абвясцілі аб стварэнні Беларускай Аўтакефальнай царквы, якая праіснавала да ліпеня 1937 года, калі ўсе яе святары былі арыштаваны, а 1 лістапада таго ж года многія з іх расстраляны.**

**Кніжка Т. Процькі пабудавана на багатым фактычным матэрыяле, ілюстравана (як і ўсе выданні гэтай серыі) рэдкімі здымкамі. Тым самым аўтар і выдавецтва "Тэхналогія" зрабілі цудоўны падарунак усім, хто хоча лепш і аб'ектыўней ведаць нацыянальную гісторыю.**

**В. ЗУШЧЫК**

## "Змена" запрашае...

**24 ліпеня а палове сёмай вечара ў мінскім кінатэатры "Змена" адбудзецца прагляд кінапраграмы, прысвечанай юбілею Марка Шагала. Увазе гледачоў прапануюцца дакументальныя фільмы: "Калі Віцебск быў Парыжам" і "Засталася душа яго тут". Перад прысутнымі выступяць народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін і заслужаны дзеяч мастацтваў Барыс Крэпак.**

**Кінапраграма падрыхтавана кінатэатрам сумесна з Ізраільскім інфармацыйна-культурным цэнтрам.**

# Крынічкі не мялеюць....

***З начальнікам Упраўлення культуры Брэсцкага аблвыканкама мы гутарылі пад гучны акампанемент: за сцяной у зале паседжанняў праходзіў конкурс арганізатараў вольнага часу. Спевы, воплескі, смех — атмасфера там вясёлая. Да цягніка паўтары гадзіны, ды і Рыгор Рыгоравіч Бысюк кудысь спяшаецца, тым не менш — гутарка адбылася.***

**— Рыгор Рыгоравіч, каб у нас не атрымалася справаздачы аб дасягненнях, першае пытанне я сфармулюю так: ці ёсць у культурнай сферы вобласці якіясь змены, пачынанні, адным словам — што-небудзь новенькае?**

— Я сам тут, можна сказаць, "новенькі": менш двух гадоў на пасадзе. А калі сур'ёзна, то ёсць і пачынанні. Абласному навукова-метадычнаму цэнтру, напрыклад, аддалі гарадскі дом палітасветы з вялікай актавай залай, цяпер гэта называецца грамадска-культурным цэнтрам. Жыццё ў ім кіпіць. Дастаткова адзначыць, што яго дырэктар С. Гуляева з красавіка месяца не мела ніводнага выхаднога... Што яшчэ? Брэсцкі райвыканкам праводзіць эксперымент. Ён заключаецца ў тым, што ўся культура напрамую падначальваецца мясцовым саветам. На думку ініцыятараў, гэта павінна даць свой плён. На Астравеччыне такая рэарганізацыя зроблена колькі год таму.

**— А ці не атрымаецца так, што раённыя ўлады проста скінуць з сябе лішні груз?**

— Канчатковыя вынікі мы яшчэ не падводзілі. Пройдзе год, тады і паглядзім. Што ж да раённых аддзелаў, то яны застаюцца: каардынуюць працу на месцах і праводзяць раённыя мерапрыемствы.

**— Наколькі я зразумела, поспех эксперымента будзе цалкам залежаць ад чалавечага фактару — ад кіраўнікоў гаспадарак, старшынь сельскіх Саветаў...**

— Каб паглядзець, ці тыя людзі займаюць пасады, мы рыхтуем атэстацыю старшынь сельскіх выканкамаў. І пачнецца яна з Драгічынскага раёна. Нядаўна пабываў у Іванаве і, шчыра скажу, стан культурных установ пакідае неблагое ўражанне. Многае сапраўды залежыць ад кіраўнікоў. Камусьці культура бліжэй, самі ў хоры спявалі ці ў ансамблі танцавалі, натуральна — і сродкаў адпускаюць болей.

***— А што робіцца для таго, каб і тыя, што ў маладосці не спявалі і не танчылі, шанавалі духоўныя запатрабаванні людзей?***

— У мінулым годзе кіраўніцтва вобласці абмеркавала стан захавання культурнай спадчыны (выязное паседжанне правялі ў Пружанах). Папярэдне праехаліся па раёне, паглядзелі старажытныя будынкі, паркі, могілкі... Прыйшлі да высновы, што памяць наша занядбана: разбураюцца помнікі архітэктуры, здзічэлі паркі, людзі забылі пра сваіх выдатных землякоў. Быў створаны каардынацыйны савет па ахове спадчыны, які ўзначальвае старшыня аблвыканкама У. Заламай. Штомесяц праводзяцца паседжанні савета. Нядаўна разглядаліся турыстычныя маршруты. Трэба, каб турысты ведалі не толькі Брэсцкую крэпасць, Белую Вежу ды пушчу. Ёсць у нас, напрыклад, маёнтак Нямцэвіча ў вёсцы Скокі, але перш чым паказваць турыстам, яго неабходна ў парадак прывесці. Трэба, каб на месцах улады мелі інфармацыю пра каштоўнасць таго ці іншага помніка, пра выдатных людзей сваёй мясцовасці. У гэтым накірунку нямала зроблена. У Іванаве, напрыклад, ужо добра ведаюць імя Напалеона Орды. Мяркуецца адкрыць яму помнік, Міністэрства культуры аб'явіла конкурс на лепшы праект.

Аднойчы гаворка ішла нават пра нацыянальную кухню, а то ў нашых кафэ толькі дранікі ўмеюць гатаваць... Падкрэслю, што падтрымка нацыянальнай культуры і дзіцячай творчасці — прыярытэтныя кірункі нашай дзейнасці.

**— І пра народных майстроў, пэўна ж, не забыліся...**

— Народныя майстры — гонар кожнай мясцовасці. Найперш перад метадычнымі цэнтрамі пастаўлена задача іх выяўлення і выхавання змены. Калі на Віцебшчыне распаўсюджаны дамы рамёстваў, то ў нас перавага аддаецца школам дзіцячай народнай творчасці. Фарміруюцца яны якраз вакол умельцаў, майстроў. У вёсцы Опаль некалі было шмат гарманістаў, яна мела славу самай "музычнай". Папрасілі аднаго з музыкаў, каб ён узначаліў школу, і вось там ужо тры дзесяткі юных гарманістаў. І яшчэ: у нас ёсць традыцыя кожнае раённае ці гарадское свята суправаджаць выставамі народных умельцаў.

**— Засталося высветліць, якое на Брэстчыне становішча з кадрамі ў культуры.**

— З нашымі кадрамі, лічу, працаваць можна. 30 працэнтаў клубных работнікаў маюць вышэйшую адукацыю, палова — сярэднюю і толькі 15 працэнтаў не маюць спецыяльнай адукацыі. Але і практыкі бываюць энтузіястамі ў сваёй справе. Адносіны да працы ўвогуле сталі больш адказнымі — можа, таму, што людзі баяцца беспрацоўя. Адна з асноўных праблем — тая, што трэць спецыялістаў занята няпоўны рабочы дзень: хто на 0,25, хто напалову, на 0,75 стаўкі... Гэта значыць, што дастаткова ў суботу і нядзелю правесці дыскатэку, кнігу выдаць...

**— Прафесіяналы да аматарскай творчасці падчас ставяцца звысоку. У слова "самадзейнасць" ёсць адценне пабллажлівасці...**

— Сустракаюцца такія самадзейнікі, што ім любы прафесіянал пазайздросціць. Плюс непасрэднасць самавыяўлення, адсутнасць штампаў. За апошнія гады ўзровень нашых самадзейных калектываў прыкметна вырас. Гэта добра было відно на фестывалі харавых акадэмічных спеваў (ён у нас супаў з фестывалем духоўнай музыкі), на зональных турах па падрыхтоўцы традыцыйнага абласнога свята народнага мастацтва "Палескі карагод", што адбудзецца ў Пінску. А 31-га мая мы правялі заключны канцэрт выканаўцаў дзіцячых мастацкіх школ. Якія таленты падрастаюць! Я дасюль пад уражаннем ад гэтага канцэрта. Не забудзем, акрамя таго, што самадзейнасцю жывіцца прафесійнае мастацтва.

**— Так, абмяляе крынічка — высахне і рака... Пажадаю вам, Рыгор Рыгоравіч, каб толькі фінансавай "засухі" не было, а талентаў у народзе заўсёды хапала...**

**Гутарыла Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

# Музей? Школа? Проста цэнтр

Зала мастацтваў адчынілася ў нас у маі 1992 года. Як ні дзіўна, але Барысаў — буйнейшы прамысловы цэнтр Беларусі, дзе знаходзіцца адзіны ў рэспубліцы камбінат дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і жыве некалькі соцень мастакоў — дасюль не меў нават прыстойнай выставачнай залы. Новы цэнтр пры Цэнтральнай гарадской бібліятэцы — не музей, не карцінная галерэя і не выставачная зала, дакладней — усё патрошку. Выставы твораў жывапісу, графікі, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, народных майстроў тут падмацаваны зборам мастацтвазнаўчай літаратуры і спецыяльных выданняў (гуказапісы, дыяфільмы, ілюстрацыі, слайды); тут адбываюцца сустрэчы з мастакамі і абмеркаванне іх работ, лекцыі, дыспуты і віктарыны, аўкцыёны жывапісу і літаратурна-музычныя вечары. Гэта сапраўдны эстэтычны цэнтр. І што ён узнік пры бібліятэцы — рэч невыпадковая.

Перш за ўсё ідэя была сугучнай інтарэсам, узроўню падрыхтоўкі, энтузіязму часткі супрацоўнікаў бібліятэкі. Мастацтвазнаўчая літаратура проста "прасілася" быць вылучанай у асобны аддзел. Наяўнасць дыяпазіторыя, багатай фанатэкі, філакартэкі, спецыяльнай аўдыё-відэаапаратуры — усё гэта спрыяла таму, што ідэя ўрэшце ўвасобілася ў жыццё.

Адыграў сваю ролю і рэспубліканскі эксперымент (з 1986-га года) па эстэтычным навучанні з далучэннем установ культуры і асабліва бібліятэк.

У студзені 93-га паралельна з лекторыем для дарослых "Жывапіс на ўсе часы" пачынае працу двухгадовы лекторый "Пачатак" для старшакласнікаў і моладзі (каля ста чалавек наведвае яго). Ён прызначаны для тых, хто паступае на гуманітарныя факультэты ВНУ, выбірае творчыя спецыяльнасці мастакоў, музыкантаў, мастацтвазнаўцаў і проста жадае паглыблена вывучыць гісторыю сусветнага мастацтва. Гэтыя заняткі я праводжу 2 разы на месяц.

А "першай ластаўкай" у рабоце залы мастацтваў стала экспазіцыя карцін маладой барысаўскай мастачкі Марыны Васільевай, якая працуе ў надзвычай шырокім дыяпазоне — ад рэалізму да авангарда. Гэтая выстава (як і ўсе наступныя) выклікала шмат спрэчак і нікога не пакінула абыякавым.

За наступныя гады былі праведзены выставы гарадскога клуба мастакоў "Каларыт", мастацкай фатаграфіі Мінскага абласнога клуба "Крыніца", фотамастака Святланы Балашовай, "Выцінанкі, экслібрыс, бацік" І. Русаковай, М. Рыжага і Г. Стасевіч і многія іншыя.

У апошні час мы сталі шмат увагі надаваць экалогіі, што звязана і з практычнымі патрэбамі нашага горада, які ў гэтым сэнсе далёкі ад ідэала. Паралельна з выставай "Прырода яшчэ спадзяецца" праводзіліся заняткі эколага-эстэтычнага лекторыя для навучэнцаў.

Пры зале мастацтваў адкрыта таксама студыя дзіцячай творчасці (так званая студыя А). Студыя дае магчымасць амаль сотні дзяцей 4—5 гадоў і старэйшых набываць мастацкія навыкі з выкарыстаннем багацейшага фонду бібліятэкі.

Супрацоўнікі залы мастацтваў не ставяць перад сабой мэты збіральніцтва і камплектавання фондаў твораў выяўленчага мастацтва, бо ўсё ж бібліятэка — не музей. Хаця функцыі нашы ў нечым падобныя.

Не забываемся мы і пра іншыя віды мастацтва. Карыстаюцца папулярнасцю музычныя вечары, вікторыны, конкурсы, шмат чытачоў збірае цыкл "Ва ўсіх музаў" — своеасаблівае "асарці" для дарослай аўдыторыі.



Мабыць, няма патрэбы пералічваць усе накірункі нашай работы. Галоўнае — зала пры бібліятэцы становіцца асяродкам духоўнага жыцця горада, школай эстэтычнага выхавання, а не проста месцам сустрэч творчых людзей.

**Алена БРАЦЯНКОВА, мастацтвазнаўца**

*На здымку: педагогі мастацкіх школ на выставе.*

# Мікалай СТАТКЕВІЧ:

# "Па беларускай натуры не люблю нікога крыўдзіць..."

## ГУТАРКА З ПАРТЫЙНЫМ ЛІДЭРАМ ПРА ЛІТАРАТУРУ І ЖЫЦЦЁ

СТАТКЕВІЧ Мікалай Віктаравіч нарадзіўся ў в. Вызна Слуцкага раёна ў сям'і настаўнікаў. Там жа скончыў сярэднюю школу. У 1978 г. скончыў Мінскае вышэйшае зенітна-ракетнае вучылішча супрацьпаветранай абароны (ВІЗРУ). Афіцэрскую службу пачаў на Крайняй Поўначы на так званай "кропцы". Там жа стаў членам КПСС. У 1984 г. паступіў у ваенную аспірантуру, вярнуўся служыць у Беларусь, напісаў і абараніў дысертацыю, атрымаў вучоную ступень кандыдата навук. Служыў у Мінскім ВІЗРУ, працаваў выкладчыкам, старшым выкладчыкам. Атрымаў вайсковае званне падпалкоўніка. У 1991 г. паступіў у дактарантуру для завяршэння працы над доктарскай дысертацыяй. Палітыкай заняўся ў 1989 г., калі была створана (падпольна) група афіцэраў, якія прагназавалі распад Савецкага Саюза і магчымасць узнікнення грамадзянскай вайны. Каб пазбегнуць уцягвання ў яе Беларусі, працавалі над канцэпцыяй мірнага раздзела Савецкай Арміі па нацыянальных дзяржавах і стварэння Беларускага Войска, лічачы гэта ключавым момантам. Падзеі ў Югаславіі пацвердзілі дакладнасць гэтага прагнозу, бо калі там войска своечасова не падзялілі, наступствы для народаў былой федэрацыі аказаліся катастрафічнымі.

У 1991 г. узімку выйшаў з КПСС у знак пратэсту супраць падзеяў у Вільнюсе. З сакавіка 1991 г. — член кіраўніцтва толькі што створанай Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады. Тады ж па даручэнні гэтай партыі пачаў ствараць вайсковую партыйную арганізацыю Грамады, якая затым улетку 1991 г. была ператворна ў непартыйнае Беларускае згуртаванне вайскоўцаў (БЗВ). Узначальваў БЗВ да 1995 г., калі гэта арганізацыя сваю задачу па стварэнні Беларускага Войска выканала. Тады ж з'езд БСДГ абірае яго старшынёй партыі, а з 1996 г. ён абіраецца кіраўніком аб'яднанай БСДП Народная Грамада. Жанаты, мае двух дачок — 17 і 14 год.



**КАРЭСПАНДЭНТ: Мікалай Віктаравіч, вось была насычаная драматычнымі падзеямі палітычная "Вясна-97". Мяркуюць, можа аказацца гарачай і "Восень-97". Увесну — яшчэ вельмі свежы ўспамін, якой кепскай у сэнсе надзейнасці жыццёвых умоў была зіма, а таму найбольш сацыяльна актыўная частка насельніцтва масавымі пратэстамі спрабуе натхніць уладу, каб тыя перасталі займацца асабістымі справамі і неадкладна паклапаціліся пра паляпшэнне народнага дабрабыту. Восенню тое ж адбываецца, калі людзі адчуваюць, *што нічога да лепшага не мяняецца*, наадварот, надыходзячай зімой можа стаць яшчэ горш. Але ж летняй парой палітычныя страсці крыху аціхаюць, бо кожны хоча хоць неяк падмацаваць на вольнай прыродзе здароўе, пагрэцца на сонейку. Таму меней стараюцца думаць пра палітычнае надвор'е, нават тэлевізару даюць "адпачыць", а ў газетах хутчэй звяртаюць увагу на пазнавальна-забаўляльныя артыкулы, чымся на іранічна-змрочную калонку палітолага ці выступленне якога партыйнага кіраўніка. У электрычках амаль не спрачаюцца пра палітыку, а разгадваюць красворды ці кнігі чытаюць. Вы — палітык, болей таго, вядучая асоба партыі, сённяшні лідэр Беларускага сацыял-дэмакратычнай партыі Народная Грамада. Ці перайшоў на "летні" ваш асабісты жыццёвы рэжым? Якую кнігу зараз трымаеце на стале ці бераце ў дарогу?**

**Мікалай Статкевіч:** Мой рэжым не змяняўся. Для таго, каб партыя магла актыўна працаваць увосень і ўзімку, у тым ліку на вуліцах, што абсалютна не выключана, мяркуючы па сітуацыі ў краіне, як кіраўніцтва не можа сабе дазволіць канікулы. Трэба праводзіць вялікую падрыхтоўчую і арганізацыйную працу. Асабіста я рыхтуюся да камандзіроўкі. Планую за два тыдні наведаць 8 гарадоў Беларусі. Сумесна з германскімі сацыял-дэмакратамі будзем чытаць лекцыі пра дзейнасць нямецкіх і беларускіх сацыял-дэмакратаў. Адначасова буду сустракацца з мясцовымі сябрамі нашай партыі, паслухаю іх парады, меркаванні, няхай і яны бліжэй са мной пазнаёмяцца. А чытаць... Кнігі заўсёды былі многім для мяне, але зараз жыву ў такім рэжыме, што даводзіцца міжволі абмяжоўвацца толькі газетамі. Больш за ўсё люблю сур'ёзныя кнігі, але іх чытанне патрабуе асаблівай засяроджанасці, душэўных намаганняў. Адна з нямногіх, на жаль, кніг мастацкай літаратуры, якую нядаўна прачытаў, гэта аповесці Вікторыі Токаравай пра жыццё сучаснай гарадской інтэлігенцыі ў Расіі. А ў асноўным, акрамя газет, як я ўжо казаў, чытаю паліталагічную і філасофскую літаратуру. Філасофскую ў большай ступені. Магчыма, таму, што здавён, пакуль вучыўся, вельмі цікавіўся філасофскімі распрацоўкамі — а вучобе я прысвяціў у агульнай колькасці больш за дваццаць гадоў свайго жыцця.

**— Вы ў нядаўнім мінулым — прафесійны вайсковец, даслужыліся да звання падпалкоўніка, займаліся ваеннай навукай, маеце вучоную ступень... А цяпер практычна прафесійна сталі займацца палітыкай. Цікава, што і Станіслаў Шушкевіч, пра якога я пазней хачу вас запытацца асобна, таксама ж па асноўнай прафесіі "тэхнар", доктар фізікі, перспектыўны вучоны, амаль у той жа перыяд, што і вы, выбірае для сябе такую пакручастую долю палітыка, якому і сапраўды, як высвятляецца, нельга заракацца ні ад жабрацкай торбы, ні ад турмы. Вы ўжо за кратамі пабывалі, здаецца, двойчы?**

— Тройчы я пабываў за кратамі.

**— То скажыце, калі ласка, што ў асноўным паўплывала на вашы жыццёвыя арыенціры? Сямейнае выхаванне? Чытанне? Сябры?**

— У першую чаргу, безумоўна, на мае жыццёвыя паводзіны ды і светапогляд паўплывалі сямейныя традыцыі. Думаю, сям'я для кожнага чалавека — вельмі важная першасная жыццёвая школа. Я нарадзіўся на Случчыне, дзе жылі спрадвеку мае продкі. Мая маці і бацька — з сямей дробнай беларускай шляхты. Праўда, у маці ёсць яшчэ адна лінія — гэта мой дзед-паляшук з Заходняй Беларусі. Ён быў членам кампартыі Заходняй Беларусі — КПЗБ. За ўдзел у камуністычным падполлі ў 30-я гады арыштоўваўся польскай дэфензівай, сядзеў у Картуз-Бярозе ў турме, здолеў уцячы ў Савецкі Саюз. Потым быў старшынёй калгаса на Случчыне, у мясцінах, адкуль мая маці. Гэта адзіны не шляхціц у нашым радаводзе, і маці расказвала, што калі яе будучая маці, а мая бабуля збіралася выйсці за яго замуж, то ўся бліжэйшая радня, нягледзячы на тое, што жаніх быў начальнікам (для вяскоўцаў тых часоў — значным), была рашуча супраць. Але, як гаворыцца, каханне перамагло. А так маці па астатніх сваіх каранях — з роду Валаткевічаў. А бацька — са Статкевічаў. А паколькі свой радавод я добра ведаў з маленства, гэта ў значнай ступені ўплывала на мае паводзіны. І калі здараліся ў жыцці нейкія цяжкасці, перашкоды ці трэба было рабіць рашучы маральны выбар, я ўспамінаў пра сямейныя традыцыі, пра шляхетны гонар і годнасць. Я ўспамінаў аповеды маці пра дзеда, ягоную мужнасць. Калі яго арыштавалі энкавэдзісты і прымушалі прызнаць сябе "польскім шпіёнам", ён, нягледзячы на страшэнныя катаванні, не падпісаў ніводнае паперы, якія яму падсоўвалі, і ўрэшце быў замучаны да смерці. Другі мой дзед застрэлены гітлераўскімі паліцаямі за сувязь з партызанамі.

Што да маёй беларускасці, то і гэта сямейнае. Бацькі мае абодва былі настаўнікамі і дома размаўлялі па-беларуску. Ды і ўвогуле ў вёсках Случчыны ў часе майго дзяцінства гэта было нормай. Я чуў размовы блізкіх паміж сабой — па-беларуску. З суседзямі — таксама. Першыя пачутыя казкі — беларускія. Кніжкі таксама. У школе была ў пашане беларуская мова. У юнацкім узросце пастаянна чытаў беларускія кніжкі. Таму калі ўжо скончыў вайсковае вучылішча і быў накіраваны служыць у Расію, на Поўнач, мы з жонкай — *яна таксама са Случчыны* — узялі з сабой беларускія кнігі. Жонка і ў Расіі карысталася амаль выключна роднай мовай. У гэтым сэнсе яна была патрыёт нават большы, чым я, бо я на вайсковай службе проста вымушаны быў часта карыстацца рускай мовай. А калі вярнуліся на радзіму, то жонка пачала ўсюды размаўляць толькі па-беларуску, нават у рускамоўным асяродку, калі ездзілі куды. Казала так: "Я разумею іхнюю мову, няхай і яны вучацца разумець нашу". Ведаеце, гэта ўспрымалася добра, паважліва.

Мастацкая літаратура таксама для мяне вельмі многае значыла. Я калі служыў удалечыні ад Беларусі, часта думаў пра яе лёс, свой. Колькі разоў даводзілася чуць, што мы, беларусы — нешта другаснае, зусім нязначнае, мала цікавае для свету! А бяру творы Уладзіміра Караткевіча і чытаю пра нашу сапраўдную гісторыю... Пачынаю разважаць, мацнее перакананне, што і мы не горшыя за іншых, толькі вось трэба нарэшце навучыцца адстойваць сваё. Практычна гэта і прывяло мяне ўрэшце ў патрыятычны беларускі рух.

**— Тым не меней вы маглі, напрыклад, увайсці ў хрысціянска-дэмакратычную партыю, у Аб'яднаную грамадзянскую, кансерватыўна-патрыятычную якую-небудзь. Па маіх назіраннях, афіцэры высокага рангу, а вы ўсё ж падпалкоўнік, як правіла, станавіліся часцей на бок калі не манарха, то хаця б буйной буржуазіі, няхай нацыянальнай, а вы, нягледзячы ў дадатак яшчэ і на сваё шляхецкае паходжанне, сталі вось сацыял-дэмакратам, звязалі лёс з партыяй людзей наёмнай працы, якая сваімі дзеяннямі дамагаецца пэўнага грамадскага кантролю за магутнай стыхіяй капіталу і падтрымкі менавіта простага, працоўнага чалавека.**

— Пачну з таго, што афіцэры Савецкай Арміі далёка не ўсе лічылі сябе нейкай вышэйшай кастай. Значная частка, да якой *належаў і я, заставаліся ва* ўласным успрыманні дэмакратамі, часткай менавіта працоўнага народа, наёмнымі работнікамі, а не савецка-камуністычнай арыстакратыяй. Акрамя таго, як спецыяльна падрыхтаваны і моцны чалавек (а я лічу сябе моцным), я заўсёды лічыў сваім абавязкам абараняць сваіх слабейшых суродзічаў. У тым ліку ад разгулу "дзікага", а то і мафіёзнага капіталу, для якога людзі — проста рабочая сіла, а не раўнапраўныя суайчыннікі. Вось тут і бывае патрэбна дапамога сацыял-дэмакратыі.

**— Такое ўражанне, што ў нас яшчэ вельмі многія не зусім разумеюць сутнасці сацыял-дэмакратызму, тым болей у беларускіх умовах. Дарэчы, Ленін жа таксама напачатку называў сябе сацыял-дэмакратам. Былі ў яго і пераканаўчыя па тым часе артыкулы на гэты конт. Напрыклад, "Хто такія "сябры народа" і як яны ваююць супраць сацыял-дэмакратаў". А потым ужо ва ўсіх слоўніках і даведніках савецкага часу гэтае паняцце падавалася надзвычай цьмяна, але ў адмоўным сэнсе адназначна — паслужнікі капіталізму, агенты буржуазіі ў рабочым асяродку і ўсё такое. Добрых сучасных даведнікаў практычна няма. У некаторых газетах спрабуюць нешта тлумачыць, але зноў жа і там разнабой і адрывістасць. Здаецца, толькі з паняццем "дэмакратыя" ўсё больш-менш зразумела: тэрмін увялі яшчэ старажытныя грэкі, на іхняй мове — гэта азначае "ўлада народа". А "сацыяліс" — ужо лаціна, у перакладзе на нашу мову азначае "грамадскае", "таварыскае", набытае, нажытае разам, у тым ліку сумесны гістарычны вопыт існавання, выжывання, а значыць, развіцця. Так, прыкладна, не для кожнага лёгка разабрацца. А далей яшчэ пачынаецца: "левыя" сацыял-дэмакраты, "правыя". Ну, першыя, мабыць, тыя, хто больш схільныя, каб сродкамі вытворчасці, грамадскімі каштоўнасцямі распараджаліся чыноўнікі як прадстаўнікі дзяржавы, другія — хто лічыць за лепшае, каб самі вытворцы паўней распараджаліся пладамі сваёй дзейнасці, а дзяржава сачыла за парадкам, выкананнем законаў і матэрыяльна падтрымлівала слабейшых членаў грамадства. А вось шаноўны Станіслаў Шушкевіч нядаўна абвясціў, што ён сацыял-дэмакрат, які не цураецца ліберальных падыходаў пры дзяльбе грамадскага, так бы мовіць, пірага...**

— Сапраўды, тлумачальная работа сярод насельніцтва вельмі патрэбная. Людзі павінны добра разбірацца, што сабой уяўляюць розныя партыі, каб свядома галасаваць на выбарах, толькі тады і можа існаваць паўнацэнная дэмакратычная сістэма. Ну, а сацыял-дэмакратыя ўвогуле — гэта сістэма поглядаў, ідэалогія, якая імкнецца да ўсталявання раўнавагі паміж часткай насельніцтва, якая ўмее выкарыстаць свае здольнасці, сілу, каб *жыць як мага лепей, валодаць багаццямі* — і тымі, хто слабейшы, не такі ўдачлівы, спрытны, а да мацнейшых наймаецца на працу. Зразумела, што і тыя ж прадпрымальнікі, бізнесмены не могуць існаваць, мець прыбытак без рабочых, без розных наёмных спецыялістаў, але далёка не кожны разумее, што ў грамадстве павінна існаваць узаемная падтрымка, тое, на чым, калі сказаць прасцей, трымаецца кожная здаровая і дружная сям'я. Значыць, трэба стварыць адпаведныя законы ў дзяржаве, даць магчымасць усім абмяркоўваць агульнагрaмадскія справы, выбіраць сваіх дэпутатаў, пастаянных прадстаўнікоў, ці паслоў, як казалі ў нас у часы яшчэ Вялікага княства Літоўскага, у вышэйшы заканадаўчы орган — парламент, ці раду.

**— І каб паслы-дэпутаты выконвалі волю іменна сваіх выбаршчыкаў, а не чыюсь іншую і маглі быць толькі выбаршчыкамі адкліканыя і замененыя.**

— Так. А дзеля гэтага працоўны люд і павінен мець сваю палітычную партыю, куды добраахвотна ўваходзяць тыя, хто хоча разам абмяркоўваць, распрацоўваць менавіта пажаданні працоўных, арганізавана спрыяць іх ажыццяўленню заканадаўча — праз выбары, праз сваіх дэпутатаў і прадстаўнікоў таксама ў выканаўчых органах улады. Такім чынам, сацыял-дэмакратыя імкнецца шляхам заканадаўства стварыць такую палітычную сістэму, якая імкнецца выкарыстаць, па словах аднаго заходнееўрапейскага лідэра сацыял-дэмакратыі, мускулы капіталізму, падпілаваўшы ў яго драпежныя зубы. Беларуская ж сацыял-дэмакратыя толькі яшчэ пачынае развівацца, спрабуе зрабіцца дзейснай. Цяпер мы імкнёмся пераадолець стан інтэлігенцкага клуба, якім была БСДГ пасля заўчаснай смерці Міхася Ткачова, каб стаць сапраўды Народнай Грамадой — партыяй з шырокай сацыяльнай базай, надзейнай падтрымкай у асяродку працоўных людзей.

**— Нядаўна ў друку была заява аб "аднаўленні" Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, а следам інтэрв'ю ў газеце "Свабода" Станіслава Шушкевіча, пад загалоўкам: "Мы ствараем партыю прыстойных сацыял-дэмакратаў". Зацікавіў асабліва гэты эпітэт наконт "прыстойнасці". Працытую некалькі радкоў з інтэрв'ю, каб вы, калі можна, гэта коратка пракаментавалі: "Мы не дазваляем сабе раскошы крытыкаваць сацыял-дэмакратаў з "Народнай грамады", — сказаў Станіслаў Шушкевіч. — Нехай яны шукаюць сваіх прыхільнікаў — а мы будзем шукаць сваіх. Магчыма, калі-небудзь нам і давядзецца выступаць з імі адзіным блокам. На Украіне некалькі сацыял-дэмакратычных рухаў аб'ядналіся. Можа, і мы дарасцём да таго, каб зрабіць сапраўднае яднанне". Вядома, што ў мінулым годзе па рашэнні з'езда Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада аб'ядналася з Партыяй народнай згоды. Што, там атрымалася нешта "несапраўднае", была парушана нейкая працэдура?**

— Заява і выказванні спадара Шушкевіча, мякка кажучы, нейкія дзіўныя. Таму што "адраджаць" партыю, якая існуе — як жывое назваць мёртвым. Аб'яднанне было слушным, гэта ўжо зараз абсалютна ясна.

*(Працяг на стар. 12)*



**ЧАСАПІС**

## Даследчыку "Асноў Дзяржаўнасці Беларусі"



**2 ліпеня ў Рэчыцы над Дняпром, на радзіме выдатнага гісторыка, этнографа, фальклараста, літаратуразнаўца Мітрафана Доўнар-Запольскага адбылося адкрыццё помніка, створанага скульптарам Валяр'янам Янушкевічам.**

**На адкрыцці прысутнічалі і прамаўлялі старшыня Рэчыцкага гарвыканкама М. Заразака, аўтар праекта (дарэчы, зямляк гісторыка) мастак Э. Агуновіч, старшыня Дзяржаўнага камітэта па архівах і справаводстве А. Міхальчанка, літаратары А. Ліс, А. Каўка (Масква), навукоўцы-гісторыкі І. Верба (Кіеў), А. Дуброўскі (Брянск) і інш.**

**Паказальна, што ўсе выступоўцы (і асабліва госці) шчыра дзівіліся, як у наш складаны час удалося стварыць помнік вучонаму. Маўляў, мы больш прывычаеныя да адкрыцця манументаў военачальнікам, героям баявой ды працоўнай славы, розным палітыкам. А тут — помнік гісторыку!**

**Помнік цалкам заслужаны, бо лекцыямі прафесара Кіеўскага універсітэта св. Уладзіміра заслухоўваліся студэнты Кіева і Масквы, Баку, Харкава, Мінска, а кніга ягоная па гісторыі дзекабрызму стала прычынаю вандроўкі ў Ясную Паляну, куды маладога вучонага гасцінна запрасіў сам Леў Талстой. У часы абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі М. Доўнар-Запольскі з'яўляўся прадстаўніком БНР на Украіне, напісаў брашуру "Асновы Дзяржаўнасці Беларусі" (выйшла ў Гародні ў 1919 г. на беларускай, нямецкай, рускай і французскай мовах), у якой гісторык абгрунтаваў ідэю нацыянальнай незалежнасці і дзяржаўнасці нашай Бацькаўшчыны.**

**У гэтыя ж дні ў горадку над Дняпром праходзіла Міжнародная навуковая канферэнцыя "Жыццё і дзейнасць М. В. Доўнар-Запольскага", прымеркаваная да 130-годдзя з дня яго нараджэння. Канферэнцыя была наладжана з ініцыятывы Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф. Скарыны, Рэчыцкага гарадскога выканаўчага камітэта, часопіса "Палессе". Гісторык М. Біч у кароткім уступным слове канцэптуальна акрэсліў значэнне навуковай спадчыны гэтага неардынарнага вучонага, якога падаравала свету рэчыцкая зямля. Жыццёвы і навуковы шлях М. Доўнар-Запольскага асвятліў у сваім дакладзе доктар філалагічных навук А. Ліс. Радаводныя вытокі Доўнар-Запольскіх на Беларусі, пачынаючы з XV стагоддзя, прасачыў архівіст З. Яцкевіч. "Мінск у жыцці М. В. Доўнар-Запольскага" стаў асобнай тэмай гутаркі З. Шыбекі; пытанні педагагічнага майстэрства вучонага, яго сувязі з Белдзяржуніверсітэтам (дзе выкладаў гісторык) закранаіліся ў паведамленнях А. Вялікага і П. Кручка; лёс вучняў слыннага прафесара, ягонай навуковай школы і ўсёй агромністай спадчыны М. Доўнар-Запольскага дэталёва ўзнавілі доктар гістарычных навук С. Міхальчанка і А. Дуброўскі (абодва з Брянска), І. Верба (Кіеў), А. Ганущ, А. Кіштымаў, В. Скалабан, Г. Штыхаў, М. Шумейка, Я. Янушкевіч (Мінск), І. Нямкевіч, З. Паўлавец (Гомель), Д. Караў (Гродна) і інш.**

**Удзельнікі канферэнцыі мелі таксама магчымасць прагледзець кінастужку пра М. Доўнар-Запольскага (аўтары А. Ліс і Ю. Лысятаў).**

**Матэрыялы да біяграфіі гісторыка і літаратуразнаўцы, які ў 22-гадовым узросце быў рэдактарам-складальнікам такога этапнага для Беларусі XIX стагоддзя выдання як слынны "Календарь Северо-Западного края" (1889—1890), чытайце ў наступным выпуску "Пагінацыі".**

**Ю. ЯНУШ**

**КРЫТЫКА**

***Не кожная кніга адразу знаходзіць сваіх рэцэнзентаў. Часам той ці іншы твор чакае гадамі, а то і дзесяцігоддзямі, пакуль знойдзецца руплівы даследчык, які ўвядзе яго ў кантэкст літаратурнага працэсу на належнае месца, адкрые ў ім вартасці, што засталіся па-за ўвагаю так званай аператыўнай крытыкі... Тым больш прыемна, калі на варты ўвагі твор не трэба шукаць рэцэнзента — яны знаходзяцца самі. Так атрымалася з кнігаю Яна Чыквіна "Далёкія і блізкія". У лімаўскім аддзеле крытыкі з'явіліся адразу дзве рэцэнзіі на яе — гомельскай навукоўкі Вольгі Шынкарэнкі і пісьменніцы Святланы Явар. Даваць па некалькі разнапланавых водгукаў на варты ўвагі твор стала ўжо добрай традыцыяй. Таму прапануем чытачам пазнаёміцца адразу з двума поглядамі на згаданую кнігу.***

# Кніга, адкрытая ў свет

*У кожнага з нас, песняроў,*
*свае мроі,*
*у кожнага з нас, песняроў,*
*свае вершы.*
Н. Арсеннева

Асаблівай сілай прыцягнення валодае крытычнае слова пісьменніка. Па законе адбітку цэлага праз частку яно нясе ў сабе выразны асабовы пачатак і азначае, па сутнасці, нараджэнне новага твора паводле пэўнага твора, адмаўленне догмаў аналізу і непрыняцце ўспрымання мастака ў межах нейкай адной філасофскай сістэмы, літаратурнага напрамку. Сапраўдны творца заўсёды шырэй за іх, прыкметна і недзе свядома выбіваецца за ўсякія прадвызначаныя яму межы.

Безумоўна, што такой пазітыўнасцю будзе адрозніваца высокапатрабавальная пісьменніцкая крытыка, а не крытыка крытыкі ўласных твораў. У такіх выпадках досыць часта асобныя і аднясна асцярожныя заўвагі накont незакончанага гістарычнага твора (а не прызнанага дзяржавай, як настойвае вядомы аўтар) вырастаюць да хімерычных памераў збэшчвання ўсёй творчасці, а ўласная яго дасведчанасць у замежнай літаратуры ацэньваецца шырэй за веды і ўзровень аўтарытэтнага даследчыка-акадэміка. Самае цікавае, што якраз дзякуючы намаганням і руплівай працы апошняга сам узгаданы і іншыя сучасныя творцы будуць манаграфічна і, без сумнення, станоўча прадстаўлены ў новай "Гісторыі беларускай літаратуры". Не, усё ж такі ніякая не ўлада, а звычайная пыха (як пашыраная з'ява, а не канкрэтны выпадак) нішчыць-падточвае і пацікy з'ядае нашу літаратуру.

"Далёкія і блізкія" беластоцкага вучонага і паэта Яна Чыквіна даюць рэдкую ў сучасным літаратуразнаўстве (рэдкую і па прычыне прыкметнага скарачэння выхаду такіх публікацый) магчымасць перажыць сапраўдную радасць ад зайздроснай здольнасці творчай асобы прачытаць і пранікнуць у сэнс напісанага іншымі, умення бачыць і адчуваць, весці развагі, выходзячы з канкрэтных тэкстаў і па-за імі. Пры ўсёй дакладнасці ў абмалёўцы партрэтаў заакіянскіх мастакоў слова, беластоцкіх землякоў, доказным вызначэнні парадыгмы іх паэтычных сістэм даследчык не імкнецца расстаўляць творцаў па ранжыру геніяльнасці, прыналежнасці да таго ці іншага "ізму", не настойвае на непахіснасці сваіх высноў. Я. Чыквін перакананы, што "ў кожным чалавеку існуе вялікі і вельмі істотны, неабмінальны, унутраны суб'ектыўны свет "я"; свет напоўнены непрадбачальнымі, выпадковымі, віртуальнымі зрухамі думак, рэфлексаў, уражанняў, імкненняў, жаданняў; свет, у якім чалавек спасцігае сябе як непаўторную і непадзельную цэласнасць". Выяўляючы адкрытасць мастацкіх тэкстаў улюбёных аўтараў, прымаючы ўслед за імі кожны твор як выражэнне завершанасці і імгненнасці Абсалюту, ён дабіваецца для ўласнай кнігі той жа адзнакі адкрытасці ў свет і свету, шматзначнасці прачытання, акрыленасці сваім і чужымі талентамі. А гэта не можа не натхняць, не нітаваць з нервам-голасам паэта-крытыка суперажыванне чытача.

***Неразгаданая загадка Слова***
***Маўкліва-голасным сваім маленнем***
***Імкнецца праз гармонію давесці,***
***Што чыстай алгебры***
***і ўсюдыіснай кропкі***
***Найбольш байца дух свабоды***
***Паэзіі — нявольніцы свавольнай.***

*І свет не быў ужо для нас,*
*а самі мы былі асобным светам...*
М. Сяднёў

Некаторыя з матэрыялаў кнігі Я. Чыквіна ў поўным ці скарочаным выглядзе былі ўжо прадстаўлены ў друку дзякуючы крынічанскай рубрыцы "Ты". Але сабраныя пад адной, досыць прыгожай, вокладкай яны зусім не ўспрымаюцца як нешта другараднае ці састарэлае. Наадварот, набыўшы суседства, кантэкст з іншымі літаратурнымі партрэтамі-досведамі, раней вядомыя артыкулы пра творчасць М. Сяднёва, Н. Арсенневай, Я. Юхнаўца, Н. Артымовіч займелі новае гучанне. Яны пацвердзілі індывідуальнасць падыходу крытыка да асвятлення зробленага і перажытага кожным мастаком, засведчылі здольнасць аўтара ўдала спалучыць у межах адной працы адразу некалькі метадаў даследавання. У прыватнасці, біяграфічнага, канкрэтна-гістарычнага, культурасфоскага і інш. За гэтым хаваецца шырыня светабачання, вялікая абазнанасць пісьменніка як у галіне тэорыі літаратуры, так і ўласна мастацкай сферы, высокі ўзровень крытычнай культуры, што не зводзіцца да вышукавання асобных няўдач-дробязей, а дзе і няўдачы разглядаюцца і ўспрымаюцца як вынік пэўных суб'ектыўных і аб'ектыўных заканамернасцей, падуладных зменам да лепшага ці не.

Праўда, прыкметна заўважаецца, што, за выключэннем бадай толькі "Самасея" С. Яновіча, даследчык унікае падрабязнага аналізу празаічных твораў. Скажам, таго ж М. Сяднёва. Спасылкі біяграфічнага кшталту на яго "Рамана Корзюка", "І той дзень надыйшоў", пачатковы этап асэнса-

# Вернасць роднаму слову

Асоба Я. Чыквіна шырока вядома і ў Беларусі, і ў блізкім і далёкім замежжы. Паэт, лідэр беластоцкага літаратурнага аб'яднання "Белавежа", прафесар беларускай філалогіі, ён прысвяціў сваю новую кнігу разгляду творчасці пісьменнікаў, дзейнасць якіх разгорталася пераважна за межамі нашай Бацькаўшчыны. У прадмове да "Далёкіх і блізкіх" Я. Чыквін досыць падрабязна распавядае аб перадгісторыі напісання гэтай навуковай працы. Аказваецца, задума стварыць кнігу ўзнікла ў аўтара даўно, яшчэ ў 80-я гады, падчас працы ў Лонданскай беларускай бібліятэцы. Якраз тады пісьменнік і навуковец зацікавіўся багатай літаратурнай спадчынай тых, што "жылі, пісалі і публікаваліся на Захадзе", што "без надзеі быць пачутымі, засталіся вернымі роднаму слову".

Кніга "Далёкія і блізкія" Я. Чыквіна адкрывае перад чытачом раней невядомую старонку гісторыі беларускай літаратуры. Паводле слушнай заўвагі аўтара, творчасць эмігрантаў у былой БССР не вывучалася, паколькі там "такіх асоб агулам, ананімна кляймілі як ворагаў народа". Да таго ж, "замежная беларуская літаратура — з цэнтрам у Нью-Йорку і з цэнтрам у Беластоку — не прызнавалася беларускім літаратуразнаўствам". Трэба спадзявацца, аднак, што тыя змрочныя часы для нашай краіны назаўсёды скончыліся, бо цяпер усё ж працягваецца і адбываецца паступова засваенне акадэмічнай навукай вопыту пісьменнікаў дыяспары. Узнікае "патрэба гістарычна-літаратурнага і культурна-нацыянальнага" яго далучэння.

У сучасных умовах Я. Чыквін ставіць за мэту свайго даследавання зусім не — як, здаецца, можна было б чакаць ад працы, што пісалася шмат гадоў — усеабдымнае асэнсаванне творчых набыткаў літаратурнага замежжа. Вучоны свядома звужае кола навуковых зацікаўленняў і бачыць задачу ў тым, каб паказаць адметнасць пісьменніцкага шляху найбольш прыкметных асоб, творчасць якіх сталася для многіх паплечнікаў, паслядоўнікаў прыцягальным арыенцірам. Аўтары, чыя літаратурная спадчына становіцца прадметам літаратуразнаўчага і крытычнага аналізу ў кнізе Я. Чыквіна, маюць адну галоўную агульную рысу: іх творы, па словах даследчыка, "не зліваюцца з прадукцыяй масавага ўжытку". Гэта Масей Сяднёў, Наталля Арсеннева, Янка Юхнавец, Кастусь Акула, Ларыса Геніюш, Юрка Геніюш, Яша Бурш, Уладзімір Гайдук, Міхась Шаховіч, Надзея Артымовіч і Сакрат Яновіч. Нарысы пра іх жыццё і творчасць і склалі кнігу.

Праца Я. Чыквіна пабудавана своеасабліва — гісторыі жыццёвых, творчых лёсаў эміграцыйных літаратараў цяжка, амаль немагчыма звязаць на падставе значнага падабенства. Гэтаму паспрыялі абставіны, у якіх адбывалася збіранне фактычнага матэрыялу, патрэбнага, у прыватнасці, дзеля напісання раздзелаў аб прадстаўніках далёкага замежжа. Аўтар прызнаецца, што крыніцы яго даследавання былі ў выглядзе "ці то аказіянальна выдадзеных аўтарскіх зборнікаў, часта за свой кошт, на рататары, без прафесійнай падрыхтоўкі тэксту, ці ў форме часопісных публікацый, рассыпаных на ўсім шляху калісь тамашняй перыёдыкі". Нягледзячы на паказаныя тут акалічнасці, заўважальная сувязь паміж асобнымі нарысамі, якія складаюць кнігу Я. Чыквіна, усё ж назіраецца: ідэйна-тэматычная, светапоглядная, вобразна-стылёвая. Калі гаварыць аб стылі даследавання, дык можна з упэўненасцю сцвярджаць, што ў дадзеным выпадку аўтарская манера ўдала спалучае навуковасць і паэтычнасць. Як паэт і як вучоны адначасова, Я. Чыквін глыбока разумее, дакладна перадае сутнасць творчага працэсу.

Часткі даследавання спалучаны не толькі арыгінальным аўтарскім падыходам, але таксама ідэйнай канцэпцыяй, у аснове якой знаходзяцца беларускі патрыятызм,

вання першага з нагаданых твораў праз разгляд яго складанай і доўгай гісторыі напісання зусім не вычэрпваюць і не адпавядаюць багатым магчымасцям крытыка. Пэўнай нераскрытасцю тэмы адрозніваецца і раздзел, прысвечаны творчасці Кастуся Акулы, аўтара “Змагарных дарог” і рамана-трылогіі “Гараватка”, дзе большая частка тэксту адводзіцца аўтабіяграфіі пісьменніка. Фактычных дадзеных з жыцця творцаў замежжа катастрафічна бракуе, а таму зразумелы і апраўданы выбар аўтара. І ўсё ж адчуваецца, мабыць жа, абумоўленая пэўнымі прычынамі, недагаворанасць Я. Чыквіна ў гэтым артыкуле, бачыцца яго схаванасць — адзіны выпадак у кнізе, як на наш погляд, — за словамі самога пісьменніка.

Затое сапраўднай фенаменальнай з’явай успрымаецца слова даследчыка пра лірыку сваіх далёкіх і блізкіх сяброў па творчасці. Адухоўленае, наскрозь прачутае, яно ўзводзіць на вяршыню непаўторнасці не толькі тых аўтараў, паэзія якіх аналізуецца, але і самога Я. Чыквіна. А гэта не можа не кранаць, не выклікаць адпаведных асацыяцый.

***Пакуль для волі выраслі крылы***
***І дачакаліся ўсходаў “Самасея”,***
***Аберагалі Беларусь крыжамі***
***Арсенневай “Малітва” й Кніга Маісея.***

●

*Спяваю: глыбока ў зямлі*
*ляжаць першыя і апошнія словы.*
Н. Артымовіч

Паэтычная індывідуальнасць сёння і заўсёды найбольш абвострана адчувае і ўбірае ў сябе катаклізмы свету, бязладдзе ў ім і прагу гармоніі, суладнасці. Па вялікім рахунку паэзія не тлумачыць ні трагедый, ні радасцей. Праз імгненні душэўнага стану, духоўныя парыванні ці ўнутраную апустошанасць яна толькі перадае іх наяўнасць або адсутнасць, канцэнтруючыся ў асноўным на іх адбітках у суб’ектыўным “я”. Дэтэрмінаванае акаляючым светам, экзістэнцыяльнымі пакутамі, лірычнае слова — толькі люстраная паверхня знешніх і прыхаваных праяў жыцця. І тым не менш, якраз люстра нам можа расказаць усю праўду. Асабліва, калі яго ўладальнік імкнецца “тварыць нястворанае”, як гэта робіць Я. Юхнавец, што ўмее пачуць шорах моўкнасці і сніць свае дзіўныя сны на чужыне.

Рэдка каму з нашых паэтаў выпадае шчасце быць так глыбока прачытаным крытыкам. І ўжо зусім зрэдзь трапляецца магчымасць назіраць разгляд напрацаванага творцам у ракурсе яго эстэтычнай сістэмы, філасофскага мыслення, духоўных рэфлексій. Яну Чыквіну ўдалося гэта зрабіць і ў адносінах да творчасці Я. Юхнаўца, і азначанай промнем думкі паэзіі Яшы Бурша, і інтуітыўна-самапаглыбленай лірыкі Н. Артымовіч, на словы якой піша свае метатэксты А. Разанаў, і вершаў самотніка У. Гайдука, што сведчыць аб “магчымасці ды немагчымасці паўней развіцца”.

Нечакана мякка, па-чалавечы шчыра і цёпла выпісаны даследчыкам партрэт нашай вызвольнай змагаркі Ларысы Геніюш і яе сына Юркі, асобы таленавітай, светлай і не да канца рэалізаванай у творчым плане. Вызначаючы апорныя словы-вобразы паэтычнага свету пісьменніцы, іх метафарычнасць, крытык вылучае перадусім высокую трагедыйнасць патрыятычнай лірыкі зэльвенскай непаслушніцы, яе пасіянарнасць, самаахвярны напал, каб толькі “адхіліць усё злое ад роднага краю”...

С. Яновіч, “чалавек з прастромленай душой”, здолеў увасобіць уласны жыццёвы вопыт, сваё непрыманне сістэмы ў вобразах герояў, адначасова раскрываючы таямнічасць і складанасць сённяшняга соцыуму і амбівалентнасць асобы ў ім. Дык ці толькі змізарнеласць, выраджэнства ў самасействе? Ёсць у гэтай з’яве нешта і ад жывучасці, трывушчасці. Ян Чыквін у Андрэі Антошку пры ўсім яго неспакоі і дробязнасці бачыць пэўную прасветленасць, цёплыя праявы жыцця, што не можа не абнадзейваць.

Сапраўды, бачыць той, хто хоча бачыць. Двойчы бачыць той, хто адразу бачыць. Толькі творца з абвостраным унутраным зрокам можа спасцігнуць і паслядоўна даводзіць наступнае. “Чалавечая істота не мае ніякай раней дадзенай сутнасці; яна не толькі не ўмяшчаецца ў спекулятыўныя каардынаты рацыяналізму, а наадварот — не паддаецца аніякім дэфініцыям, яна адзіная ў свеце застаецца істотаю “адкрытай” у свет і асвятляе гэты свет сваім быццём”.

Такое прызнанне безабароннасці і адначасовай выключнасці кожнага не можа не яднаць усіх нас, не напаўняць клопатам за нашу агульную будучыню, за лёс заакіянскай і тутэйшай беларускай літаратуры.

***Далёкага і блізкага Паэта***
***Заўжды чаруе духу непадкупнасць.***
***У ім агонь, свет чыстае красы***
***І Слова першасутнасць.***

**Вольга ШЫНКАРЭНКА**

*г. Гомель*

адданасць г.зв. “малой радзіме”, напружанасць інтэлектуальнага, эстэтычнага пошуку. Спробу спасцігнуць, неяк вытлумачыць філасофскі свет творчасці Я. Чыквіна, у тым ліку гэтай яго кнігі, зрабіў доктар філасофскіх навук, прафесар У. Конан у сваім артыкуле “Быццё і час у люстэрку паэзіі (Нататкі пра творчасць Яна Чыквіна)”, які займае ў кнізе месца пасляслоўя. Найістотнейшай уласцівасцю створанага пісьменнікам У. Конан лічыць “інтэлектуальны трагізм”, распачаты Эклезіястам, выяўлены Ф. Дастаеўскім, Ф. Ніцшэ, польскім паэтам Ц. Норвідам, беларускім М. Багдановічам... які, урэшце, увасобіўся ў экзістэнцыялізме XX ст. Выразнай рысай творчай манеры Я. Чыквіна становіцца “іранічны драматызм”, што бярэ вытокі ў яго жыццёвай і паэтычнай біяграфіі. У. Конан як бы дае ключ да разумення ўсяго створанага Я. Чыквіным — пісьменнікам “рацыянальнага складу”, які ўмее вынаходзіць свае сюжэты, вобразы, метафары”, “паэтам-метафарыстам”.

Пераходзячы непасрэдна да характарыстыкі зместу даследавання “Далёкія і блізкія”, мушу адзначыць ідавочны падзел гэтай навуковай працы на дзве часткі: адна з іх апавядае пра далёкае літаратурнае замежжа (беларускіх пісьменнікаў ЗША, Канады, Чэхіі), другая — пра літаратараў адносна блізкай у геаграфічных адносінах польска-беларускай Беласточчыны. Нярэзкасць падзелу дасягаецца ў кнізе стварэннем “моста” з пераходных паміж Усходам і Захадам творчых лёсаў Л. і Ю. Геніюшаў.

Ужо самой назвай кожнага з нарысаў, якія ўваходзяць у склад “Далёкіх і блізкіх”, аўтар высвятляе сутнасць аблічча паасобных пісьменнікаў, піша літаратурныя партрэты. Так, лірыку М. Сяднёва Я. Чыквін абазначае як “узыходжанне на вяршыню”, паэзію Н. Арсенневай — як быццё “між Вільняй і Рочэстэрам”, у творах Я. Юхнаўца, на думку даследчыка, адчуваецца “набліжэнне вандроўніка”, “пад двума ветразямі” плыве творчы карабель Я. Бурша... Можна спрачацца з гэтымі ацэнкамі, аднак унікальнасць даследавання Я. Чыквіна якраз і заключаецца ў адкрытасці (дарэчы, аўтар лічыць яе станоўчай рысай творчасці любога пісьменніка). Чытач кнігі “Далёкія і блізкія” проста абавязаны ўдзельнічаць у дыскусіі з аўтарам: абуджэнне крытычнай думкі, выпрацоўка ўласнай пазіцыі адбываюцца ўжо ў час прачытання.

На заканчэнне дазволю сабе працытаваць тыя радкі Я. Чыквіна-паэта, што, паводле У. Конана, раскрываюць “душэўную таямніцу” творцы, якому даводзіцца жыць на чужыне. Беларускаму пісьменніку ў далёкім або блізкім замежжы, апошнімі гадамі нават... на Радзіме сугучныя, таму што выражаюць квінтэсенцыю яго жыцця, словы Я. Чыквіна:

***У тым адхоне, дзе я сканаю,***
***У тым пранізлівым бляску***
***Я вельмі самотны —***
***айчыны не маю.***
***Матчынай ласкі.***

**Святлана ЯВАР**

КНІГАРНЯ

# Беларускі рэнесанс у еўрапейскім кантэксце

Гэтую кнігу я набыў ужо даўнавата, але штосьці перашкодзіла адразу ж перагарнуць яе старонкі. Маю на ўвазе кнігу “Помнікі мастацкай культуры Беларусі эпохі Адраджэння”, што пад эгідай Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору выйшла ў цяпер ужо былым выдавецтве “Навука і тэхніка”. Аднак жа цяперашняе яе прачытанне яшчэ больш выявіла яе надзённасць. А ўсё таму, што не меншае ў нас нацыянальных нігілістаў і, на жаль, зноў большае ахвотнікаў пляжыць усё беларускае, адмаўляць беларусам у праве на культуру, вартую сусветных дасягненняў.

“Помнікі мастацкай культуры Беларусі эпохі Адраджэння” акурат і прысвечаны сувязям беларускай культуры з культурай Рэнэсанса і яскрава пераконваюць у тым, пра што пераканаўча сказаў Максім Багдановіч у сваім знакамітым артыкуле “Беларускае Адраджэнне” яшчэ ў 1916 годзе: “...у эпоху Адраджэння агульны разумовы і інтэлектуальны ўздым, які пачаўся на Захадзе, адлюстраваўся і на Беларусі. Ключом тут забіла жыццё, ішла, дзіўна пераплятаючыся, гарачая рэлігійная, нацыянальная і класавая барацьба, арганізаваліся брацтвы, што былі аплотам беларускай народнасці, закладваліся друкарні, адкрываліся школы з нечакана шырокай па тым часе праграмай (у некаторых выкладаліся пяць моў!), узнікалі вышэйшыя навучальныя ўстановы (юрыдычная школа імя св. Яна, Полацкая акадэмія з правамі універсітэта і г. д.). У розных месцах Беларусі запрацавалі друкарскія варштаты, выпускаючы кнігі царкоўныя, палемічныя, апалагетычныя вучэбныя... Усё гэта, узятае разам, вылучала Беларусь на адно з першых месцаў сярод культурнага славянства, ставячы яе далёка наперадзе Маскоўшчыны — тагачаснай славянскай глухамані, якая быццам чужаядная расліна жывілася духоўнымі сокамі Белай Русі”.

Гэтыя словы Максіма-Кніжніка і згадвае ва “Уступе” В. Шматаў, акрэсліваючы мэты і задачы згаданага выдання. Між іншым, не лішне сказаць, што і В. Шматаў падкрэслівае таксама: зборнік “Помнікі мастацкай культуры...” з’явіўся на глебе, шчодра дагледжанай людзьмі, неабыякавымі да праблем развіцця беларускай культуры ў эпоху, якая стала вызначальнай для яе фарміравання; навукоўцамі, напоўненымі жаданнем аб’ектыўна, глыбока і непрадузята зірнуць на Рэнесанс, як на з’яву культурна-мастацкага кшталту ў нашай нацыянальнай гісторыі, культуры, мастацтве.

Яны і парупіліся наколькі гадоў назад правесці навуковую канферэнцыю “Мастацтва эпохі Рэнесанса ў Вялікім княстве Літоўскім”. Гэты прадстаўнічы форум быў арганізаваны сумеснымі намаганнямі Музея старажытнабеларускай культуры ІМЭФ Акадэміі навук Беларусі і Нацыянальным мастацкім музеем Рэспублікі Беларусь. А запрошаны былі як навуковыя супрацоўнікі і аспіранты самога Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, так і Інстытута гісторыі АН Беларусі, іншыя даследчыкі, а яшчэ вучоныя з Ленінграда, Кіева, Калугі, Вільні, Коўны, Львова.

Матэрыялы канферэнцыі і ўвайшлі ў кнігу, рупна падрыхтаваныя (як і сама канферэнцыя) тадышнім загадчыкам аддзела старажытнабеларускай культуры ІМЭФ В. Церашчатавай, сёння, на жаль, нябожчыцай. Тым самым зборнік “Помнікі мастацкай гісторыі...” — і свайго роду даніна памяці незабыўнай Вольгі Васільеўны, якая надзіва шмат зрабіла дзеля зберажэння нацыянальнай культурнай спадчыны, сабраўшы сотні помнікаў (драўляных скульптур, абразоў, твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва), дагэтуль нікому невядомых. Не кажучы, зразумела, пра яе шматлікія выступленні ў друку, навуковыя працы...

Кніга скампанавана такім чынам, што матэрыялы, унікальныя па сваім як мастацкім, так і навуковым значэнні (а яны тычацца малавядомых альбо выяўленых у апошні час помнікаў мастацкай культуры Беларусі XVI — першай паловы XVII стагоддзя), аб’яднаны ў асноўныя раздзелы: “Выяўленчае мастацтва”, “Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва”, “Архітэктура”, “Гісторыя культуры” і “Археалогія”. А ў выніку не абыдзены ўвагай самыя розныя помнікі: знайшлося месца аналізу твораў жывапісу, іканапісу, графікі, дэталёва разглядаюцца драўляная скульптура, разьба, аналізуюцца драўлянае і каменнае дойлідства, “чутны” гукі старажытнай беларускай музыкі, праз шматлікія напластаванні вернута з небыцця тое, што дайшло да нас у выглядзе археалагічных знаходак. Пад адной вокладкай сабрана больш 30 артыкулаў.

Як бы запеўкай да кнігі ўспрымаецца артыкул Н. Высоцкай “Своеасаблівасць Рэнесанса ў Беларусі”. Праўда, ён ідзе не ўслед за “Уступам”, а адкрывае раздзел “Выяўленчага мастацтва”, хоць, як відаць са зместу матэрыялу, “прасіўся” на больш ганаровае месца, бо Н. Высоцкая не абмяжоўваецца гаворкай толькі пра творы выяўленчага мастацтва, якім, зразумела, таксама знайшлося месца ў яе развагах. У поле зроку даследчыцы трапілі і іншыя жанры, на падставе чаго яна і прыходзіць да высновы, што “архітэктура, выяўленчае і прыкладное мастацтва Беларусі XIV—XVI стст. з’яўляюцца важным этапам у развіцці яе культуры. Менавіта ў гэты перыяд адбылося фарміраванне і развіццё самабытных мастацкіх школ, адметнай асаблівасцю якіх было за[illegible]енне і пераасэнсаванне дасягненняў еўрапейскага рэнесансу, мастацтва Старажытнай Русі, Візантыі і культуры старажытных гарадоў Беларусі IX—XIV стст. Ускосным пацвярджэннем існавання гэтых школ з’яўляецца вялікая колькасць майстроў, якія працавалі ў розных відах мастацтва ў XV—XVI стст. (цяпер вядома не менш за 26 жывапісцаў, 27 рэзчыкаў, 105 залотных і сярэбраных спраў майстроў). Гэта таксама прыкмета рэнесансу, у адрозненне ад сярэднявечнага мастацтва, як правіла, ананімнага”.

Прозвішчы асобных з гэтых несумненна таленавітых творцаў і знаходзім у зборніку. Праўда, нярэдка пра таго ці іншага майстра гаворыцца не так і шмат — усё ж далёка не ўсе звесткі біяграфічнага характару дайшлі да нас, ды і многія артыкулы маюць агляднн план. У шмат якіх публікацыях прысутнічае і канстатацыя тыпу: “аўтар невядомы” — што ж, дзякуй Богу, хоць самі творы засталіся.

Тым больш на гэтым фоне “ананімнасці” вылучаецца артыкул М. Нікалаева “Кнігапісец Мацей Дзесяты і задачы вывучэння кніжнай вытворчасці і аздобы ў першай палове XVI ст.”, у якім аўтар разглядае рукапісную кнігу “Дзесятаглаў”, засведчыўшы: “На працягу пяці гадоў (з 1502 па 1507) працаваў над рукапісам пісец Мацей Іаанавіч, альбо, як ён сам сябе называе, Мацей Дзесяты. У прыватнасці, ён паведамляе, што нарадзіўся ў Тарапцы (на час нараджэння Мацея Тарапец уваходзіў у Вялікае княства Літоўскае) у вялікай сям’і — быў дзесяты сын у бацькоў, ад чаго і прозвішча: “Дзесяты”.

Пра Мацея Дзесятага нешта не даводзілася чытаць у энцыклапедычных даведніках. Ужо гэтага дастаткова, каб да артыкула М. Нікалаева паставіцца з павышанай цікавасцю. Але ж вартасць публікацыі, безумоўна, у іншым: у тым пільным прачытанні “Дзесятаглава”, якое робіць даследчык. А калі прыняць пад увагу, што артыкул ілюстраваны мініяцюрамі з гэтага выдання, дык прадстаўляецца рэдкая мажлівасць зазірнуць і на самі старонкі яго.

Між іншым, у “Помніках мастацкай культуры...” увогуле выкарыстана вельмі шмат рэпрадукцый. Шкада толькі, што яны чорна-белыя, не каляровыя, як магло б было быць у лепшыя часы, калі кнігадрукаванне і кнігавыданне ў нас знаходзіліся на належнай вышыні.

Каб чытач атрымаў яшчэ больш поўнае ўяўленне аб кнізе, згадаю і некаторыя іншыя артыкулы. Для прыкладу: “Рэнесанс у беларускім новым іканапісе” А. Хадыкі і Ю. Хадыкі, “Скульптурны партрэт эпохі Рэнесанса” А. Лявонава, “Готыка і рэнесанс Мірскага замка” Д. Бубноўскага, “Гродзенская кафля эпохі Адраджэння (другая палова XVI — пачатак XVII ст.) А. Трусава і А. Краўцэвіча, “Старажытная пячатка з Полацка” У. Мілюціна і С. Тарасава, “Этнаграфічныя рэаліі ў беларускім іканапісе XVI—XVIIIст.” В. Фадзеевай...

А гэта ж усё з нашай даўніны, чым нельга не ганарыцца. І з чым не сорамна “паказацца” іншым народам. А колькі ж беззваротна згублена! У тым ліку і якія помнікі нацыянальнага дойлідства. І яно ж таксама варта ўвагі. І можа ажыць, калі звярнуцца да архіўных дакументаў, матэрыялаў археалагічных даследаванняў.

Што таксама робяць людзі, неабыякавыя да нацыянальнай даўніны, культуры. А як шмат яны робяць, можа расказаць яшчэ адна кніга — “Страчаная спадчына”. Таксама калектыўная — зборнік, укладзены Т. Габрусь...

Магла б расказаць, калі б выдавецтва “Полымя”, якое не першы год прабівае рукапіс “у людзі”, знайшло ў сваіх памкненнях належную падтрымку.

А пакуль... Пакуль светла на душы і ад таго, што ёсць “Помнікі мастацкай культуры Беларусі эпохі Адраджэння”.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

## "Беларуская навука" — выдавецтва новае

**Ды стараецца заслужыць павагу ў чытача. Гэта засведчыў і шэраг кніг, што выйшлі ў ім апошнім часам. А ў "Беларускай навуцы" жывуць ужо 1998 годам. Нядаўна паступіў у кнігарні тэматычны план "БН" на наступны год. Ён — сціплы, у ім толькі 69 пазіцый, тым не менш — змястоўны.**

**Плануецца выдаць першы том чатырохтомнай "Гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя"... Гэта фундаментальнае даследаванне літаратурнага працэсу ў Беларусі 1901—1955 гадоў. Першы том прысвечаны аналізу літаратурнага руху 1901—1920 гадоў.**

**"Авангард і традыцыя. Беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння" — манаграфія І. Багдановіч закранае творчасць паэтаў ад пачатку XX стагоддзя да 30-х гадоў у цеснай сувязі з нацыянальна-вызваленчым рухам. Як сказана ў анатацыі, "выводзячы карані нацыянальнай ідэі з палітычных і творчых працэсаў, што адбываліся ў канцы XVII—XIX стст., аўтар разглядае разнастайныя і паслядоўныя спосабы яе ўвасаблення ў мастацкай творчасці паэтаў нашаніўскай пары (Я. Купалы, Я. Коласа, Цёткі, А. Гаруна, А. Паўловіча, К. Каганца і інш.), якія фарміравалі класічную традыцыю беларускай літаратуры". У другой частцы манаграфіі аналізуецца творчасць У. Дубоўкі, М. Чарота, У. Жылкі, А. Дудара, Т. Кляшторнага, В. Маракова, Я. Пушчы, А. Вольнага і іншых. Упершыню так шырока звернута ўвага на творчасць прадстаўнікоў хрысціянскага-патрыятычнага накірунку — К. Сваяка, В. Адважнага, Я. Быліны.**

**У. Мархель разглядае творчасць А. Міцкевіча на фоне грамадска-культурнага жыцця Беларусі ад часу трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай да сярэдзіны XIX стагоддзя ў сувязі з працэсам фарміравання новай беларускай літаратуры ("Ты як здароўе...". Адам Міцкевіч у тэндэнцыі адраджэння беларускай літаратуры"). У першым раздзеле ў полі зроку даследчыка высвятленне таго, як у творах знакамітага паэта знайшла адлюстраванне патрыятычная традыцыя з адраджэнскімі матывамі для Польшчы і для Беларусі. У другім — раскрываюцца мастацка-псіхалагічныя прыкметы руху Міцкевіча да беларускай творчасці.**

**У планах выдавецтва — кнігі: "Чалавек і прырода ў сучаснай беларускай прозе" В. Козіч, "Сучасная народная лексіка" Г. Юрчанкі (трэцяя, заключная частка шырокага агляду дыялектнай лексікі з усходу Беларусі), фальклорныя зборнікі "Фальклор Міншчыны" і "Радзінныя абрады", а таксама "Песні беларускага Панямоння" Т. Варфаламеевай.**

**Чарговыя кнігі з'явяцца ў шматтомным выданні "Беларусы". Адна з іх — "Грамадскія традыцыі" — калектыўная. Шырока апісаны такія святы і абрады, як Каляды, Масленіца, Вялікдзень, Купалле і іншыя. Другая — "Дойлідства" — напісана А. Лакоткам. Упершыню комплексна аналізуюцца гістарычныя тыпы паселішчаў, раскрываецца сувязь традыцый з сучаснымі тэндэнцыямі беларускай архітэктуры. Кніга багата ілюстравана чарцяжамі, малюнкамі, каляровымі і чорна-белымі здымкамі, выкананымі аўтарам падчас даследавання помнікаў архітэктуры.**

**У зборніку "За межамі Бацькаўшчыны" гаворка ідзе пра шматграннае жыццё беларускай эміграцыі ў канцы XIX—XX стагоддзяў. Асобныя артыкулы прысвечаны М. Забэйду-Суміцкаму і Л. Геніюш.**

**Назва манаграфіі С. Тарасава "Полацак IX—XVII стст.", як кажуць, сама гаворыць за сябе. Важна, што аўтар уводзіць у навуковы ўжытак раней невядомыя крыніцы і матэрыялы.**

**Выйдуць таксама такія працы гістарычнага кшталту, як "Крывічы на Дзвінасе ў X—XII стст." Г. Штыхава, "Тураўская зямля ў IX—XIII стст." П. Лысенкі, "Насельніцтва Беларускага Пабужжа ў IX—XIII стст." Т. Каробушкінай, "Старажытныя гарадзішчы Беларускага Палесся" М. Лошанкава, "Калабарацыянізм у Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны" А. Літвіна і іншыя.**

**Пачынаецца выданне "Археалогіі Беларусі" ў чатырох тамах і "Гісторыі сялянства Беларусі са старажытных часоў да 1996 г." у трох. Адпаведна пабачаць свет два тамы і адзін.**

**"Беларуская палеаграфія" (аўтары У. Свяжынскі і З. Яцкевіч) — першы вучэбны і практычны дапаможнік, прысвечаны гэтай праблеме на Беларусі. Ёсць спіс спецыяльнай літаратуры, слоўнікі спецыяльных тэрмінаў і скарачэнняў. У дадатку змешчаны ўзоры беларускай кірылічнай і лацінскай палеаграфіі ў выглядзе здымкаў тэкстаў з іх транслітэрацыяй сучаснай графікай.**

ПАЭЗІЯ

Рыгор БАРАДУЛІН



# У сэрцы кожным Беларусь жыве...

## Змусь!

*У кожным беларусу*
*Беларус*
*Хай чуецца,*
*Як зерне ў араллі.*
*Каб замак духу нашага*
*На друз*
*Патрушчыць землятрусы*
*Не маглі.*

*У кожным беларусу*
*Хай, як кроў,*
*І мова беларуская*
*Цячэ,*
*І рэха,*
*Як з жывых муроў,*
*З бароў*
*Вярнуцца кліча нас*
*Радней яшчэ.*

*У кожным беларусу*
*Беларусь*
*Хай вырастае моцная,*
*Як бронь.*
*Ты — госць.*
*Дык з ласкай*
*Сам сябе прымусь*
*Быць беларусам*
*Шчырым, як агонь!*

## Рэквіем

*На Палессі буслы*
*Не заводзяць сям'і.*
*На Палессі буслы*
*Бабылямі.*
*Цені счахлыя ходзяць*
*Па стахлым куп'і.*
*Чарнабыльнік*
*Пыхліва буяе.*
*Ветраком*
*Адхрысціцца ад наслання*
*Спрабавала*
*Былая сядзіба.*
*Толькі аблачанятка,*
*Як бусляня,*
*Праплыло на ёй*
*Чырвонацыба...*

## Хоць бы вам...

*Панавітыя спадары,*
*Вы,*
*Што вольныя ад спакусы,*
*Дрэвы, рыбы, птушкі, звяры —*
*Непахісныя беларусы.*

*Памяняць не хацелі вы*
*Ні ваду, ні нябёсы, ні долы.*
*Хмары —*
*Хісткія астравы*
*Перад вамі хілілі чолы.*

*Мы на тое ў гэтым жыцці,*
*Каб няўцямна чакаць расстання.*
*Шчабятаць, рыкаць,*
*І плысці й гусці*
*Хоць бы вам,*
*Калі нас не стане...*

## Баліць галава...

*Расія, Польшча, Літва —*
*Залатыя нашы суседкі.*
*У іх па адным*
*Баліць галава,*
*Як прытуліць штосьці*
*З нашай паветкі.*

*Каб потым дрыжэць*
*Над ужо сваім,*
*Не азірнуўшыся для прылікі.*
*Нічым не грэбуюць.*
*І на тым*
*Наш беларускі дзякуй вялікі!*

*Для мройлівых коз*
*Хоць са снегу стог.*
*Шлях млечны мяцецца*
*Хмурыністым гаем.*
*За нашу пакору*
*Падасць нам Бог —*
*Сябе суцяшаем.*
*І тое маем.*

## Як той агонь...

*Як той агонь заснулы*
*ў макавым зярнятку,*
*Што спаліць жарсцю*
*Ці ачысціць светлатой,*
*У сэрцы кожным*
*Беларусь жыве спачатку*
*Двайніцай ніцаю*
*заступніцы святой.*

*Як спаліць —*
*Прысак застанецца летуценны,*
*Што хоць на міг які*
*Адбеліць чарнату,*
*Асвеніць верай,*
*Каб наступныя калены*
*Чужак не пяўся пакасіць, як асіту.*

*Агонь ахвярную*
*Такую мае жменю,*
*Якая голай будзе,*
*Колькі ні дары.*
*Агонь — сваяк гарачы*
*Роднаму агменю.*
*Агонь ніколі не праспіць*
*Сваёй пары.*

## Маўчаць

*Шаргункамі забытымі*
*Перагукваюцца ільны.*
*Словы вяртаюцца*
*Да незабытай віны.*
*І адбываючы нябеснае пакаранне,*
*Беларусы маўчаць,*
*Як анямелыя валуны,*
*Прыгнаныя ледавіком спадзявання.*

## Салям! Чалом!

Да 600-годдзя з нагоды татарскага асадніцтва на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага

*Над небам мячэці маладзічок*
*Займаецца колькі стагоддзяў,*
*Нібыта адкінуты ўздыхам*
*Кручок*
*З дзвярэй,*
*Каб блуканец заходзіў*
*У храм,*
*Дзе яго падпярэжа Алах*
*З Карана суровай сурою.*
*Блуканец імя сваё*
*Знойдзе ў імглах*
*І ўмые зарою сырою.*

*І роспач сляпая*
*Захоча вачэць,*
*І спадзеў не ўпусціць*
*Свой шанец.*

*І будзе пакутна*
*Глядзець на мячэць*
*Апошні крывіцкі паганец...*

## Беларускай парыжанцы

Вірджыніі Шыманец

*Вірджынія — вяргіня,*
*Што расла*
*Ў гародчыку,*
*Які завуць Парыжам.*
*За ёй зайздросць*
*Сачыла вокам хіжым,*
*А гожасць*
*Далучала да святла.*

*Шляхетнасці крывіцкай*
*Карані*
*Цягнуліся з-пад Нёмана*
*Да Сены.*
*Ці, кажучы навукавата,*
*Гены*
*Шукаюць летуценна*
*Глыбіні.*

*І мовы беларускай*
*Кожны гук*
*На вуснах*
*Дасканалай парыжанкі*
*Пяшчоціцца,*
*А ў ім і крык крыжанкі,*
*І хцівасць цецівы,*
*Што цэліць лук.*

*Крывіцкасці*
*Нязмушаны інтым*
*У чысціні*
*Знаходзіць наталенне.*
*О, гэта вымаўленне,*
*Як маленне*
*Вяртання*
*Перад алтаром святым.*

*Сумуе Нёман,*
*Тужыць Неманец —*
*Ім без яе*
*Пагаманіць няма з кім.*
*Чаруе прозвішчам*
*Чароўна наскім,*
*Шаманіць чаратова*
*Шыманец...*

## Хацелі...

*Бялейшае за снег*
*Сумленне*
*Павінна быць —*
*Хацелі продкі,*
*Даўгі пражыўшы*
*Ці кароткі*
*Свой век,*
*Як шчырае маленне.*

*І, выклікаўшы*
*Дух прадоння,*
*Нашчадкі,*
*Быццам пра адзенне,*
*Успамінаюць*
*Пра сумленне.*
*Ды толькі снег*
*Чарнейшы сёння.*

## Вернасць

*Колькі ні смяяліся з вароны,*
*З голасу картавага ні кпілі,*
*Падаў ейны цень*
*На лбы й на троны,*
*Седалам былі сукі і шпілі.*

*Свой убор да пер'іны варона*
*Ад часін паганскіх захавала.*
*Што ж за ёй дагэтуль падазрона*
*Сочыць чалавечая навала?*

*Хто вароне гнёзды разбурае,*
*Хто крадзе галюткіх варанятак,*
*Хто дурной варону называе,*
*Беспрабудна ходзячы ў вар'ятах?*

## Справядлівасць

*У гордай справядлівасці рукі*
*Прасілі жаніхі ва ўсе эпохі —*
*Тузы, грашавікі, і жабракі,*
*Глухія мудрацы і скамарохі.*

*Каму ўзаемнасць, а каму развод*
*Давала справядлівасць і глядзела,*
*Як мітусіцца чалавечы род,*
*Як адракаецца душа ад цела.*

*За юную нявесту і ўдаву*
*Спрачаліся і кулакі і шпагі,*
*Арлы з каронаў клалі галаву*
*І цень ад славы рыцары адвагі.*

*Хай ад крыві ў дарэмнай барацьбе*
*Твая апошняя пасцель сырая,*
*Спакойна справядлівасць на цябе*
*Сястрою міласэрнай пазірае.*

## Паўночная балада

*Спяшаўся паўночны кароль —*
*Чакала яго перамога.*
*Ніжэла нябесная столь*
*Ад крыку ўтрапення нямога.*

*Блішчэла ў кальчугі луска.*
*Чало засланяла прылбіца.*
*З воронаю з-за каласка*
*Гатоў верабей быў пабіцца.*

*Сляды ад зіхоткіх падкоў*
*Рабілі дарогу відушчай.*
*І чорныя плоймы шпакоў*
*Трымцелі хмурынаю тушчай.*

*Усмешкай адпрэчваў кароль*
*Хмурынкі сумніўнасці з твару.*
*Ды страх прашаптаў:*
*— Запаволь*
*Свой спех ды зірні...*

*І пачвару,*
*Зірнуўшы, пабачыў кароль.*
*Магуту бясстрашнага, можа,*
*Не страх папярэджваў,*
*А троль,*
*Што ўстаў з верасовага ўзложжа.*

*І мыла кашулю карга*
*Замшэлая, як карчавешка.*
*І зацьміла позірк імга.*
*Сумелася смелая ўсмешка.*

*Крывавай ваду ручая*
*Рабіла кашуля сырая,*
*Спытаўся:*
*— Кашуля чыя? —*
*— Твая! —*
*Адказала старая.*

*...І, радасцю гоячы боль,*
*Крышыліся дзіды і мечы.*
*Слуга перамогі —*
*Кароль*
*Упаў ёй у ногі ў ламечы.*

*Крывёю напоўніла ўшчэрць*
*Свой кубак*
*Нябачная сіла.*

*Канаючы, ўспомніў,*
*Як смерць*
*Кашулю ягоную мыла...*

## Ніколі

*У кватэры, ў якіх я*
*Калісьці жыў,*
*Я яшчэ не заходзіў ні разу.*
*Ні забыты матыў,*
*Ні надрыў, ні парыў*
*Не пускаў у душу,*
*Як абразу.*
*Каб не ўшчуліць таго,*
*Што было, што сплыло,*
*Засталося ўспамiннай гасподай.*
*Бо жытло,*
*Дзе душа гасцявала,*
*У святло*
*Перайшло,*
*Разлілося лагодай.*

## На парыках у настальгіі

*Я даўнім стаў, як вальс,*
*Што быў сыграны*
*Аднойчы некім*
*І не для мяне.*
*І сажалак зялёныя экраны*
*Ні мой адчай,*
*Ні сум не скалыхне.*

*Я ўзяты настальгіяй на парукі.*
*Дзе тыя рукі, ўдзячныя мальбе?*
*Мелодыя забылася.*
*І гукі*
*Пайшлі ў нябыт,*
*Каб там знайсці сябе.*

*Ці ўзнагароджаны, ці пакараны*
*Тым успамінам,*
*Што жыве і ў сне,*
*Я стомлены, як вальс,*
*Што быў сыграны*
*Аднойчы некім.*
*Ды не для мяне.*

## Сам

*Сам ворага свайго ствары,*
*Зляпі яго з калянай гліны,*
*Вазьмі яго сабе ў сябры*
*І да апошняе хвіліны*
*З ім шчыры будзь*
*І не хітры.*

*Мець ворага свайго лацвей.*
*І на самоце і ў застоллі*
*Ён твой крумкач і салавей,*
*Цябе ён не прадасць ніколі,*
*Лагодней ты ці суравей.*

*Сябры, вядома, да пары.*
*Наноў не выдумаеш порах.*
*Усе бабры сабе дабры.*
*Калі ты сам сабе не вораг,*
*Дык ворага свайго ствары.*

ПРОЗА

Уладзімір ПАЎЛАЎ

# СТАРШЫ ЛЕЙТЭНАНТ ЖАРНАСЕК



***Напісаў аповесць "Пад схіленым дрэвам". Пра дзень сённяшні і, у рэтраспектыве, — пра дзень учарашні, раскулачаны, ваенны. Пра тое, што выпала на долю беларуса.***

***Аповесць прынята часопісам "Полымя". Урывак з яе прапаную Вашай увазе.***

**Аўтар**

Камандзір курсанцкага ўзвода Калінкавіцкага пяхотнага вучылішча старшы лейтэнант Яўген Жарнасек за тры дні да пачатку вайны быў пераведзены на новае месца службы ў горад Слуцк у адну з вайсковых часцей. Старшы лейтэнант спадзяваўся, што дадуць яму роту або прызначаць на пасаду начальніка штаба батальёна, а там прысвояць і званне капітана. У камузвода ён засядзеўся, няхай сабе і курсанцкага. У вучылішчах званні камандзіраў на ступень вышэй, чым на тых жа пасадах у страявых часцях. Так што разлічваць было на што, тым больш спадзявацца на добры зыход новага прызначэння.

У штабе, куды ён з'явіўся і перадаў запячатаны пакет з асабовай справай, яго чакалі — ведалі аб прыбыцці. Заставалася споўніць фармальнасць. Кадравік ускрыў пакет, прабег анкетныя даныя, узняў вочы, спытаў, а дакладней пераўпэўніўся:

— Зямляк, значыць?

— Так точна. Нарадзіўся недалёка адсюль.

Кадравік звыкла гартаў асабовую справу старшага лейтэнанта Яўгена Жарнасека, пакуль не дайшоў да апошніх старонак. Што там было пра яго напісана, старшы лейтэнант не ведаў, але, мабыць, не самае лепшае. Капітан уважліва чытаў, час ад часу пастукваючы па стале алоўкам. Скончыў, прайшоўся па кабінеце.

— М-да, абстаноўка складаная, патрабуе павышанай нашай пільнасці і вытрымкі... А будзеш служыць, старшы лейтэнант, камандзірам каменданцкага ўзвода. Твой папярэднік выбыў, зоймеш яго месца...

....і старшаму лейтэнанту Жанрасеку стала зразумела ўсё.

Летась яны выязджалі на лагерныя зборы ў Заходнюю Беларусь, пад Слонім. Трэба было асвойвацца з новай мясцовасцю і з новымі палігонамі. Палітычная абстаноўка імкліва мянялася і калі пачаць сур'ёзна разбірацца ў ёй, шмат што здавалася незразумелым, а то і супярэчлівым, невытлумачальным. Кровапралітная вайна з Фінляндыяй, пакт аб ненападзе з Германіяй, пра якую толькі што пісалі, што яна фашысцкая і сякая-такая. Увесь час гаварылі пра германскі фашызм, і раптам такі круты паварот... Паспяховы, амаль без сур'ёзных баёў паход у Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну. Разгром Польшчы. Вітанне Гітлеру з гэтай нагоды ад Сталіна. Словы пра ваеннае брацтва, сумесна пралітую кроў, пра тое, што дружба, змацаваная гэтай крывёй, будзе развівацца і ўмацоўвацца. І нарэшце парады Чырвонай Арміі і нямецкіх войскаў у Кіеве, Брэсце, Гародні, Пінску. У Брэсце парад прымалі з нямецкага боку генерал Гудэрыян, войскі якога захапілі Брэст і Брэсцкую крэпасць. І наша цяжкая артылерыя тры дні лупіла па загадзе камбрыга Крывашэіна па крапасных цытадэлях. Дык вось, з нашага боку парад прымаў камбрыг Крывашэін.

Неўзабаве немцы пакінулі Брэст і іншыя мясцовасці аж да Пружанаў, якія занялі ў выніку пераможнай вайны над Польшчай, і якія саступілі нашым войскам і нашым уладам. Відаць, на тое была нейкая дамоўленасць. Афіцыйнага тлумачэння, больш-менш зразумелага, не было.

Ці не ў знак удзякі з нашага боку было зроблена наступнае. Немцы папрасілі пусціць на тэрыторыю заходніх абласцей, дзе яны ваявалі з палякамі, пошукавыя каманды, матывуючы, што не ўсе нямецкія салдаты, якія загінулі, належным чынам пахаваны. Трэба выявіць іх магілы, прыбраць. А значыць, неабходна абследаваць мясцовасць.

Згода з нашага боку была дадзена.

Нямецкія каманды ў чорнай жалобнай апратцы і шасталі па ўсім прыгранiччы. Хто сустракаўся з імі, бачыў, што гэта далёка не пахавальныя каманды, не супрацоўнікі Чырвонага Крыжа або сацыяльных службаў. Вельмі ж падобныя яны былі на адкормленых загарэлых страевікоў. У сваіх здагадках шмат хто ішоў яшчэ далей: гэта кадравыя разведчыкі, дыверсанты.

Летась на адну такую групу напароўся курсант з узвода старшага лейтэнанта Жарнасека.

Надвячоркам у свой вольны час курсант паглыбіўся ў лес і нечакана сустрэў там людзей. Чалавек пяць, а можа, і больш. Пры дарозе на палянцы, адганяючы хвастом заедзь, пасвіўся конь. Непадалёк пад раскідзістым кустом арэшніку стаяла фура, накрытая брызентам. З-пад брызенту тырчалі дзержакі, відаць, рыдлёвак, на біле абапёртая кірка. Атабарыліся тут даўно: конь у некалькіх месцах настояў. Там-сям умятая людзьмі трава, а некаторыя з іх працягвалі загараць і на вячэрнім сонцы не спяшаючы апранацца.

Курсант ледзь не плачучы дакладваў, што заўважыў на высокай елцы провад антэны. Самога радыста не бачыў. Пэўна, схаваўся пад лапамі елкі. Затое насцярожана хадзіў каля яе, часта спыняўся і пільна ўглядаўся вакол высокі немец з прыкметнай амаль белай шавялюрай.

Дзяжурны па лагеры старшы лейтэнант Жарнасек пакінуў за сябе памочніка, узяў першых пяцёх курсантаў, што трапіліся пад руку, і ўсе кінуліся за курсантам, што выявіў, як ён сцвярджаў, дыверсантаў. Старшы лейтэнант з пісталетам у руцэ, курсанты — з вучэбнымі вінтоўкамі.

Відаць, не адзін немец з белай шавялюрай ахоўваў радыста. Быў ці былі і іншыя, што выявілі пільнага курсанта. Провада антэны на высокай елцы, натуральна, ужо не было. Не было каля яе і ахоўніка. Усе групаваліся каля фуры. Мабыць, па адпрацаваным на такі выпадак сцэнарыі, не сталі ўцякаць, паводзілі сябе натуральна, маўляў, я не я і хата не мая. З'яўленне старшага лейтэнанта з курсантамі ўспрынялі як вялікую нечаканасць. На тварах усіх — непадробнае здзіўленне: адкуль тут, у лесе, вайскоўцы?!

— Хто такія? Вашы дакументы! — звярнуўся старшы лейтэнант Яўген Жарнасек да немца з белай шавялюрай, які ўжо ішоў насустрач. Мабыць, быў старшы над астатнімі.

Кінулася ў вочы яго высокая спартыўная фігура, некалі рассечанае правае брыво і блакітныя, амаль дзіцячыя ў сваёй непасрэднасці вочы.

— Вас? (Што?), — спытаў немец.

Да яго хуценька падышоў перакладчык, стройны, галантны, як і гэты белы, да якога звярнуўся старшы лейтэнант.

— Старшаму лейтэнанту патрэбны нашы дакументы, — патлумачыў перакладчык.

Блакітнавокі з рассечаным брывом дастаў з нагруднай кішэні курткі паперы, падаў іх Жарнасеку, а сам загаварыў з перакладчыкам. Той зноў пачаў тлумачыць:

— Мы — пошукавая каманда. Шукаем месцы пахавання германскіх воінаў. Заблудзілі. Можа, камарад старшы лейтэнант пакажа нам дарогу на Слонім? На карце мы адзначаем магілы паўшых, каб пасля перахаваць іх астанкі ў фатэрляндзе. Просім да фуры.

Фуру ўжо раскрылі. Спецыяльна, канешне. Каб рускія пераканаліся, што ў ёй нічога незвычайнага, тым больш недазволенага няма: рыдлёўкі, кірка, лом, скрутак вяроўкі, складзены брызент. Астатняе — сухі паёк, тое, што патрэбна на кожны дзень: у двух раскрытых ранцах хлеб, кансервы. Яшчэ ў адным — тэрмасы з вадой ці шнапсам. Асобна ў каробцы ляжалі шакалад, цыгарэты.

А карта дакладнейшая! Па ёй і дзіця не заблудзіць, не тое што дасведчаныя людзі, якія з ёй маюць справу. Рацыі ж, канешне, няма. Як няма, трэба думаць, і радыста тут, каля фуры. Яны што, дурныя?! У іх усё наперад прайграна, выверана, разлічана. Загадзя прызначаны час і месца сустрэчы з радыстам і тым, хто пайшоў з ім ахоўнікам. А гэтыя, нябось, у душы пацяшаюцца: лавіце вецер у полі!

Белы аддаў загад. Распранутыя пачалі хуценька апранацца. Адзін пабег па каня, падвёў да фуры, узяўся за вупраж.

Старшы лейтэнант Яўген Жарнасек паказаў на карце, дзе зблуджаныя знаходзяцца, хоць, канешне, яны і самі ведалі не горш за яго. Пра дарогу сказаў:

— Вы па ёй едзеце. Дык і едзьце без затрымкі!

Яго курсанты свае вучэбныя вінтоўкі пазакідалі за спіны, пераступалі з нагі на нагу, з цікавасцю назіралі, што адбываецца, як справы пойдуць далей.

А далей белы немец узяў адзін з тэрмасаў, адвінціў крышку, наліў у яе шнапсу, працягнуў Жарнасеку:

— Бітэ!

— Данке, — падзякаваў старшы лейтэнант і адхінуў руку з чаркай.

Суразмоўнік пастараўся адказаць па-руску:

— О, так, служба.

Блакітныя вочы немца прыязна засвяціліся. Ён усміхнуўся, з цяжкасцю, але зноў сказаў па-руску:

— За знакомство. — Выпіў, выцер губы, і, як здалося курсантам, падміргнуў ім і іх старшаму лейтэнанту.

Вярнуліся ў лагер. Жарнасек па тэлефоне далажыў па начальстве пра лясное здарэнне. На другім канцы незадаволена крэкнулі. Пачалі тлумачыць, нібы маломý, што ёсць дамова паміж урадамі СССР і Германіі на такія пошукі. Цярпліва параілі: "Вы, старшы лейтэнант, не прымайце неабдуманых самастойных рашэнняў. Часта гэта дорага абыходзіцца. Не шукайце за кожным кустом мядзведзя", — рэзкі гудок у трубцы абарваў размову.

— ...м-да, абстаноўка складаная, — прамовіў штабны капітан, — Даводжу вам да ведама, старшы лейтэнант, наступнае. У апошні час ходзіць шмат чутак пра вайну з дружалюбнай нам Германіяй. Іх распускаюць ворагі пакта аб ненападзе, панікёры. За гэта прадугледжваецца строгае пакаранне: выключэнне з радоў партыі, а то і ваенны трыбунал.

Далей працягваў гаварыць, нібы інструктуючы. Падобна, так і было. Больш па службовым абавязку, чым шчыра, даверліва.

— Калі вы сам або нехта з падначаленых вам чырвонаармейцаў адкрые агонь па нямецкім самалёце, вас расстраляюць на месцы, або не пазней чым праз дваццаць чатыры гадзіны.

— Але я яшчэ не знаёмы з маімі падначаленымі, не ведаю, хто на што здольны, хто і як паступіць у такой сітуацыі.

Капітан развёў рукамі, нібы гаворачы: не мая гэта, браце, прыдумка. Устаў з-за стала, даючы зразумець, што гаворка і інструктаж скончаны. У дзвярах прытрымаў старшага лейтэнанта за плячо, бадзёра, амаль па-сяброўску сказаў:

— Служы, старшы лейтэнант. Бог не выдасць — свіння не з'есць. — І моцна пацiснуў руку.

Праз тры дні пачалася вайна. А яшчэ праз двое сутак каменданцкі ўзвод пад камандаваннем старшага лейтэнанта Жарнасека вылоўліваў у горадзе нямецкіх лазутчыкаў. Дыверсанты хацелі падарваць вайсковыя склады, але былі заўважаны вартавымі, якія адкрылі па іх агонь. Падаспеў нарад каравула, дыверсантаў адагналі. У перастрэлцы адзін з налётчыкаў быў забіты. Высокі, спартыўнага складу. У міліцэйскай форме. Побач ляжаў пісталет ТТ, міліцэйская фуражка з акольшам крапавага колеру. Пераапрануты выдаваў за нашага. Аблічча ж было чужое. І чужыя незакрытыя вочы ашклянела пазіралі не ў сваё світальнае неба.

(Працяг на стар. 14—15)

# І звярнуцца да Моцарта на "ты"

*...Карціна ў пышнай залачонай раме: "на строгім чорным фоне — беласнежны клавесін, нотная папера, гусіныя пёры. За клавісінам — ён, Моцарт, у шыкоўным, расшытым срэбрам блакітным камзоле. Карціна мае ўсе падставы ажыць...*

**Асоба Моцарта і яго творчасць цяпер прыцягваюць увагу самых розных беларускіх тэатраў. Паводле знакамітай пушкінскай маленькай трагедыі створаны спектаклі "О, Моцарт, Моцарт!" у Дзяржаўным оперным тэатры, "Моцарт і Сальеры" у Малым (як спадчына Альтэрнатыўнага). Пад канец тэатральнага сезона да іх далучылася пастаноўка Дзяржаўнага тэатра лялек "Гэта ты... Моцарт?!".**

**Якасці рэжысёра-пастаноўшчыка і адначасова аўтара п'есы спалучыла Ірэна Мацкевіч, якая, акрамя рэжысёрскай адукацыі,атрымала яшчэ і спецыяльную музычную. Пэўна, менавіта таму ёй удалося стварыць якаснае тэатральнае відовішча і ў той самы час дамагчыся ад акцёраў добрага ўзроўню выканання вакальных партый, падабраць адпаведнае музычнае суправаджэнне. Дарэчы, пастаноўка шмат набыла ад таго, што ў ёй была выкарыстана не звычайная фанаграма, а выкананне інструментальнага квартэта (А. Чаранок — фартэпіяна, Н. Артуганава — скрыпка, А. Трыгубкіна — віяланчэль, С. Ісакава — флейта). Музыка квартэта — арганічная частка непадзельнай тканіны спектакля, кантакт з дзеяннем не губляецца ні на хвіліну. Гучаць вядомыя ўсім "Маленькая начная серэнада", урывак з 15-й санаты і знакаміты "Рэквіем".**

**Музыка ў спектаклі вядзе рэй. Спектакль — распавед пра яе, пра працэс стварэння моцартаўскіх "шлягераў": опер "Вяселле Фігара", "Чароўная флейта", "Дон Жуан". Гледачу прапаноўваецца зазірнуць у творчы свет кампазітара. Гэтаму свету цесна ў межах статычнага партрэта, ён апантаны воляй, хутка авалодвае ўсёй сцэнічнай прасторай і... пачынае жыць уласным жыццём: героі опер нават асмельваюцца ўступіць у канфлікт са сваім творцам! Моцарт у выкананні Аляксандра Казакова спрабуе ўмяшацца ў дзеянне, але ўжо не можа справіцца са сваімі персанажамі. Ён жа адзін, а іх вунь колькі: Лепарэла (У. Уласаў), дзіўная паўптушка Папагена (А. Васько), абаяльны Дон Жуан і мудры Зараастр (Д. Тэтруашвілі), грозны маўр Манастатас і смешны ў сваіх кароткіх блакітных нагавіцах прынц Таміна (А. Голуб), прыгожая Цэрліна, Марселіна, Папагена (Э. Пранскутэ).**

**Спектакль ва ўсім нагадвае вясёлы тэатральны капуснік. Акцёры, якія самі ствараюць яго і неабмежаваныя рамкамі тэксту (дыялогаў у п'есе амаль няма), атрымалі вялікую прастору для імправізацыі. Для іх гэта цікавая, каляровая, жыццярадасная гульня, прыняць удзел у якой яны запрашаюць усіх, хто сядзіць у зале. Адчуванне сапраўднага свята нясуць і яркія, прывабныя касцюмы, створаныя мастаком Аленай Ігрушай. Дарэчы, гэта ўжо другі па ліку "Моцарт", якога ёй даводзіцца "апранаць".**

**На першы погляд здаецца дзіўным, што музычная пастаноўка, якая вымагае зусім не звычайнага акцёрскага вакалу, ажыццявілася ў лялечным тэатры... Праўда, лялечным спектакль таксама не назавеш, *бо ягоныя героі* ды персанажы — усё-такі акцёры, якія, паводле задумы, самі робяцца вялікімі лялькамі, выкарыстоўваюць прыёмы тэатра дэль артэ, гуляюць з рэчамі. Ажывае агонь у чашы Зараастра і маленькая, але вельмі шкадлівая хмарка...**

**На прэм'ерных спектаклях зала была поўнай. Бальшыня гледачоў — дзеці, калі не лічыць тэатральных крытыкаў і запрошаных сяброў-акцёраў. Трэба было бачыць, як дзеці ўважліва сачылі за дзеяннем і шчыра рэагавалі на кожны "акцэнт" у музыцы ці акцёрскай гульні. Менавіта дзеці — удзячныя гледачы спектакля, хоць у афішы і пазначана "для дарослых". Спадзяюся, ён заахвоціць іх больш пільна пацікавіцца, хто ж такі Папагена, і звярнуцца да Моцарта. На "ты"...**

**Юлія ПАЛАЧАНІНА**

ІМПРЭЗЫ

# 1000-годдзю Гданьска

Падзея, пагадзіцеся, выбітная: у славутай Балтыйскай філармоніі, што працуе ў Гданьску і свой сёлетні сезон прысвячае 1000-годдзю гэтага прыгожага прыморскага горада, адбылася прэм'ера сімофніі беларускага кампазітара.

Пачыналася ўсё чатыры гады таму, калі ў Мінску на музычную імпрэзу, прысвечаную творчасці Станіслава Манюшкі, прыязджала з Польшчы ягоная прапраўнучка Катажына Корчак. Пазнаёміўшыся з беларускім кампазітарам Яўгенам Паплаўскім, госця атрымала ў падарунак касету з запісам ягонай музыкі, якую праз нейкі час прапанавала паслухаць Раману Пяруцкаму — вядомаму арганісту, дырэктару Балтыйскай філармоніі ў Гданьску.

**— Калі раптам Раман Пяруцкі звярнуўся да мяне з прапановай напісаць новы твор спецыяльна для польскіх музыкантаў, я проста не паверыў у мажлівасць такога супрацоўніцтва, — расказвае Я. Паплаўскі. — Прапанова падавалася такой няпэўнай, а праца над сур'ёзным сімфанічным творам заняла б у мяне пару гадоў і адцягнула б ад канкрэтных спраў, ад рэалізацыі іншых маіх планаў. Таму я падзякаваў, але пісаць працягваў *тое, што было ўжо задумана.* Потым зноў — тэлефанаванне: маўляў, ці працуеш над замоўленым творам? Пачуўшы адмоўны адказ, Раман Пяруцкі не адступіўся і папрасіў даслаць, калі такі ёсць, гатовы сімфанічны твор, які пакуль нідзе не выконваўся публічна і прэм'еру якога можна было б прысвяціць філармоніі 1000-гадовага Гданьска. Мне было прыемна апынуцца "ў кампаніі" пяці кампазітараў, якія жывуць у розных гарадах Еўропы і якім філармонія замовіла юбілейныя прэм'еры. І я перадаў Пяруцкаму ноты сваёй сімфоніі "Lux aeterna" ("Вечнае святло") для тэнара, хору і аркестра на словы Лявона Эміліта. Дзіўны лёс у гэтай сімфоніі: у свой час яна была адзначана 2-й прэміяй паводле вынікаў нацыянальнага конкурсу, прысвечанага юбілею Скарыны. Тады яе адразу запісалі на радыё. А вось публічнага выканання чамусьці так і не адбылося.**



*Прэм'ера! Кветкі — Яўгену Паплаўскаму.*

Дык мо й не варта шкадаваць, што прэм'ера адбылася толькі праз сем гадоў? Затое якая прэм'ера! У праграмцы адзначалася, што гэта "першае выкананне ў свеце". Сімфонія Я. Паплаўскага гучала ў адным канцэрце з творамі К. Венгжына, К. Шыманоўскага, Ф. Шуберта. Яна (як, дарэчы, і асоба самога аўтара), што называецца, "сабрала прэсу". Рыхтуецца ў Польшчы і выданне партытуры "Lux aeterna", дзе будзе пазначана яе прысвячэнне Гданьскай філармоніі (такія тут "старасвецкія" традыцыі). Плануецца і выкананне ў адным з тамтэйшых касцёлаў.

**— Цяпер усё ўспамінаецца, як сон, — кажа Я. Паплаўскі. — За тыдзень да канцэрта я быў запрошаны ў Гданьск, на поўны пансіён. Уразіла зладжаная і дакладная праца польскіх музыкантаў, вельмі зычлівае іх стаўленне і да мяне, і да маёй партытуры — трэба сказаць, ой якой складанай для выканання, капрызлівай паводле рытмікі. Асабліва прыемна было тое, што беларускі тэкст, які цяжка засвойваўся палякамі, ні ў кога не выклікаў ні пытанняў, ні тым больш нараканняў. Мяне ўспрымалі як *беларускага* кампазітара і твор выконвалі на мове арыгінала. Я ўдзячны музыкантам гданьскага аркестра і яго дырыжору Зыгмунту Рыхерту, кіраўніку аб'яднанага хору Марціну Томчаку, салісту-тэнару Пётру Кусевічу. З прыемнасцю ўспамінаю сустрэчы з колішнімі нашымі *землякамі, якія цікавяцца ўсім, што адбываецца* сёння на Беларусі. Цудоўны ўспамін пакінула і трохгадзінная бяседа ў Беларускім консульстве, куды мяне запрасіў адзін з самых шчырых слухачоў прэм'еры — спадар Анатоль Бутэвіч.**

Самымі добрымі словамі ўспамінае Яўген Паплаўскі "хроснага бацьку" гданьскай прэм'еры пана Пяруцкага, які выказаў сваю шчырую закікаўленасць у тым, каб наладзіць сталую і цесную творчую сувязь з Беларускай дзяржаўнай філармоніяй. А слову гэтага цудоўнага арганізатара і музыканта можна даць веры.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

# Хто палюбіць паспялуху?

## СУБ'ЕКТЫЎНЫЯ НАТАТКІ ПРА АБАРОНУ ДЫПЛОМНЫХ РАБОТ

***У нашага народа (прынамсі, на Віцебшчыне і Гродзеншчыне) быў даволі арыгінальны звычай. Калі ў сям'і падрастала шмат дзяўчат і ніхто не спяшаўся браць іх замуж, бацька садзіў старэйшую на воз і вазіў па вёсцы, заклікаючы ўсіх жадаючых: "Паспялуха! Паспялуха!" Пра гэта я даведалася на абароне дыпломных работ у Беларускім універсітэце культуры. Даведалася ад выпускніцы кафедры народных рамёстваў Вольгі Давідзёнак, якая ў лепшых традыцыях нашай старэйшай саломапляцельшчыцы Веры Гаўрылюк увасобіла гэтую сцэнку ў саломцы (кіраўнік праекта Л. Малахава). І ў мяне міжволі з'явілася жаданне пасадзіць на такі самы воз усіх сённяшніх выпускнікоў творчых ВНУ і разам з іхнімі дыпломнымі праектамі павезці спачатку па нашай краіне, потым па свеце, час ад часу выгукваючы: "Паспялуха! Паспялуха!"***

### САМЫ КУЛЬТУРНЫ УНІВЕРСІТЭТ

Няхай не крыўдуюць на мяне ўсе астатнія, але Беларускаму універсітэту культуры па статусе належыць быць самым культурным. Для мяне асабіста культуру чалавека вызначае не толькі шырыня ягонага досведу ў сусветных літаратуры і мастацтве, але і стаўленне да сваіх нацыянальных гісторыі, традыцый, мовы, урэшце да свайго народа. І Беларускі універсітэт культуры (той парою — Мінскі інстытут культуры) зацікавіў мяне яшчэ тады, калі на першым ці другім курсе журфака мы выпускалі газету, прысвечаную суседняй з нашым факультэтам зусім яшчэ маладой ВНУ. Былі інтэрв'ю, былі сустрэчы і было глыбокае, духоўнае ўзаемаразуменне. Потым ужо падчас працы ў часопісе "Мастацтва" я адкрывала для сябе ўсё новыя і новыя старонкі жыцця будучых кіраўнікоў фальклорных суполак, народных тэатраў і аркестраў, танцавальных ансамбляў... Не раз прыходзіла ў лабараторыю, дзе былі сабраны сапраўдныя пярліны народнай харэаграфіі, бачыла выступленні студэнцкіх калектываў. Пашчасціла мне быць і на гэтак шчыра праведзенай у Беларускім універсітэце культуры прэзентацыі новай кнігі кандыдата мастацтвазнаўства Рыгора Шауры, які сёння ўзначальвае адну за самых маладых кафедраў — кафедру народных рамёстваў. Пра яе выпускнікоў я ўжо не раз пісала, але зараз гаворка не столькі пра іх, колькі пра тое, як у сённяшніх умовах можна і трэба не толькі зберагаць, але і развіваць традыцыі, рамёствы, пра адраджэнне якіх яшчэ з дзесяць гадоў таму мала хто верыў.

І сакрэт поспеху тут, пэўна, у тым, што на кафедры працуюць не проста мастакі, майстры, а асобы, якія маюць імя ў навуцы, мастацтве і якія не здолелі тут, у Беларускім універсітэце культуры, стварыць свае мастацкія школы. Прычым дасканалае валоданне рамяством спалучаецца з высокай жывапіснай, графічнай культурай і, што ці не самае важнае, з глыбокай культуралагічнай падрыхтоўкай.

Яшчэ адна вельмі важная дэталь. За гады вучобы ўсе студэнты авалодваюць асновамі ўсіх рамёстваў, хоць для дыпломнай працы выбіраюць які-небудзь адзін від творчасці. Ёсць пры кафедры і завочнае аддзяленне (за час сесій, паверце на слова, культработнікі з розных куткоў нашай краіны даволі прыстойна засвойваюць і ганчарства, і саломапляценне, і ткацтва). Многія студэнты падчас вучобы вядуць заняткі ў гуртках і студыях, і такім чынам рамяство пераходзіць з рук у рукі.

Керамістаў апякуе наша выдатная мастачка Тамара Васюк (цяпер ёй дапамагае і вядомы майстар Лявон Панамарэнка). Габелен — гэта стыхія мастачкі Ады Салохінай. Што да размалёўкі па дрэве і шкле, выцінанак і, вядома ж, саломкі — тут сваю школу стварае Лідзія Малахава. Засвойваць традыцыі ткацтва дапамагае студэнтам адзін з самых дасведчаных у гэтай галіне майстроў — *Ала Нечыпаловіч. Я назвала не ўсіх, хто* працуе на кафедры. Але менавіта пра лёс дыпломных работ, створаных пад кіраўніцтвам вышэйназваных мастачак, мне хочацца сёння *пагаварыць.*

Летась мяне ўразіла тэматычная і вобразная разнастайнасць керамікі. І, здавалася, будзь на абароне дыпломных работ хоць хто-небудзь з Міністэрства культуры, знайшлі б сваё месца ў экспазіцыі Нацыянальнага музея гісторыі і культуры і пластычная, зіхатлівая калядная кампазіцыя "Новая радасць стала" Н. Маеўскай, і гэтак весела, з пачуццём гумару, і ў той жа час дакладна (паводле паданняў) увасобленыя нячысцікі (Лесавік, Хут, Чорт і г. д.) з кампазіцыі "Спакуса" А. Зяневіч. Дакуль жа нашыя дзеці будуць укладаць натуральныя для свайго ўзросту жахі ў вобразы зусім чужых для нас Чарапашак Нінзя, Рабакопаў і да т. п.?! Але не было на абароне нікога з міністэрства, як і не было нікога з лялечнага тэатра. А між тым Н. Губіна сканструявала з той самай керамікі суперсучасную "Мадэль свету" — гатовы лялечны спектакль.

На шчасце, сёлета, як і летась, многія дыпломныя працы робяцца для інтэр'ераў самога Беларускага універсітэта культуры. Ёсць надзея, што той, хто прыйдзе ў гэтую навучальную ўстанову, убачыць, як жывуць у прасторы габелены "Гарады Беларусі" А. Рунцовай (кожны горад — гэта габеленавы скрутак, які нагадвае вежу з акенцамі), ці акруглы краявід Г. Коршак, выкананае ў традыцыях беларускага кафлярства керамічнае пано "Развітанне" В. Навіцкай, ці размешчаны на лесвічны пралёт грандыёзны саламяны павук Л. Піліпавай (ён дзіўным чынам складаецца з некалькіх архітэктурных помнікаў)...

З разлікам на офіс кіраўніцтва Бярэзінскага запаведніка рабіла свае вытанчаныя, тумановыя паводле каларыту вазы М. Барадзей. У інтэр'ер аднаго з храмаў мусяць упісацца абраз, тканыя падобна да слынных *посцілак-"дымак" ручнік-набожнік і накрыўка* на аналой (дыпломны праект Л. Ляйко)...

Але ж колькі і вытанчаных паводле каларыту, і адкрыта-дэкаратыўных габеленаў прадставілі на абарону выхаванкі той жа А. Салохінай! Тут і тэма святаў, і краявіды,

МУЗЫКА

# Вакацый у "Дударыкаў" не бывае!

**_Сапраўднае свята адбылося ў выдавецтве "Беларуская Энцыклапедыя", калі адзначаўся яе 30-гадовы юбілей. Адкрываў імпрэзу вядомы на Беларусі і за яе межамі ансамбль "Дударыкі". Юныя салісты пад кіраўніцтвам Дзмітрыя Ровенскага выканалі некалькі беларускіх песень, гралі на розных інструментах, танцавалі. Іх музыка і спевы ў многіх гледачоў выклікалі слёзы радасці, замілавання, любові да роднага краю._**

Я сустракалася з гэтым ансамблем у 1995 г., калі ён выступаў у сталічнай школе-інтэрнаце перад нямецкай дэлегацыяй: "Дударыкі" ўразілі мяне сваёй складанай, "сыгранай", прафесійна выканаnай праграмай. Калі я падзялілася ўражаннямі з сваімі супрацоўнікамі, мне сказалі: "А чаму табе не напісаць у газету? Няхай усе ведаюць, як ансамбль арганізаваўся, як працуе, хто ім кіруе..."

Створаны гэты самадзейны фальклорны калектыў у 1970-71 навучальным годзе пры СШ N 111 Заводскага раёна Мінска настаўнікам спеваў Дзмітрыем Ровенскім, у той час студэнтам 1-га курса Мінскага музычнага вучылішча імя М. Глінкі.

Цікава, што дзед Дзмітрыя па маці быў вядомым да вайны ў Капылі барабаншчыкам, ды загінуў у вайну. Бабуля была лепшай у акрузе спявачкай і танцоркай. А вось род бацькі Дзмітрыя паходзіць з Расіі: дзед меў дваранскі тытул, быў аканомам маёнтка, добра граў на скрыпцы, пасля рэвалюцыі 1917 года нават выкладаў ігру на скрыпцы ў школе. А бацькі Дзмітрыя Ровенскага гралі на некалькіх інструментах, пасля работы бацька браў гармонік, маці спявала. А калі-нікалі ўжо і Дзмітрый падбіраў пад ейныя спевы мелодыю на гармоніку, які бацька прывёз з вайны. Нават ёсць фота, дзе Дзмітрый зняты ў 5-гадовым узросце, калі граў на гармоніку падчас вяселля. Фота не проста маленькага хлопчыка, а артыста.

На Капыльшчыне было шмат музыкантаў, з якімі Дзмітрый выступаў у ансамблі, вучыўся ад іх. Пазней ён разам з бацькам некалькі гадоў граў у капыльскім ансамблі дудароў, потым у духавым аркестры пры Доме культуры. З часам бацька заснаваў сямейны ансамбль, які шмат выступаў з канцэртамі па вобласці, удзельнічаў у дзвюх дэкадах самадзейнай мастацкай творчасці ў Мінску (1961, 1963). Дзмітрый скончыў у Капылі студыю ігры па духавых інструментах (1964), музычную школу па класе баяна (1966). Таленавітага хлопчыка заўважылі прафесійныя музыканты і параілі вучыцца далей.

Скончыўшы школу, Дзмітрый паехаў у Мінск і стварыў свой ансамбль дудароў. Распачаў працу з некалькімі навучэнцамі сярэдняй школы N 43, пасля пераходу ў школу N 111 (цяпер гімназія) арганізаваў фальклорны ансамбль "Дударыкі". Было гэта ў 1970 годзе.

Ніводнае нацыянальнае свята на Беларусі з таго часу не абыходзілася без удзелу "Дударыкаў", яны былі ўдзельнікамі, дыпламантамі, лаўрэатамі шматлікіх фестываляў. Прыйшлі ў ансамбль і ягоныя дзеці: Марыя грала на скрыпцы, Васіль на бубне, Віталь на барабане. Вось з іх у 1980 г. стварыў Дзмітрый яшчэ і свой сямейны ансамбль.

Выступалі эстрадным складам і фальклорным: Марыя — скрыпка, Васіль — кларнет, баян, гармонік, Віталь — труба, дудка, баян, гітара, жонка — ударныя, шумавыя інструменты. У 1985 г. сямейны ансамбль стаў дыпламантам Усесаюзнага фестывалю народнай творчасці, "Дударыкі" — лаўрэатам гэтага фестывалю.

Канцэрты ладзіліся ў вёсках, на заводах, у бальніцах. У 1989 г. ансамбль даў шэсць канцэртаў у Брагінскім раёне. У той жа год пачаліся гастролі за мяжу (Германію, Фінляндыю, Польшчу, Італію). Выступленні праходзілі ў сталіцах краін, жыхары якіх знаёміліся праз беларускія народныя песні, танцы, музыку з невядомай для многіх краінай — Беларуссю.

У 1992 г. "Дударыкі" прывезлі на Радзіму з далёкай Фінляндыі мноства розных медыкаментаў — для нашых дзіцячых бальніц, а таксама гуманітарную дапамогу для выхаванцаў школы-інтэрната, для пажылых людзей. Наогул, юныя артысты даюць шмат дабрачынных канцэртаў. За 26 гадоў свайго існавання ансамбль меў больш за 900 выступленняў, з іх больш як 150 — за мяжой. І толькі ў 1996 г. перадалі больш за 5 мільёнаў беларускіх рублёў на будаўніцтва так званай "чарнобыльскай" царквы ў Мінску, у 1997 г. — 5 млн. рублёў асацыяцыі "Шчыт Чарнобыля" на адкрыццё мемарыяльнай дошкі загінуўшаму лётчыку Вададазаву. Можа быць доўгім пералік спраў, якімі дзеці дапамагаюць як могуць свайму народу.

Але звернемся да творчасці. Сямейны ансамбль стаў у 1994 г. лаўрэатам першага Рэспубліканскага фестывалю сямейных ансамбляў. Сям'я Ровенскіх была прызнана сям'ёй года, узнагароджана дыпломам ААН. Дзеці падраслі ўжо, атрымалі музычную адукацыю.

Кожны раз "Дударыкі" здзіўляюць новым. Цяпер тут 40 удзельнікаў — ад 7 да 17 гадоў. У рэпертуары больш за чатыры дзесяткі твораў. Зладжана гучаць дудкі, скрыпкі, гармонікі, цудоўна спяваюць і танцуюць дзяўчаткі ды хлопчыкі. Нездарма нададзена ансамблю "Дударыкі" званне "ўзорны".

За апошнія гады ён стаў лаўрэатам такіх прэстыжных конкурсаў і фестываляў, як "Спадчына", "Іграй, гармонік", "Усе мы родам з дзяцінства" ды інш. Самабытнасці ансамбля спрыяе тое, што кіраўнік Дзмітрый Дзмітрыевіч Ровенскі на працягу ўсёй сваёй працы з ансамблем у асноўным сам апрацоўвае беларускія народныя песні, полькі, найгрышы ("Залаты вальс", "Юбілейныя "Дударыкі", "Маці" ды інш.). Дарэчы, плануе выдаць зборнік сваіх песень. Гарачы прыхільнік беларускага фальклору і яго збіральнік, таленавіты музыкант, добры кіраўнік, ён яшчэ і ўмелы майстар: сам робіць многія музычныя інструменты — дудкі, жалейкі, барабаны, бубны, усе шумавыя прылады. (За гэта мае пасведчанне майстра народных інструментаў.) А бывае, што... залівістую птушачку — помесь канарэйкі з шчаглом — бярэ з сабой на канцэрт. Ставіць клетку на сцэну, і птушка сваім шчабятаннем надае незвычайны каларыт музыцы.

Вакацый у калектыву не бывае. Вось рыхтуецца да ад'езду на юбілей "Эльба—97" у г. Таргаў (Германія), дзе будзе сустрэча ўсіх краін-удзельніц II сусветнай вайны. Тым часам зноў сталі лаўрэатамі Мінскага фестывалю народнай творчасці "Сузор'е" і заваявалі Гран-пры...

**Галіна ФАТЫХАВА**

---

і нават "Ламенарый". Здавалася, будзь у кожнага з нас па катэджы, купілі б адразу... Але... Але не было на абароне тых, хто будуе катэджы. І не было тых, хто кіруе сёння нашай культурай. І таму ніхто не прапануе дзе-небудзь у Нясвіжы знайсці месца для аб'ёмна-прасторавай керамічнай кампазіцыі "Гукі мінуўшчыны" (Нясвіж)" Н. Гаўрычавай, што так высакародна глядзелася на фоне ёю самою ж вытканага ручніка. А вельмі арыгінальна распрацаваныя вобразы-сімвалы розных гістарычных помнікаў гэтага старажытнага горада (помнік-курган-звон) маглі б стаць не толькі аздобаю музейнай экспазіцыі, але і выдатнымі сувенірамі.

Не заўважыць ніхто з вытворчасці арыгінальна, паводле давыд-гарадоцкіх "цікетак" распісаны набор для кухні Г. Вітаковай, і ніхто не прапануе выдаць каляндар з выцінанкамі "Кола жыцця" Л. Чарвонцавай ці аздобіць хай сабе і нейкі офіс вельмі сучаснымі роспісамі па шкле "Млыны" В. Навіцкай, ажурнаю саламянаю шырмаю і свяцільнікам Л. і М. Старадубцавых... Зрэшты, і для "Паспялухі", з якой мы пачалі гаворку, таксама не знайшлося яшчэ дастойнага месца. А між тым, на нашых вачах беларуская саломка (у праектах выпускнікоў) абжывае інтэр'ер. Тое, пра што гадоў дзесяць назад марыла ўнучка нашай слыннай саломапляцельшчыцы Веры Гаўрылюк Тамара Паўлоўская (Тамара цяпер жыве ў Францыі).

Вы можаце сказаць, што сёння і мастакам-прафесіяналам не хапае заказаў, хто ж можа сабе дазволіць купляць студэнцкія работы? Але звярну ўвагу тых, хто сёння кіруе нашай культурай, на тое, што ў жыццё ўваходзіць новая генерацыя творцаў. Яны мелі шчаслівую магчымасць выхоўвацца на нашых традыцыях, мелі падчас вучобы пад рукою кнігі, альбомы, даведнікі, музейныя калекцыі, якія толькі-толькі ўваходзяць у кантэкст нашай культуры. І ў той жа час гэта прадстаўнікі аднаго з першых пакаленняў, якія гадаваліся ў рэчышчы сусветнай культуры, выдатна арыентуюцца і ў накірунках сучаснага мастацтва.

## ЦІ ДАЛЁКА НАМ ДА ЕЎРОПЫ?

Улічваючы, з якім імпэтам купляюць за мяжою творы нашых лепшых, у тым ліку і маладых мастакоў, Еўропа далёка да нас. Вось ужо другі год з прыемнасцю сустракаю на абароне дыпломных работ выпускнікоў кафедры мастацкіх тканін і мадэлявання адзення Беларускай акадэміі мастацтваў жонку дыпламата адной з высокаразвітых еўрапейскіх краін у Беларусі. Сёлета яна прызналася, што тут, на абароне дыпломных, яна не толькі выглядае новыя мадэлі, але і слухае, засвойвае беларускую мову, і яшчэ маладзее душою, бо, як яна лічыць, менавіта ў маладых творцаў ёсць самы высокі патэнцыял духоўнасці.

Я ж з радасцю ўсвядоміла, што калі ў Беларускім універсітэце культуры рыхтуюць высокаадукаваных, творчых дзеячаў культуры, то тут, у Беларускай акадэміі мастацтваў, — філосафаў. Асабліва гэта адчувальна, калі параўнаць творы выпускнікоў кафедры народных рамёстваў БУКа і кафедры мастацкіх тканін і мадэлявання адзення БАМ. У акадэміі на вышэйзгаданай кафедры таксама існуюць дзве вельмі выразна выяўленыя школы — школа габелена Валянціны Бартлавай, якая, дарэчы, загадвае кафедрай, і школай касцюма Юрыя Піскуна.

Тыя, хто абраў тэмаю дыпломнай работы габелены, працавалі пад кіраўніцтвам Валянціны Бартлавай.

У цёмна-сініх пералівах адвечнай касмічнай прасторы ледзь згадваеш абрысы міфічнага быка, які выносіць да нас то падобнае на кола сонца, то імглістую калыску месяца... Вікторыя Адамовіч (габелены "Нябесны вандровец") стварала сваю вобразную канцэпцыю светабудовы на аснове прыгожага, сусветна вядомага міфа. А вось серыю габеленаў "Адвечнае" (па матывах гравюр Ф. Скарыны) наўрад ці маглі зрабіць дзе-небудзь, апроч Беларусі. Аліна Сямёнава, пераасэнсоўваючы ўлюбёныя Скарынавы сімвалы, дынамічна развівае іх. З сонца пачынаецца "Ранак", "Дзень" асвятляе сілуэт літары Аз, месяц спявае, люляе "Ноч". Традыцыйныя для гравюр колеры — чорны і белы, ды яшчэ чырвоны, мяккая жаўтлявасць (як на старых старонках), пераведзеныя з паперы ў іншы матэрыял, нечакана набываюць глыбіню і асаблівую энергетычную насычанасць. Сілуэты вобразаў-знакаў, як і сілуэты дрэў, пачынаюць гучаць узвышана, сугадна. Мне так хацелася б бачыць гэты габелен у інтэр'еры калі не кабінета аднаго з нашых вядомых даследчыкаў творчасці Ф. Скарыны, то хаця б у бібліятэцы, архіве. Няўжо, адрываючы вочы ад кніг, мы не можам убачыць твор, які не толькі дасць адпачынак вачам, але і падштурхне да філасофскага роздуму?

Па-свойму ўвасобіла законы светабудовы ў серыі з шасці батыкаў Алена Нікіна (кіраўнік — Ю. Піскун). Яна назвала сваю працу "Настальгія па страчаным раі" і скарыстала ў якасці адзінай вобразнай асновы арнаментальную спіраль (ці зрэз дрэва?)

Ад першаснай гармоніі праз дысгарманічную перанасычанасць дэталямі (тэхнікай ды вынаходніцтвамі) і зноў да ўжо цывілізаванай, культурнай гармоніі — такімі бачацца выпускніцы шэсць дзён тварэння. Яе творчы почырк нечым нагадвае пошукі вядомага аўстрыйскага мастака пачатку стагоддзя Густава Клімта, дарэчы, вельмі папулярнага ў Беларускай акадэміі мастацтваў. І хто ведае, можа, мастакі вастрэй за нас адчуваюць сугучча пачатку і канца стагоддзя...

Дух мадэрна ўбачыўся мне не толькі ў чыста знешняй вобразнай будове твораў, але і ў цікавасці да сінкрэтычнага даследавання колераў і рытмаў. Алена Обадава сваю выкананую ў тэхніцы габелена кампазіцыю "Сонечны птах" (кіраўнік В. Бартлава) прадстаўляла не толькі словамі, але і танцам. Яна запрасіла музычную суполку і вельмі неардынарную танцорку. І гукі барабана, прыгожы, з водгуллем нечага першароднага і адначасова строга выверанага, танец агучылі арнамент на габелене. Рытм рухаў, рытм музыкі, рытм колераў і ліній адзіны ў сваёй прыродзе, і мы мусім успрымаць і разумець іх...

Як мусім успрымаць і разумець свой фальклор. Алена Гатоўчыц зрабіла пад кіраўніцтвам Юрыя Піскуна калекцыю касцюмаў для ансамбля "Купалінка". І гэта рэдкі (пасля касцюмаў для "Харошак" Ю. Піскуна ці не адзіны) узор высокай моды для калектыву, які спявае стылізаваны аўтэнтычны фальклор. Касцюмы выкананы на аснове Слуцкага строя, а дакладней святочнага адзення гараджан, і таму ўспрымаюцца вельмі высакародна і ўзнёсла. Да таго ж, яны лёгка трансфармуюцца, кожны глядзіцца непаўторна, а ўсе разам яны складаюць цікавы паўнагучны ансамбль. Нарэшце, гаспасы атрымаюць сваю падтрымку ў колеры і каларыце!..

Спеласць асобы, як і культуры ў цэлым, вызначаецца здольнасцю да самааналізу. Прафесійна аналізаваць мастацтва могуць толькі мастацтвазнаўцы. І ў Беларускай акадэміі мастацтваў сёлета было вялікае свята. Кафедра гісторыі і тэорыі мастацтва, якой кіруе наш выдатны даследчык, прафесар Міхась Раманюк, падрыхтавала першы выпуск мастацтвазнаўцаў, якія скончылі аддзяленне мастацтвазнаўства не завочна, а вочна.

Мне даводзілася працаваць з імі, і я з радасцю ўбачыла, што яны не толькі маюць добрую філасофскую, культуралагічную падрыхтоўку, але валодаюць і словам. Цяпер застаецца чакаць іх новых артыкулаў, кніг, альбомаў, і, хто ведае, мо і новай "Гісторыі мастацтва". Але мне хацелася б звярнуць увагу ўсяго на некалькі акалічнасцяў. Па-першае, сярод сёлетніх выпускнікоў-мастацтвазнаўцаў ёсць дзяўчына з Беласточчыны Івона Марціновіч. Разам са сваімі землякамі — выпускнікамі іншых мастацкіх аддзяленняў — яна зможа прафесійна дапамагчы ў стварэнні музея ў Гайнаўцы, у якім сабраны ўзоры беларускай культуры з Беласточчыны.

Што ж датычыць самааналізу, то вось толькі цяпер нарэшце ў дыпломнай працы Сяргея Пешына было прааналізаванае значэнне для нашай культуры выпускнікоў кафедры, мадэлявання адзення і мастацкага ткацтва, — якая працавала ў 1960—70-ыя гады і была зноў адноўлена толькі ў 1990-ыя (пра сёлетніх яе выпускнікоў мы гаварылі вышэй).

Мяне ж асабліва парадавала, што выдатныя дыпломныя працы напісалі не толькі выпускнікі, многія з якіх з дзяцінства жылі ў атмасферы навукі і творчасці, але і дзяўчаты з правінцыі. Дастаткова назваць дзвюх з іх, якія пісалі свае работы пад кіраўніцтвам М. Раманюка.

Таццяна Мартыненка, аналізуючы народныя строі Цэнтральнай Беларусі, паказала сябе як арыгінальны даследчык-сістэматызатар. Але калі ў яе пераважае эмпірычны матэрыял, то Ірына Каранеўская ў сваёй рабоце выказвае цікавыя гіпотэзы і нават робіць адкрыцці (даследуючы слуцкія паясы, яна напісала некалькі артыкулаў, у якіх удакладняюцца даўно, здавалася б, агульнапрынятыя факты).

І робіцца непамысна, што мы дасюль не маглі сабе дазволіць рыхтаваць мастацтвазнаўцаў вочна. І прыемна, што ў нашую культуру прыходзіць новая генерацыя даследчыкаў, што мы ад збору эмпірычнага матэрыялу ўрэшце пяройдзем да сістэматызацыі і асэнсавання як прафесійнай, так і народнай творчасці...

Адзінае, што мяне сёння хвалюе, дык гэта тое, каб не толькі творы, але і самі творцы і навукоўцы заўважылі тых, хто можа і павінен даць ім сёння працу.

Бо і ўся наша культура можа ў рэшце рэшт ператварыцца ў тую самую "паспялуху", якую возяць-возяць па сяле, і ніхто ніяк не рашыцца ўзяць яе замуж.

**Галіна БАГДАНАВА**

МЕРКАВАННЕ

# Пагроза чарговага спектакля

## З НАГОДЫ ЯШЧЭ АДНОЙ ШКОЛЬНАЙ РЭФОРМЫ

З ГОРЫЧЧУ і душэўным болем успамінаюцца ранейшыя рэформы агульнаадукацыйнай школы, якія хітра абяцалі "светлую будучыню" і якія аказаліся неймаверна цяжкім грузам на спакутаваных плячах няшчасных настаўнікаў, школьнікаў, бацькоў вучняў. І вось — зноў. Уражанне такое, што дзяржаўная эліта толькі тым і займаецца, што прыдумвае эксперыменты, тыпу пасыпання солі на душэўныя раны паддоследных людзей. Па сутнасці, ці не ўсе паслярэвалюцыйныя (1917 г.) рэформы, на жаль, былі не надта ўдумныя і асэнсаваныя — на гэта не хапала ні розуму, ні цярпення, ні здольнасцей. Усё круцілася ў нейкай віхуры сумятні, паспешлівасці, шараханняў з адной крайнасці ў другую. А віхуры, як вядома, акрамя разбурэнняў, нічога не прыносяць.

Што прынясуць цяперашнія "праекты" і "пражэкты" паляпшэння справы "сеяць добрае, мудрае, вечнае"? Ці будуць прыдуманы нейкія новыя працэдуры для чарговага галаўнога болю і ліхаманкавых конвульсій? Тым больш, што працэс "заявак" на "неабходнасць" увядзення ў школе ажно 12-гадовага навучання ўжо пайшоў. Толькі вось — дзеля чаго? Мо ўрэшце настаў час спусціцца з нябёсаў на грэшную зямлю, паглядзець расплюшчанымі вачамі на рэальнае жыццё і адмовіцца ад утопіі аб "абавязковай сярэдняй", узяць за аснову "агульную васьмігадовую" адукацыю, "рэаніміраваць" спакутаваную сістэму, падлячыць гангрэнныя раны, — магчыма, яна і акрыяе, узновіць добрае зерне замест пустазелля? Відавочна ж, што без добра прадуманых і надзейна выпрабаваных сусветнай цывілізаванай практыкай прыёмаў і метадаў "выздараўлення" ад страты Веры і Ісціны не абысціся! Сілавыя прыёмы навучання нічога добрага не даюць. А "шпаргалкі", калі каму і памагаюць, то толькі на выпускных экзаменах. Жыццё ж ставіць перад людзьмі зусім іншыя, канкрэтныя ўмовы на прыдатнасць. Таму васьмігодка , пры адлаведных умовах падрыхтоўкі, паможа падлетку вызначыцца, працягваць вучобу, калі ёсць для гэтага пэўныя дадзеныя і ўмовы, ці — ісці працаваць. Іншага — не дадзена! Трэба толькі "высеяць" з існуючых вучэбных праграм усё лішняе, пазбавіць школьнікаў фізічных і псіхічных перагрузак, знясілення нервовай сістэмы. Прадумаць варыянты комплекснага аб'яднання асноўных элементаў вучэбных дысцыплін у такія, напрыклад, блокі: матэматыка-фізіка-філалогія, хімія-біялогія-псіхалогія-менеджэрная справа... і г.д., і да т.п. Гэта дасць магчымасць знізіць дзённую нагрузку школьніка да 4—6 гадзін пры 5-дзённым рабочым тыдні. Навучанне ж варта пачынаць з 7—8-гадовага ўзросту, пры гэтым беручы пад увагу асаблівасці дзіцячай фізіялогіі і патомнай спадчыннасці, прыродныя, сацыяльна-бытавыя і экалагічныя ўздзеянні, асабліва такіх катаклізмаў, як чарнобыльская катастрофа.

Мае патрэбу ў рэфармаванні і вывучэнне замежных моў. Яны доўгі час вывучаюцца, на іх аддаецца шмат сіл і сродкаў, а ў выніку, з-за незапатрабаванасці жыццём яны паступова забываюцца і... паміраюць хуткай смерцю. Магчыма, увогуле варта перайсці толькі на латынь? А ўсё астатняе, як кажуць, справа тэхнікі, жаданняў і абставін?

**Самым жа сур'ёзным чынам трэба заняцца абаронай ад ганьбы (!) сваёй роднай беларускай мовы, якая па дзікунскай іроніі лёсу апынулася ў графе замежных!**

Прыгадаем сёе-тое з гісторыі школьных рэформ. Дзеля чаго, скажам, пераводзілі школу ў 1949 на чыста "мужчынскі" і "жаночы" профілі? Каму патрэбны былі спектаклі з "адкрытымі" ўрокамі, якія загадзя рэпеціраваліся ва ўрон іншым тэмам і на шкоду педагагічнай этыцы і чалавечай маралі, калі калегі крывадушнічалі адзін перад другім, разумеючы сваю непазбежную ролю ў гэтым камедыйным жанры чарговасці і паказухі? Або: школы душацца ў цеснаце і нязручнасцях, а ў гэты час ручаямі цякуць дырэктывы аб адкрыцці музея, кабінета прафарыентацыі, груп падоўжанага дня; аб пераводзе школы на кабінетную сістэму навучання; аб стварэнні ўчасткаў грамадска карыснай, прадукцыйнай працы... і г.д. У выніку на ўваходных дзвярах вучэбных памяшканняў з'яўляліся шыльды, напрыклад, замест "10-А" — "Кабінет гісторыі... геаграфіі... мовы..." І ўсё. Розніца толькі ў тым, што ўжо не настаўнік дабіраўся да патрэбнага вучэбнага памяшкання на ўрок з атрыбутамі пад пахай, а шматлікія групы школьнікаў снавалі па калідорах ад кабінета да кабінета .

Альбо — іншае. Некаму ўздумалася сабраць усіх шасцігодак у школе, і гэтае свавольства пайшло гуляць па гарадах і весях. Ніхто не падумаў, што нават агульныя, даруйце, прыбіральні не прыгодныя для такіх маленькіх дзяцей. І ні некаму з выдумшчыкаў гэтай злашчаснай задумы, а адміністрацыі, настаўнікам, выхавальнікам і бацькам "шасцігодак" балелі галовы, дзе адшукаць, як прыстасаваць нязручныя памяшканні для вучобы, сну, актыўнага адпачынку. Як сканструяваць, расставіць двух'ярусныя ложкі-раскладанкі, сталы, крэслы, прыстасаваць вентыляцыю і асвятленне... Дзеці ж пакутавалі ад нязручнасцей, цеснаты, адсутнасці ўтульнасці і цікавасці да школьнага жыцця. І самае горкае ў тым, што ў існуючых умовах сістэма ніколі і ні за што не адказвала. Нават за скалечаныя лёсы дзяцей.

Нельга было зразумець сутнасці ўводзімых у школу "фізпаўз" пад назваю "аздараўленчых мерапрыемстваў," калі раніцай школьнікаў збіралі на дваровых пляцоўках і ўсіх без выключэння прымушалі маршыраваць, апранутых у форменнае школьнае, нават цёплае адзенне і абутак. І нікога з выканаўцаў гэтага мерапрыемства не трывожылі думкі: а ці ёсць у шокле ўмовы для прыняцця воднай гігіенічнай працэдуры пасля такой вось прапаркі? Не да роздумаў, калі зверху загадана: "Выконваць!"

Не думалі пра дзяцей і тады, калі прымушалі іх насіць пастаянна ў школе "зменны" абутак — гумавыя кеды. Як не думалі пра іх, і калі аб'яўлялі аўралы па зборы металалому, макулатуры, ануч, калі школьнікаў выкарыстоўвалі для ўборкі вуліц ад бруду і смецця, падвяргаючы здароўе і жыццё дзяцей небяспецы. І ўсё гэта лічылася чамусьці ў сістэме адукацыі мерапрыемствамі "выхаваўчага" характару.

У дзіўнай сітуацыі апынулася і "працоўнае навучанне" школьнікаў. На словах як быццам і надавалі нейкае значэнне гэтай важнай справе, а на практыцы ўсё зводзілася да чыста фармальных, дэмагагічных прыёмаў і метадаў. Напрыклад, вучэбныя праграмы часта змяняюцца, дапаўняюцца, ускладняюцца, а вучэбна-метадычная і матэрыяльна-тэхнічная база застаецца на смехатворным узроўні. У той жа час патрабаванні да якасці заняткаў узняліся ці не да акадэмічнага характару. Але ж настаўнікамі працы доўгі і доўгі час з'яўляліся самыя звычайныя рабочыя па прафесіі сталяр, слесар, машыніст, а то і проста школьны заўхоз. Сям-там сустракаліся гісторыкі, фізікі, біёлагі. Таму людзі працуюць, зыходзячы з мясцовых умоў, асабістай арыентацыі і ўмення. Настаўнік і вучні апынуліся ў палоне фармалізму, вострых праблем і пакут.

Завяршальным этапам гэтых гульняў з'явілася ўвядзенне ў школу грамадска карыснай, вытворчай працы, калі ўчасткі для гэтага ствараліся не дзе-небудзь у цэхах прадпрыемстваў, а ў непрыдатных памяшканнях школы, у адрыве ад працоўных калектываў і вытворчых працэсаў, пры немагчымасці прымянення школьнікамі атрыманых ведаў і ўмення на канкрэтнай практычнай справе. Разлічваць на нейкія фактары выхавання элементам культуры працы, бяспечным умовам працы, санітарна-гігіенічным нормам паводзін было немагчыма.

Можа, камусьці невядома, хто кіруе ўсім гэтым? Паспрабуем растлумачыць. У сістэме адукацыі існуюць дзве асноўныя структуры: вышэйшая, у асобе міністэрства, і ніжэйшая — школы і дзіцячыя дашкольныя і пазашкольныя ўстановы, інтарэсы якіх маглі б будавацца на пажаданым узроўні ўзаемаразумення і ўзаемадзеянняў, зыходзячы з маральных і прафесійных прынцыпаў і норм паводзін. Але бяда ў тым, што паміж гэтымі асноўнымі структурамі апынулася яшчэ адна, так званая прамежкавая , тыпу аддзелаў і ўпраўленняў адукацыі, якая невядома чым займаецца, кім і для чаго створаная. У кожнай школе (і іншых установах) ёсць свае даволі салідныя штаты адміністратыўных работнікаў (у школе, напрыклад, дырэктар і ці не паўтузіна намеснікаў). Навошта ж тады патрэбны ўсе гэтыя **"оно"** і **"уно"**? Тым больш — запоўненыя кадрамі, якія самі працаваць у школе баяцца, а вось кіраваць па сістэме "удава" і "труса" — умеюць. Могуць, пры жаданні і мэце, у кожным выпадку адшукаць загану, скажам, "настаўнік... рабіў запісы на класнай дошцы, стоячы спіной (ці бокам) да вучняў". А вось пра выпадкі, калі б хтосьці з інспектараў ці метадыстаў узяў ды правёў паказальны ўрок, гісторыя не ведае.

Часта шмат слоў гаворыцца пра неабходнасць скарачэння празмерна раздзьмутых каманднa-адміністратыўных штатаў, але на справе адбываецца зусім іншае. Так і ў перыяд апошняй "шуміхі" чыноўнікі спрытна схітравалі: замяніўшы на канторскай шыльдзе ўсяго толькі адно слова "аддзел" на "ўпраўленне", яны атрымалі спрыяльныя ўмовы манеўраваць карэкціроўкай штатаў на карысць сваіх амбіцый, выгод і зручнасцей, ні за што не адказваючы, жыць спакойна, бесклапотна і безадказна.

А ёсць жа рэзон пачаць рэфармаванне адміністратыўна-упраўленчага апарату, пачынаючы з аб'яднання, напрыклад, 4—6 школ (дзіцячых садкоў) пад адзін адміністратыўны цэнтр, пакінуўшы ў школе асноўнага завуча (у садку — метадыста), і ўсё. Аддзелы і ўпраўленні — ліквідаваць. Такім чынам, па-першае, адпадзе неабходнасць у захаванні бюракратычнай субардынацыі, і людзі змогуць свабодна звяртацца адзін да аднаго напрамую, вучыцца правільнаму стылю работы, раіцца, памагаць, разумна карыстацца навуковым і творчым патэнцыялам, удасканальваць і развіваць педагагічнае майстэрства, працаваць узважана, разумна, эфектыўна. Па-другое, вызваляцца ладныя бюджэтныя сродкі, і не трэба будзе вяртацца, як гэта ўжо робіцца, да бяздумных метадаў узбуйнення класаў і груп. І, па-трэцяе не **оно**, а адміністрацыя школы будзе падбіраць людзей і працаваць з імі. Адпадзе патрэба і ў інспектаванні педагагічнай работы. А то справа дайшла да таго, што ўжо нават бухгалтэрыя "рэвізуе" рэжым працы настаўнікаў, вывуджваючы, напрыклад, дадзеныя пра іх удзел у экскурсіях, і залічваючы такія дні прагуламі (!). Ды што — гэта! Настаўнікаў прымушаюць рабіць рамонт вучэбных памяшканняў, займацца перапісам дзяцей школьнага і дашкольнага ўзросту, наведваць "няўдалыя" сем'і, нарываючыся там на непрыемнасці, ажыццяўляць збор звестак пра тых ці іншых бацькоў і г.д. і да т.п. Прымушаюць педагогаў працаваць нават у час асенне-зімова-вясенніх канікулаў, заплюшчваючы вочы на тое, што гэтыя людзі і без таго займаюцца ў школе рознымі справамі ў свой вольны ад урокаў час...

Вось і выходзіць, што цяжарнасць сістэмы фарысейскімі рэформамі, тым больш ва ўмовах бутафорскай імправізацыі, пагражае непазбежнымі выкідышамі, неданошанымі родамі, з'яўленнем на свет непаўнацэннага стварэння.

Фота Анатоля Клешчука.

**Павел БУЗАЎ,**
**выдатнік асветы РБ,**
**ветэран педагагічнай працы**
*г. Маладзечна*

## Вяртанне самотных думак...

У мінулую пятніцу, напярэдадні свята Пятра і Паўла, у вёсцы Мурагі Расонскага раёна адкрыты помнік паэту, празаіку, фалькларысту, выдаўцу Яну Баршчэўскаму. Тут ён нарадзіўся ў 1794 годзе, пахаваны на Валыні ў 1851-м. Пісаў на беларускай і польскай мовах. Нядаўна ў выдавецтве "Юнацтва" ў перакладзе М. Хаўстовіча выйшаў галоўны твор пісьменніка-рамантыка — "Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях".

Летась у вёсцы Гарбачэва, побач Мурагоў, прайшлі літаратурна-краязнаўчыя чытанні, прысвечаныя славутаму земляку. Тады першы прарэктар Віцебскага дзяржаўнага універсітэта Анатоль Дарафееў і абнародаваў сваю запаветную задуму — мемарыялізаваць родныя мясціны Яна Баршчэўскага. Аднавіць двор шляхціца Завальні над Нешчардай пакуль што цяжкавата. Затое стараннямі Анатоля Максімавіча паўстаў на ўзгорку ля ўезду ў Мурагі помнік. На адшліфаваным зрэзе вялізнага чорнага валуна — выява Яна Баршчэўскага, ніжэй высечаны ў камені яго словы са "Шляхціца Завальні", адшуканыя Вольгай Русілкай: "Самотныя думкі мае вяртаюцца ў гэты край" з аўтографам пісьменніка. Усё гэта дасканала выштукаваў скульптар Іван Галецкі.

Далёкіх і блізкіх гасцей прывітаў песняй народны вакальна-харэаграфічны ансамбль "Сваціца". Пасля ўступнага слова старшыні райвыканкама Пятра Пяткевіча прамаўлялі фундатар помніка Мечыслаў Яцкевіч з Ольштына, Алесь Барскі (Баршчэўскі) з Варшавы, Уладзімір Мархель з Мінска, Анатоль Дарафееў, Анатоль Канапелька, Ніна Сулецкая, Аліцыя Галустава, Святлана Казлова, Вольга Каноплiч, Валянціна Сівіцкая, Уладзімір Папковіч з Віцебска, Навум Гальпяровіч, Мікола Ільніцкі з Полацка, Галіна Быхавец з Гарбачэва і іншыя.

По дарозе ў фантастычную Беларусь Яна Баршчэўскага і склаўся гэты вершы пра Янавага каня...

### Янаў конь

Перад Пятром, пятым днём,
разгуляўся Янаў конь...

**З купальскай песні**

*Памяць Нешчарды не стыне,*
*абагрэтае Купаллем.*
*Скача Янаў конь з Валыні, —*
*ў Мурагах і затрымаем.*
*Конь да шляхціца Завальні*
*мокрай грывай дакранецца...*
*Пан Баршчэўскі, госць наш дальні,*
*узгарацца нашы сэрцы*
*ад запозненай пяшчоты,*
*вінаватасці пякучай.*
*[illegible] любоў патрэбны годы,*
*а для чыну — міг сугучча,*
*зрух душы, усплёск надзеі...*
*Да ўрачыстае падзеі*
*цокаў дождж зухавата.*
*Успагодзілася свята!*
*Дзе Баршчэўскага паляна, —*
*рэха не засне ніколі.*
*Хай гуляе конік Яна*
*на мурожыстым прыволлі!*

**Сяргей ПАНІЗНІК**

ЯК ПРА НАС

***У Расійскай Нацыянальнай бібліятэцы Пецярбурга прайшла навукова-практычная канферэнцыя "Сучасная літаратура: крытэрый вартасці", якая сабрала пісьменнікаў і бібліятэкараў Расіі. Вынікі не надта ўдалай дыскусіі падвёў Віктар Астаф'еў, чыё выступленне надрукавала "Литературная газета". Прапануем яго і ўвазе чытачоў "ЛіМа".***

## Віктар АСТАФ'ЕЎ:

# "Чалавек пад канец веку стаў яшчэ больш адзінокім"

Усё, што цяпер адбываецца ў літаратуры, адбываецца заканамерна, таму што не можа яна існаваць у адрыве ад жыцця. Тое, што вычвараюць маладыя хлопцы, — гэта трэба перахварэць. Сучасная літаратура, заснаваная на традыцыях вялікай рускай літаратуры, пачынаецца нанава. Ёй, як і народу, дадзена свабода, якой народ не зразумеў, не можа, не здольны пакарыстацца... Яму патрэбна старое: каб быў канваір, каб увялі свабоду спецыяльным указам. Літаратары пакутліва шукаюць гэты шлях. Яны робяць процьму глупстваў, процьму нейкіх непатрэбных рэчаў — а што вы хочаце ад дзяцей?! Мы зноў здзяцініліся, нас пакінулі на паўдарозе, сказаўшы: "Дзейнічайце самастойна! Вы змагаліся за свабоду? Думайце, пішыце самастойна, шукайце новыя формы". Мы нават не кажам цяпер, што за апошнія пяцьдзесят гадоў вёска перамясцілася ў горад,і тое, што называлася некалі "вясковай прозай", феноменам сапраўды нябачаным і нечуваным, — гэта быў апошні плач людзей, народжаных нашай рускай вёскай, пра светлае, як аказалася, наша дзяцінства, наша жыццё — пра вёску нашу. Мы адплакалі па ёй, адплакалі годна, высока. Дастаткова прыгадаць Абрамава, "Прывычную справу" Бялова і Касьяна Студнага, амаль непрачытанага пісьменніка, цудоўны раман Іяанна Акулава і мноства іншых. Паўтараю, мы адплакалі, мы наша адспявалі. Пачынаецца новае жыццё — на асфальце. Хто толькі не праклінаў рускую вёску, не любіў, не залюбліваў да смерці?! Вось, маўляў, калі пакінуць гэтую праклятую вёску, перасялацца ў горад, будуць братамі, стануць жыць у адным доме. Будуць пяцімільённыя гарады, гарадская камуна, у якой запануюць адзінства і паразуменне. Нічога гэтага не адбылося... Чалавек пад канец веку стаў яшчэ больш адзінокім, чым у вёсцы. Калі там у адным канцы чыхалі, дык на другім казалі "будзь здароў", а калі рукавіцы ўкралі, тут жа азіраліся: "ці не я ўкраў?" На нас, на чалавецтва, насунулася аграмадная трагедыя. Мы, што перасяліліся ў горад, не набылі гарадской маралі, але страцілі ў дарозе вясковую. Нейкую частку зла, здольнасці да сварлівасці, да чараўніцтва, да містыкі ад вёскі мы і зберагі. Але лепшае, што было ў вёсцы: веру ў Бога, пашану да бацькоў, да нябожчыкаў-продкаў — мы страцілі. І яшчэ страцілі здольнасць да працоўнага выхавання дзяцей. У нас растуць дзеці-панічы. І іншымі яны быць не могуць, бо па адным дзіцяці ў сям'і: ён і ўнук, ён і кот і сабачанё, з ім можна забаўляцца, і бабуля яго да васьмі гадоў на санчках возіць...

Трэба асэнсаваць увесь гэты працэс, прадбачыць ці прадказаць, як гэтая маладая літаратура будзе прабівацца праз асфальт, як прабіваюцца праз яго трава ці грыб. Як жа яна ад цэнзурных бар'ераў, ад літаратуры сацрэалізму будзе прабівацца? Цяжка ёй праз асфальт жа? Іншая рэч на вясковым лужку, на вясковым гародзе, на Урале на скалістым! На літаратурных дваранах выраслі Тургеневы нашы, у тым ліку і ўпомненыя мною аўтары. А як тут будзе, як у пад'ездзе, дзе людзі жывуць па пятнаццаць-дваццаць гадоў, не ведаючы адно аднаго? Вось старая прыйшла дадому і памерла ў гэтым пад'ездзе, а людзі ідуць на працу, пераступаючы цераз яе, вядуць дзяцей у дзіцячы садок, у школу... Хто гэта пакажа,

# СТАРШЫ ЛЕЙТЭНАНТ ЖАРНАСЕК

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

Амерыканскія "джыай" часоў в'етнамскай вайны, зялёныя, чорныя і іншага колеру берэты, у залежнасці ад краіны, чые яны былі, групы захопу, спецназы, "Альфы", "Бэты", падобныя да іх каманды і войскі маюць сваю перадгісторыю — дыверсійны полк гітлераўскай Германіі "Брандэнбург". Няварта шукаць прамой пераемнасці пералічаных сучасных фарміраванняў з "Брандэнбургам". Памяняліся часы, шмат дзе памяняўся грамадскі лад. Важкая сутнасць, тое, што іх родніць і збліжае.

Да палка "Брандэнбург" меў прамое дачыненне ас гітлераўскіх спецслужбаў Ота Скарцэні. Ён са сваімі людзьмі пакінуў крывавы след на Беларусі.

У 1943 годзе Ота Скарцэні па загадзе Гітлера вызваляў з палону італьянскіх партызанаў Мусаліні, першага фашысцкага дыктатара ў Еўропе. Скарцэні называюць вялікім шпіёнам. Няпраўда. Ён быў вялікім, калі можна пакарыстацца гэтым словам у дачыненні да спраў, якія рабіў, правакатарам, дыверсантам, проста нягоднікам. Мініруючы, атручваючы, ствараючы паніку, нацягваючы на сябе не толькі чужую форму: але і падрабляючы аблічча, ён і яго падначаленыя сеялі вакол смерць... Нельга сказаць, што ўсе ў "Брандэнбурзе" былі крымінальнікі. Былі, і нямала. Іх скарыстоўвалі на адкрыта "мокрых" справах, як, скажам, пры захопе радыёстанцыі ў прыгранічным з Польшчай нямецкім горадзе Гляйвіц быццам бы польскімі пагранічнікамі. У палку шмат хто валодаў замежнымі мовамі, і не адной, разбіраўся ў тонкасцях тэхнікі, сувязі, быў дасведчаны ў будове грамадскага ладу і ўладных структур дзяржаў, з якімі ўступаў у схватку Гітлер. Такія ўзначальвалі групы дыверсантаў. У нас, як і ўсюды, падобныя групы дзейнічалі ў бліжэйшым тыле. Падключаліся да сувязі і ад імя камандавання давалі супярэчлівыя загады, на дарогах мянялі ўказальнікі, узрывалі масты, нападалі на штабы, абстрэльвалі калоны — стваралі паніку, хаос і неразбярыху...

На могілках у канцы Кладбішчанскай вуліцы лавілі дыверсантаў. Ішла перастрэлка. Хто ў каго страляў, вызначыць цяжка. Усе былі ў форме нашых камандзіраў і байцоў. Дзе свае, дзе чужыя, не разабрацца. Ні фронту, ні тылу. Дыверсанты ж пазіцыйнай вайны не вядуць, яна ім непатрэбна. Стрэліў з аднаго месца і драла, стрэліў з другога — перабег у трэцяе. У некага пацэліў, нехта ўпаў. Пакуль замарудзяцца над параненым ці забітым — схавае зброю, абтрасецца, пабяжыць па вуліцы, найчасцей — пойдзе спакойна. У сустрэчных спытае: "Таварыш камандзір, што там за страляніна?" Калі камандзір з чырвонаармейцамі, прапусціць, калі камандзір адзін, адвернецца і стрэліць у спіну. Пабяжыць, імітуючы, што за ім гоняцца немцы.

Не аднаго такога нягодніка прапусціў паўз сябе старшы лейтэнант Жарнасек, калі бег з байцамі свайго камендацкага ўзвода на Кладбішчанскую. У камендатуры не сціхалі званкі. Гаварылі пра дзесяткі варожых лазутчыкаў. Прыбеглі, а тут — нікога. У страху, кажуць, вочы, вялікія, а ў паніцы доўгія ногі. Жарнасек не ведаў, што дыверсанты пераапрануты ў нашу форму.

Ад вуліцы ўглыб могілак з вінтоўкамі наперавес пасоўваліся чырвонаармейцы і хлапчукі са знішчальнага батальёна, якія на скорую руку быў сабраны. "І мёртвым няма спакою", — падумалася Жарнасеку.

А гэта што такое? З-за помніка непадалёк ад старшага лейтэнанта адзін за другім прагучала некалькі стрэлаў. Жарнасек кумільгам кінуўся да вайскоўца, што страляў, — ён ужо ўбачыў яго. Падбег, упаў поруч, паспеў ударыць па выцягнутай руцэ з узнятым пісталетам, калі той прыцэліўся і гатовы быў страляць зноў.

— Там жа нашы!

Словы "там жа" старшы лейтэнант выкрыкнуў, пакуль не павярнуў галавы той, што страляў. Слова "нашы" вымаўлялася ўрасцяжку, як па літарах, нібы яго прамаўляў чалавек, засынаючы пад наркозам. Побач ляжаў бялявы з рассечаным правым брывом, якога летась сустрэў ён у лесе пад Слонімам. Немец, дыверсант! Мільганула непатрэбнае, што адцягвае ўвагу, на што трацяцца незваротныя долі секунды: я і тады ведаў!

Жарнасек не паспеў ні крыкнуць: "Кідай зброю! Рукі ўгору!", ні аклікнуць чырвонаармейцаў.

Блакітныя вочы немца пранізалі холадам.

— Мы с тобой в одном звании, товарищ старший лейтенант, — на чыстай рускай мове сказаў бялявы і стрэліў Жарнасеку ў жывот.

Мучыў адзін і той жа сон. Кажуць, калі чалавек што і сніць, то ў апошняе імгненне, калі прачынаецца. А тут як нейкая навалач: адно і тое ж, адно і тое ж — бясконца. Старшы лейтэнант ужо загадваў сабе: прачніся, здымі нясцерпны боль, падобны на кашмар, але прачнуцца не мог. Як не мог і трываць. А снілася адно і тое ж. Імчаць яны з Рыпінай на буланым па няроўнай дарозе. Іх вельмі трасе і падкідвае. І кожны раз конь спатыкаецца, і ляцяць яны праз яго галаву на зямлю, і кожны раз Рыпінін востры серп уразаецца яму ў жывот. Апошні раз нясцерпна, балюча.

Жарнасек застагнаў і расплюшчыў вочы. Яшчэ не ўсведамляючы, дзе ён і што з ім, папрасіў піць.

Баец, які ішоў у галавах побач з насілкамі, адвінціў фляжку, змачыў бінт і працёр камандзіру губы.

— Піць! — зноў застагнаў паранены.

— Нельга вам, таварыш старшы лейтэнант. Доктар не вялеў. Зробяць аперацыю, тады дадуць вам папіць, а цяпер нельга. Пацярпіце.

Паступова праяўлялася рэчаіснасць, вымалёўвалася ява. Памяць па кроплі вяртала яму падзеі на Кладбішчанскай вуліцы ў Слуцку. Сённяшнія, учарашнія ці некалькіх апошніх дзён? Дакладна ён сказаць не мог, бо яшчэ не зарыентаваўся ў часе.

Яго неслі на насілках. Лесам. І, мусіць, балотам. Сухім балотам, якое залівае толькі вясной. Вялікія купіны параслі багуном. "Дзівакі, — падумаў, — праз паўгадзіны-гадзіну вы пападаеце ад галаўнога болю, надыхаўшыся дурнап'яну. Звярніце ўбок, пашукайце дарогі".

Байцы неўзабаве так і зрабілі, быццам пачуўшы яго думкі. Здагадаліся самі ці нехта вопытны падказаў, але выбраліся з высокага багульніку, ішлі ўжо негустым борам. Група, у якой неслі і насілкі з Жарнасекам, была немалая. Да яе нехта далучаўся, нехта адасобліваўся ў самастойныя групкі,

як пакажа? Як паказаць, калі ў мяне цераз дом мужык забіў бабу да смерці: біў, біў і забіў. А ў завулку па суседстве жыве чалавек, які збіваў сваю 92-гадовую маці, адбіраў пенсію, прапіваў усё да ніткі. І вось, гляджу, у пачатку мая ў свята радаўніцы ідуць яны абодва з паляровымі кветачкамі на могілкі, выпіваюць там і плачуць: адзін — па любімай жонцы, другі — па любімай маці. Растлумачце мне, рускія людзі, новыя рускія, што гэта за "новы чалавек" паявіўся? "Новыя рускія" ў малінавых пінжаках — гэта я разумею... А вось гэтыя мужыкі, якія на маіх вачах выраслі, як іх паказаць? Як літаратура дабярэцца да гэтай трагедыі, да гэтай страшэннай свядомасці? А свядомасць гэтая з'явілася таму, што ў нас загублена сто з гакам мільёнаў чалавек: пры калектывізацыі, у лагерах, на бяздарна кіруемай вайне, у пасляваенныя пагібельныя гады — ніхто пра іх не гаворыць. Толькі "вясковая проза" дакранулася вуснамі таго ж Абрамава, Бялова, Акулава, Цендракова, Яшына, Носава і іншых. Я ж на Паўночным Захадзе пражыў амаль дзесяць гадоў. Бачыў, у што ператварыліся Іванаўская, Кастрамская, Архангельская, Кіраўская вобласці. Многім, і ў прыватнасці тым, што сёння выступалі, здаецца, што спусташэнне вёскі адбылося ў 93-ім. Прыйшоў Ельцын — і спустошыў Расію. Нічога падобнага! Я паехаў з Волагды ў 80-ым годзе, і яна ўжо была пустою. Ды і ў Сібіры пуста, дзе зямлі процьма, дзе ўтыркні аглоблю ў зямлю — калёсы вырастуць. Як мы ў такім правале апынуліся?

Хай новая літаратура і пакажа нам, як мы, што жылі ў дзяржаве рабочых і сялян, аказаліся ў дзяржаве хворых, інвалідаў, дзе і працаваць няма каму. Малапрафесійнасць, паўкультура, паўпраца, паўадукаванасць — як мы такімі аказаліся? А мы былі такімі — і патрэбнымі. Ніхто не гаворыць, колькі чалавечых жыццяў пайшло на будаўніцтва тунеля пад Енісеем — ніхто не хоча злічыць. Гіне Ігарка, гіне Туруханск, гіне мноства пралетарскіх гарадоў. І гінуць яны, таму што будаваліся без Боскага блаславення, на чалавечых касцях. Яны ўжо ў аснове сваёй былі асуджаны. Літаратура павінна займацца ўсім гэтым, асэнсоўваць гэты працэс.

Трэба будзе не толькі асэнсаваць страшны, небывалы шлях, пройдзены нашым грамадствам, нам трэба будзе ў адпаведнасці з гэтым выбудаваць будучае жыццё і культуру. Вось у чым, па-мойму, задача крытыкі, літаратуразнаўства — і ў глыбокім усведамленні. А што адбываецца? Ну, Казінцаў нападзе на "Знамя", як-небудзь сцебане яго, "Знамя" — яшчэ на каго-небудзь ці разам — на "Новый мир". Але ж не гэтым трэба цяпер займацца! Паглядзіце, што адбылося ў нашай літаратуры. Вось у нас быў створаны фенаменальны рускі літаратурны герой Васілій Цёркін. Усе зачытваліся. Мы на фронце атрымлівалі газеты з "Цёркіным" нерэгулярна, я ўрыўкі выразаў нажніцамі, мы іх на "кардонкі" наклейвалі і перадавалі з узвода ва ўзвод. Памятаю, як сустракаўся з Аляксандрам Трыфанавічам Твардоўскім, ён у мяне пытаўся, ці не зберагласся ў мяне такой "кардонкі", а я яму кажу, што сам, маўляў, ледзьве збярогся. Але, паглядзіце, наш нацыянальны літаратурны герой, усімі любімы, усімі чытаны, не стаў ні Дон-Кіхотам, ні Гуліверам, Ні Мюнхгаўзенам. Чаму? Ды таму, што нас адвучылі ад агульнамаштабнага, ад агульначалавечых каштоўнасцей, мы не змаглі выйсці за межы сваёй краіны. Толькі адзін "Ціхі Дон" ды яшчэ пара-тройка твораў, якія праравалі гэты кардон, гэты ГУЛАГ. Вось мы і не змаглі стварыць маштабнага агульначалавечага героя, і "Цёркін" ім не стаў. Трэба ўсё гэта асэнсоўваць, неяк адштурхоўвацца, адплываць ад гэтай прыстані.

Агіднасці ў сучаснай літаратуры я магу вам прывесці колькі заўгодна. Вось сам я калісьці з вялікай пашанаю паўтараў фразу Сіманава аб тым, што праўду аб вайне ведае толькі народ. Але калі, працуючы над раманам, судакрануўся з нечакана патрапленымі ў рукі матэрыяламі, пранікнуў у іх сутнасць, учытаўся ў многае, дык зразумеў: не ведае ўсёй праўды народ і не ўведае ніколі. Усю праўду аб вайне ведае толькі Бог! Народ не ведае нават трагедыі Другой арміі, якая загразла ў Сінявінскіх балотах, тут, пад Ленінградам. Тое, што я чуў аб гэтай трагедыі, недаступна чалавечай свядомасці. Гэта было проста прадажніцтва: адны здрадзілі другім і гэтак і працягваюць зраджваць. Праўда, я мяркую, трэба не шукаць вінаватых у гэтым жыцці, а пісаць пра сэнс самога часу, людзей, іх гора, пра тое, што чалавек у горадзе стаў больш адзінокім. Вось у маёй "Цар-рыбе" раптам намацалі тэму экалогіі. Ды якая ж яна экалагічная! Гэта кніга пра адзіноту чалавека, і большасць любой літаратуры — нашай ці амерыканскай — яна ўся пра адзіноту чалавека. І тое, што сучасныя празаікі і паэты паказалі хай і ў агідным выглядзе (ці то гэта Петрушэўская альбо Меліхаў), але намацалі гэтую трагедыю, — іх заслуга. Мы, старыя, не можам. Ну няма цяпер лекаў, каб забараніць чытаць і глядзець усю гэтую парнуху і чарнуху! Толькі як наядуцца да ванітаў, як стомяцца ад гэтага — а ўжо стамляюцца, — штосьці зменіцца. Ужо расце попыт на класіку. Вы ведаеце, што ў 11-ым годзе ў гэтай бібліятэцы было падлічана, што Чарскую і Арцыбашава прасілі ледзьве не ў сто разоў больш, чым Льва Талстога. Гэтак і цяпер, але Леў Талстой стаіць на адной паліцы, а ўсе астатнія таварышы — на другой. Думаю, што многае з таго, што цяпер пішацца, адыдзе ўбок, адхварэе, сатлее, але штосьці ад гэтай літаратуры застанецца. Яна пратоптвае на асфальце дарогу, яна сваімі падэшвамі саграваe гэты асфальт, на якім і існаваць культуры нашай. Пра гэта трэба больш думаць і гаварыць, неяк рыхтаваць чытача, у чым і задача крытыкі. Можна праклінаць і плявацца (ну, начытаўся, не падабаецца, дык вазьмі Гогаля, парагачы, і гэтак слаўна робіцца). Заўсёды ёсць амартызатары: у нас на паліцы стаіць вялікая руская літаратура, у ёй ліку і як след не прачытаны Мікалай Васільевіч Гогаль. Гэта, па-мойму, пісьменнік будучыні, якога мы так і не знайшлі часу прачытаць ні ў XIX, ні ў XX стагоддзі.

Працэсы, якія зараз адбываюцца, спыніць нельга. Перавыберуць прэзідэнта, зменіцца ўлада, а працэс літаратурны, як воз, усё будзе ісці ўгору. І ў гэтым працэсе, у гэтай барацьбе народзіцца літаратура, нам яшчэ невядомая. Цяпер толькі ў асобных творах праглядваецца яе будучыня. А моцныя сілы зараз паяўляюцца, чытаю іх з зайздрасцю! Гэта ж пішуць ужо людзі, якія маюць універсітэцкую адукацыю, ведаюць мовы, ім даступная літаратура, недаступная нам. Я вось, напрыклад, Буніна ўпершыню прачытаў на Вышэйшых літаратурных курсах у 45 гадоў: у нас была "Узнятая цаліна" і "Як гартавалася сталь", а ў іх яшчэ і Ніцшэ, і Фрэйд, якіх мы праклінаем. Многіх старых раздражняе — мяне якраз не — што вось, яны працуюць не так, як мы, здаюцца нахабнымі, дазваляюць сабе многае і г. д. Ну і што? Я што, павінен выйсці і сказаць, дапусцім, Пялевіну, што вось ты гад такі, таму што мне не падабаецца? Мы павінны праяўляць цярплівасць, грамадства ў цэлым павінна яго праяўляць. Гэта не азначае, што яно разам з гэтымі маладымі хлопцамі-літаратарамі павінна швэндацца па шынках і казіно, але вось у выцвярэзнік, скажам, схадзіць неабходна, і ў калонію... Я тут нядаўна ў жаночай калоніі пабыў. Пагледзеў на іхнія парадкі там і вымушаны быў сказаць: "Дзяўчаткі, бабы, неяк вяртайцеся да нас, а то, можа, вам тут спадабалася?" Таму што ў іх там чысціня, парадак, і работа ёсць, але не туды трэба, у гэты ГУЛАГ, каб не прывыкнуць да яго. Маё пакаленне павінна ўжо неўзабаве адыйсці, саступіць дарогу і, галоўнае, не заступаць, не тармазіць творчы працэс. Шляхі літаратуры заўсёды былі складанымі, яны не заўсёды паддаваліся розуму — гэта і ёсць тайна творчасці, тайна ўсяго. Грамадства, паўтараю, павінна праяўляць цярплівасць да творчых людзей і калі не дапамагаць, дык хоць бы не перашкаджаць.

**("Литературная газета", 2.VII.97, N 27 (5659))**

мяняючы кірунак руху, выбіраючы азімут па сваім уменні. Неўзабаве іх абагнала група кавалерыстаў, конных,а больш спешаных, і многія з групы Жарнасека падаліся подбегам за імі. Хутчэй да сваіх, да нейкай пэўнасці, да людзей, да яснасці! Над лесам часта праляталі нямецкія самалёты, ледзь не кранаючыся крыламі верхавін высокіх сосен, і амаль бяззбройных людзей гэта палохала. Тыя, што засталіся, а іх было ўжо не густа, мяняючыся, неслі насілкі, ціха перагаворваліся, быццам нехта старонні мог падслухаць. Распытвалі і расказвалі, што з кім здарылася апошнім часам, а баец, што ішоў у галавах побач з насілкамі, перыядычна змочваў яму губы, сціраў з ілба халодныя гарошыны поту.

З перамогу чырвонаармейцаў паступова вырысоўвалася карціна таго, што адбылося пасля бою з дыверсантамі на Кладбішчанскай вуліцы ў Слуцку.

Раненых і байцоў, што іх суправаджалі, на двух машынах — газагенератарным "зісе" і палутарцы — адправілі на ўсход, у бок Урэчча. Гэта было ўчора. За вёскай Кучынка "Зіс" спыніўся — скончыліся дровы, якіх можна было набраць дзе хочаш, асабліва ў леспрамгасаўскай Кучынцы. Ды так ужо вядзецца, у паніцы і галавацяпстве не бачыцца самае простае, адчай засціліае розум. "Зіс" кінулі. Раненых перанеслі ў палутарку, і іх стала — што ў бочцы селядцоў. Здаровыя байцы сядзелі на бартах, бог ведае як трымаліся. Па двое стаялі на падножках абапал кабіны. Перад вёскай Языль іх перастрэла машына, якая раней выйшла са Слуцка на Урэчча, а цяпер вярталася назад. Уперадзе немцы выкінулі дэсант. Над дарогай прайшлі два "месершміты", пачалі разварочвацца. Здаровыя і лёгкапараненыя чырвонаармейцы гарохам пасыпаліся на зямлю. Таго-сяго паспелі выхапіць з кузаваў машын, у тым ліку і старшага лейтэнанта Жарнасека.

З першага развароту "месершміты" расстралялі ўсіх, хто застаўся ў палутарцы. Згарэла і машына, што вярталася з Урэчча...

Трымаліся на поўдзень. Жарнасек пачынаў пазнаваць мясцовасць. Куп'істае балота, парослае багуном, у якое былі ўбіліся. Негусты бор старых ямінскіх хвояў. Цяпер ішлі па лясной дарозе пад высокім густым арэшнікам. Ён хутка скончыцца, і дарога ўвапрэцца ў перпендыкулярную ёй, што агінае тарфяныя выпрацоўкі. Трэба сказаць, каб браліся правей, не выходзілі з лесу ў кусты, за якімі шырока разлягаўся луг. Няхай зробяць прывал. Людзі выдыхаліся. Ён адчуваў гэта. Цяжка дыхалі, часцей спатыкаліся. Кожны збой аддаваўся пякучай рэззю ў жываце. І няхай вышлюць разведку.

— Баец, — пазваў ён бліжняга чырвонаармейца, але той не пачуў ціхага голасу параненага.

Чырвонаармеец, што нёс насілкі ззаду, сказаў папярэдняму, таму, у галавах:

— Варыхаў, нешта прамаўляе камандзір.

Варыхаў, а ён змочваў губы і выціраў пот з ілба параненага, нахіліўся над Жарнасекам. Але таксама нічога не змог разабраць. Спыніліся, паклалі насілкі на зямлю, зморана паселі самі. Зрабілі прывал, выслалі ўперад разведку — зрабілі так, як сказаў бы камандзір. А ён зблажэў зусім. Часта траціў памяць, перарывістым шэптам прасіў піць. А вяртаўся да памяці і змаўкаў, бо ведаў, што піць з яго ранай нельга. Хоць трываць смагу, ад якой патрэскаліся губы, таксама ўжо нельга было, не хапала моцы. Здаецца, каб змог дапаўзці да блізкага кар'ера, выпіў бы ўвесь яго да астатку. І нічога смачнейшага, жаданейшага за тую рыжую ваду ў гэтую хвіліну для яго не было на свеце.

Страціўшы прытомнасць у чарговы раз, напалохаў байцоў зусім. Бледны, з упалымі шчокамі, ледзьве дыхаў. А як трошкі вярталася памяць, мацаў вакол сябе, шукаў фляжку, абшытую шынельным сукном, — у ёй была вада. Паводзіў сябе, як неразумнае дзіця, якое з цікаўнасці можа хапіцца за гарачы агонь. Мабыць, тое было ў бяспамяцтве, бо, апрытомнеўшы і дастаўшы яе, рука аж здрыганулася. Спынілася на момант, потым слаба адпіхнула фляжку далей ад сябе, гэту страшную ў яго становішчы спакусу.

— Піць!..

Наўскапыт імчыць буланы. Спатыкаецца. Праз галаву каня яны з Рыпінай ляцяць на зямлю, і ён ужо ў безлічны раз натыкаецца на вострыя назубленыя Рыпінін серп...

Колькі часу ў чарговы раз праляжаў ён у непрытомнасці, не ведаў. Зноў прабліснула памяць, але ці надоўга? Жарнасек асцярожна абмацаў свой туга забінтаваны жывот, дзе ўсё нясцерпна гарэла, правёў па грудзях.

Варыхаў сядзеў побач, супакоіў:

— Не хвалюйцеся, таварыш старшы лейтэнант, дакументы вашы ў мяне. Як разарвалі і знялі з вас гімнасцёрку, я іх забраў. І пісталет ваш падабраў на могілках у Слуцку. Таксама ў мяне, — сказаў чырвонаармеец. Памаўчаў, пасля са шкадаваннем працягваў, нібы жалячыся: — А гад той уцёк. Забіў яшчэ аднаго нашага байца, калі мы кінуліся да вас.

Ён звыкла змачыў скрывянелыя губы камандзіра насоўкай, складзенай тампонам, прамакнуў халодны пот на лбе, поламі шынялі, на якім ляжаў старшы лейтэнант, акрыў яго ногі.

Блізіўся надвячорак. Пасвяжэла паветра, пагусцелі цені. Мінула даволі часу, як чацвёра таварышаў Варыхава пайшлі ў разведку і прапалі. Гэта непакоіла чырвонаармейцаў. Спачатку меркавалася, што пойдуць удвох, але паразважалі, а што астатнія будуць рабіць? Каля раненага хопіць і аднаго, яго, Варыхава. Каб не страляніна, што неўзабаве ўсчалася недзе за кустамі на лузе, не так бы кошкі шкраблі ў яго на душы. Сядзі, чакай ля мора пагоды. Паміраe старшы лейтэнант. Варыхаў не доктар, а і ён бачыць, што паміраe іх новы камандзір. Ці ж можна так сіднем сядзець, нічога не робячы?! Ды і ўсцішна з раненым у невядомасці, кожны шорах насцярожвае. Не, трэба самому ісці ў разведку, хоць у якія пошукі.

Жарнасек ляжыць з адкрытымі вачыма, пазірае ў неба, але наўрад ці што бачыць там. Не варушыцца, мабыць, дагаджае свайму болю, каб не ўцвяляць.

Варыхаў рашаецца, гаворыць:

— Пайду, таварыш старшы лейтэнант, у разведку. Не бойцеся, вас не кіну, вярнуся. На ўсякі выпадак пакідаю вам сваю вінтоўку, а пісталет вазьму, з ім зручней.

Убачыў, што камандзір замыляў губамі, нахіліўся над ім.

— Залессе — мая вёска... скажы... — прашаптаў Жарнасек і змоўк, прawальваючыся ў непрытомнасць...

Прыхаваныя кустамі, на ўскрайку лугу стаялі дзве нямецкія танкеткі. З дэсанта, што перарэзаў дарогу на Урэчча, яны ўжо апынуліся тут, на шляху адступлення разбітых часцей, сеючы ў іх яшчэ большую паніку.

— Глядзі, Вілі, яшчэ адзін, — сказаў камандзір танкеткі, што стаяла бліжэй да працёртай лугавой дарогі.

Другая была метраў за семдзесят ад яе.

— Бачу, Ота, — пачуўся ў навушніках голас Вілі. — Асцярожны, хаваецца за кустамі.

— Асмеліцца. Выйдзе на луг, паганяем, як зайца.

Чырванаармеец доўга не паказваўся з кустоў, затым выйшаў і таропка накіраваўся ў бок вёскі.

Ззаду і збоку раўнулі маторамі танкеткі, і, беручы ў клешчы — адна ад кустоў і лесу, другая — з боку вёскі, — пагналіся за байцом. Ён пабег. Але хіба чалавек можа цягацца з машынай?! Вось-вось дагоняць і раздушаць. Баец выхапіў пісталет і пачаў адстрэльвацца, цэлячы, на колькі можна бегучы, у адкрыты лючок вадзіцеля. Спадзяваўся спыніць найперш тую танкетку, якая адсякала дарогу да кустоў і лесу. З камандзірскага люка танкеткі высунуўся ствол "шмайсера" і задрыжаў.

Чырванаармеец упаў.

З танкеткі выйшаў падцягнуты, стройны немец у плямістым камбінезоне, нахіліўся над ім, выняў дакументы.

— Старшы лейтэнант, — прачытаў ён. Недаверліва зірнуў на забітага, крануў пятліцы, зняў пілотку. Галава была стрыжаная нагала. Немец скрывіўся: — Салдат! — Адгроб нагой убок пісталет. Разгарнуў другі дакумент — салдацкую кніжку, прачытаў: — Варыхаў Васіль Ігнатавіч, чырвонаармеец.

Пад'ехала другая танкетка. Ота паказаў Вілі дакументы старшага лейтэнанта, кінуў на адкінуты пісталет, выказаў здагадку:

— Рускі салдат забіў свайго камандзіра. Хацеў перайсці да нас.

— Хай бы не ўцякаў.

— А куды б мы яго дзелі, Ота? — пасміхнуўся Вілі...

Старшы лейтэнант Жарнасек апрытомнеў раніцай. Не расплюшчваючы вачэй, адчуў, што ўзыходзіць сонца. Пачаў прыгадваць, дзе ён і што з ім. Успомніў і жахнуўся. Але чамусьці было лёгкалёгка, што не хацелася варушыцца, каб не спалохаць гэтую лёгкасць. Перад канцом, кажуць, робіцца так з усімі. Ад гэтай думкі не запанікаваў, узяў сябе ў рукі. Хай доўжыцца час, які адпушчаны пабыць з праясненым розумам. Побач родная вёска. Там Рыпіна. Спі спакойна, родная, хай не пабудзіць цябе мая згадка. Я паміраю. Не паспеў нават паведаміць, што перавялі служыць пабач, у Слуцк. Не будзе нашага вяселля, Рыпіна, восенню, як дамаўляліся ў пісьмах. Ніколі не будзе з табой майго вяселля. Што можна сказаць яшчэ? Жыві шчасліва, хай агонь цябе абміне....

Выкацілася сляза, уздрыгнулі і прыадкрыліся павекі. Йўгену Жарнасеку здалося, што яго пабудзіў нейкі шорах, нешта адскочыла ад яго, але не пабегла. Расплюшчыў вочы, убачыў: непадалёк стаяла ліса, пазірала на яго, выцягнуўшы пысу, прынюхвалася. Яму захацелася ўзяць вінтоўку Варыхава, але не дацягнуўся. Ліса шмыганула ў кусты. А яму ад рэзкага руху разанула ў жываце. Пацямнела ў вачах, і ўжо нічога так не хацелася на свеце, як піць.

Далей за вінтоўкай ляжала фляжка, абшытая шынельным сукном, з кнопкай на рыльцы. У ёй — вада! Цяпер, калі яму ўсё стала ясна, пашкадаваў, што мучыў сябе ўсяленскай смагай, і пацяг-

*Гэты ўрывак — з успамінаў пра грамадзянскую вайну, якую разыгралі калісь на абшарах былой Расійскай імперыі "белыя" і "чырвоныя". Іх аўтар — беларус, ураджэнец Навградчыны, сын фальваркоўца, чалавек з пэўным вопытам літаратурнай працы. У 1915 годзе ён быў прызваны на вайсковую службу — раней тэрміну на два гады, бо ішла вайна з кайзераўскай Германіяй. Скончыў у Пецяргофе школу прапаршчыкаў, атрымаў званне афіцэра. Рыхтаваўся ваяваць на фронце з немцамі, але не давялося. Прайшоў праз іншую вайну — братазабойчую. Напачатку служыў у Фінляндыі (горад Мікалайштат) у 423-ім пяхотным Лужскім палку, сябраваў з прапаршчыкам Вацлавам Юшкевічам, земляком са Слоніма, бальшавіком, які пасля Лютаўскай рэвалюцыі быў абраны салдатамі камандзірам палка. Разам з ім — у якасці ад'ютанта — выехаў на Дон для барацьбы з казацкім войскам генерала А. Каледзіна. Хто ведае, як склаўся б яго далейшы лёс, каб не захварэў тады ў дарозе і не трапіў у шпіталь, пасля чаго доўга гуляў на волі.*

*У белую гвардыю завербаваўся ў жніўні васемнаццатага, у Кіеве. Ваяваў два гады. Яму пашэнціла: у час крымскага разгрому урангелеўскай арміі ўдалося прабіцца на параход "Дон", на якім шчасліва дасягнуў берагоў Турцыі. Адтуль — ужо праз гады — вярнуўся на любую сэрцу Навградчыну.*

*Успаміны пачаў пісаць напрыканцы жыцця. Нататкі пра свой удзел у грамадзянскай вайне завяршыў у 1961 годзе, за год да смерці. Зараз яны рыхтуюцца да друку ў часопісе "Полымя".*

Платон КРЭНЬ

# Уцёкі з Крыма

Грамадзянская вайна ўжо канчалася. Пасля ўпартых баёў пад Кахоўкай белыя адыходзілі па ўсім фронце да Паўднёвага Крыма. Было бачна, што наступіла развязка, канец расійскай трагедыі. Камандаванне Урангеля яшчэ ўскладала пэўныя надзеі на Перакоп — апошні магутны рубеж, умацаваны французскімі інжынерамі па апошнім слове ваеннай навукі. Але вось паў і Перакоп. Белыя рынуліся да мора, дзе іх чакалі караблі.

У ноч з 31 кастрычніка на 1 лістапада 133-ці Сімферопальскі полк пакінуў пазіцыі і, мінуўшы вароты Перакопа — мястэчка Армянск, раніцай падышоў да чыгуначнай станцыі Джанкой. Тут, уздоўж чыгуначнай магістралі, ішла шаша з Феадосіі на Севастопаль, куды было загадана рухацца палку для пасадкі на карабель і эвакуацыі. Спыніліся на кароткі прывал ля штыкетніка чыгуначнага пасёлка, за якім паўсюль чуўся брэх сабак, і распалілі абозную кухню. Коні панурылі галовы, цяжка дыхаючы мокрымі бакамі. Людзі крычалі, нерваваліся, лаяліся. Адны хацелі зараз жа бегчы далей, запэўніваючы, што вось-вось наскочаць бальшавікі; іншыя хацелі адлачыць і паесці, яны гаварылі, што чырвоныя далёка і "чему быть, того не миновать". Ужо не было ні дысцыпліны, ні камандзіраў...

Я сядзеў на абознай фурманцы і абыякава пазіраў на цёмны, голы стэп. За ноч паспешлівых уцёкаў кудысьці знікла пачуццё страху і нарадзілася радасная палёгка, як у вандроўніка, які зваліў урэшце з плячэй цяжкую ношу. "Цяпер канец вайне, канец доўгаму кашмару, — думаў я. — Ляцім на чужыну, ляцім назаўсёды!.." Ад гэтай думкі станавілася балюча і страшна. Раптам пачуліся крыкі: "Чырвоныя! Чырвоныя! Кавалерыя!" Я ўбачыў, як з боку Перакопа, пабліскваючы аголенымі шаблямі, імчаліся лавай коннікі наперэймы нейкаму абозу, які ўцякаў па Севастопальскай шашы. Чырвоныя хутка яго дагналі, і, працуючы шаблямі, далёка заскочылі наперад. У нас пачалі крычаць: "На Феадосію! Там ужо абознікаў сякуць!" У паніцы мы кінуліся на паўднёвы захад, пакідаючы на месцы кухню, правізію і зброю. Пачаўся шалёны галоп у бок ад Севастопальскай шашы, далей ад пабліскваючых шабляў. Зноў паляцелі на абочыну дарогі скрыні і кулямёты, — усё, што было цяпер непатрэбным і цяжкім. Хутка пачалі падаць коні, ламацца калёсы. Людзі ўжо ішлі пехатой, адставалі, выбіваліся з сіл, сядалі або валіліся на зямлю. Нейкі кульгавы ад ранення капітан упаў проста ў пыл дарогі. Ён дастаў наган і грымнуў стрэл; у яго знясло паўчэрапа... За намі не гналіся, і надвячоркам мы дасягнулі пустэльных гор, што зараслі дробным хмызняком. За гарамі была Феадосія, караблі і паратунак. У гарах сустракаліся зрэдку хаціны татараў, і ў адно такое жыллё я заскочыў з таварышам. У сенцах быў зроблены ачаг, і старая татарка, седзячы на дыбачках, корпалася рукамі ў попеле. "Экмэк, — сказаў мой таварыш, паказваючы рукой на рот, — экмэк!"[1] Татарка моўчкі дастала з попелу невялічкі бляшаны кацёл і раскрыла яго. Адтуль пайшла густая пара. Перавярнуўшы пасудзіну дагары, яна вытрасла круглую галоўку печанага хлеба і, адламаўшы, дала нам па кавалку.

Зноў беглі наперад і ўжо ў цемры спусціліся з гор проста на шырокую вуліцу стоенага, без агнёў горада. Вуліца прывяла нас да прыстані, асветленай чырванаватым полымем палаючых бочак. Ля самай набярэжнай стаяў параход "Дон" — вялікае чатырохтрубнае судна, з высока ўзнятай над вадой палубай. Ля парахода, у барвовым святле бочак, мітусіўся і крычаў, як шалёны, натоўп вайскоўцаў, цывільных і жанчын. Трап парахода быў прыбраны, а палуба загружана народам, які ў сваю чаргу жэстыкуляваў і штосьці крычаў. Час ад часу дзесьці недалёка вухкала артылерыя і глуха страчылі з кулямётаў. Гэта яшчэ біліся нейкія ваенныя часці белых, як казалі, "кінутыя на з'ядзенне", затрымліваючы бальшавікоў, якія насядалі, і прыкрываючы эвакуацыю. Хтосьці з парахода крычаў у рупар: "Слухайце! На караблі знаходзяцца генерал Хвосцікаў са штабам і кубанскія казакі. Карабель перагружаны, месцаў больш няма! Сюды ідзе параход "Генерал Карнілаў", ён забярэ ўсіх!" Праз секунду пачуўся выбух крыкаў і лаянкі. Ніхто і нікому не верыў. На палубу парахода паляцелі камяні, цагліны, абломкі дошак. "Далоў



генерала Хвосцікава! За борт яго! Ашукваюць, падлюгі!" — раўлі ашалелыя людзі. Кубанцы з палубы пачалі скідваць на набярэжную тоўстыя канцы канатаў. За іх чапляліся па некалькі чалавек. Некаторыя чапляліся і падалі ў мора, іншых усцягвалі казакі наверх. Я бачыў, як адна дама падбегла да вяроўкі. У руках яна трымала маленькі чамаданчык і сумачку. Не раздумваючы, яна іх кінула ў мора, а сама ўчапілася за тоўсты мокры канат. Яе пацягнулі ўгору. Яна вісела на руках, матляючы нагамі і б'ючыся целам аб борт. Напалове сарвалася і з вышыні паляцела ў мора. На палубе гучна зарагаталі казакі, але дама вынырнула, прарэзліва закрычала і паплыла. Гэта яе выратавала. Даму выцягнулі.

Непадалёку ішоў пагром — разбівалі таварныя вагоны з англійскім абмундзіраваннем і прадуктамі. Частка народу кінулася туды. Усё расцягвалася, выкідвалася, раскрадвалася, знішчалася. Хадзілі па цукры, які бялеў, нібы снег, на бруку, па пшанічнай муцэ, па англійскіх шынялях. З горада нахлынулі якіясьці цёмныя асобы...

Артылерыйская і кулямётная страляніна раптоўна сціхла. Я адчуваў велізарную стомленасць і абыякавасць да ўсяго. Разам з іншымі пайшоў у адзін з пустых баракаў, які служыў партовым складам. Я лёг на лаўку і з прыемнасцю выцягнуўся. Побач некалькі вайскоўцаў разважалі пра безнадзейнасць становішча. Яны вырашылі ісці ў горы, пакуль на позна, каб схавацца і перачакаць.

— Зараз жа ідзём у горы! — гаварыў высокі рыжавусы паручнік. — Вось-вось чырвоныя ўварвуцца і ўкакошаць усіх.

Раптам на прыстані пачуўся грукат, шум і крыкі. Усе кінуліся да выхаду. Гэта прыехала артылерыя, якая затрымлівала чырвоных. Чатыры лёгкія гарматы былі накіраваны ва ўпор на карабель, пагражаючы патапіць судна, калі артылерыстаў не возьмуць на борт. Пачаліся перагаворы. Высветлілася, што бальшавікоў ужо ніхто не затрымлівае і яны хутка будуць тут. З парахода скінулі трап, пачалася пагрузка. Капітан карабля крычаў у рупар:

— Прымаем толькі артылерыстаў! Адных артылерыстаў! Карабель перагружаны, у трумах няма баласту, ён увесь сядзіць наверсе і можа перавярнуцца!

Але людскі паток рынуўся на трап. Падхоплены натоўпам, я раптам апынуўся на прыступках лесвіцы. Людзі лезлі па-звярынаму, з нейкім адчайным хрыпам і стогнам. Караскаліся па спінах і галовах. З дзікай шалёнасцю іх білі і скідвалі ў мора. Парэнчы не вытрымалі, абламаліся ўнізе.Людскі клубок паляцеў у ваду і там густа заварочаўся. У гэты час мяне выціснулі на палубу. Я перавёў дух: скалечанае цела балела, але косці былі цэлыя. Падбітае вока перашкаджала глядзець, на абарваных бартах шыняля размазалася кроў з разбітага носа, але сэрца білася радасна: "Выратаваны, выратаваны!"

А людзі лезлі, зрываліся, тоўпіліся і ўсё лезлі. Па прыстані пачалі цокаць кулі. Пагрузка амаль закончылася. Карабель паволі рушыў за скалы на знешні рэйд і кінуў якар. На яго борце было дзевяць тысяч чалавек. З палубы я ўбачыў, як у бухце бездапаможна боўталася баржа, а на ёй людзі. Яны крычалі і размахвалі рукамі. З-за скалы выскачыў кацер і бойка пайшоў да баржы. З кацера кінулі канат, на баржы яго схапілі. Чырвоныя ўзмацнілі бязладны агонь па бухце, але бойкі кацярок ужо цягнуў баржу да судна. Хутка "Дон" накіраваўся ў мора.

Раніцай мы прайшлі паблізу Ялты і сталі ў полі зроку Севастопаля. Гаварылі, што генерал Урангель яшчэ ў горадзе, і мы яго будзем чакаць. Сонца, ціхае і яркае, асвятляла белыя сцены горада, залатыя купалы цэркваў. На палубе стаяла цішыня. Усе глядзелі на бераг моўчкі, прагна, з невыказным пачуццём развітання з Радзімай. Людзі пачалі знімаць шапкі. "Бывай, Расія, бывай назаўсёды", — думаў я, і слёзы круціліся на вачах. Вось ад берага адарваўся карабель і, пускаючы чорныя клубы дыму, хутка рушыў да нас. На галоўнай мачце развяваўся расійскі трохколерны сцяг. Гэта на ваенным караблі ішоў генерал Урангель. Мінаносец параўняўся з параходам і стаў. У нас зараз жа скінулі трап, а там спусцілі шлюпку. Праз некалькі мінут да нас па трапе падняўся Урангель, высокі і худы чалавек у чаркесцы і папасе. Пачулася дружнае "Ура!" Шырокім жэстам паказваючы на бераг, генерал сказаў: "Панове! Мы пакідаем родную зямлю, але барацьба не спынена. Я прыкладу ўсе намаганні, каб захаваць воінскія часці і іх баяздольнасць. Хто стаміўся і страціў мужнасць, можа перайсці на становішча бежанцаў. Баявыя арлы! — ён павысіў голас. — Што чакае нас заўтра,я не ведаю, але барацьба з бальшавікамі будзе працягвацца і тады, калі не будзе нас. Гэта барацьба за сапраўдную свабоду і правы чалавека. Калі-небудзь рускі народ зразумее падман, а мы, што зразумелі яго першымі, расплачваемся пакутамі і крывёю". Ён зняў папаху, правую руку прыціснуў да грудзей: "Бывайце, баявыя сябры!" Шырокім крокам пайшоў па трапе. "Ура! Ура! Ура-а-а-а!" — неслася ў паветры, пакуль ён з непакрытай галавой адплываў у шлюпцы.

Хутка мінаносец знік за гарызонтам.

**Падрыхтоўка тэксту Ірыны КРЭНЬ**

---

[1] *Экмэк — хлеб*


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Мікола ГІЛЬ** — *намеснік галоўнага рэдактара*
**Міхась ЗАМСКІ,**
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Жана ЛАШКЕВІЧ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
**Юрась СВІРКА,**
**Віктар ШНІП** — *адказны сакратар*



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 2332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2332-204
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фотакарэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2682-667





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4222
Нумар падпісаны ў друк 17.7.1997 г. у 17.30.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 4100/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12